АНАТОЛЬ СЕРБАНТОВІЧ

# жаваранак у зеніце



# АНАТОЛЬ СЕРБАНТОВІЧ

# *жаваранак у зеніце*

ВЕРШЫ



МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1989

ББК 84Бел7
С 32

Укладанне і прадмова
СЯРГЕЯ КАВАЛЁВА

Анатолий Сербантович (1941—1970) — не прожил и тридцати лет, но оставил заметный след в белорусской литературе. Его поэзия — по-юношески ершистая, страстно-полемическая, с годами становилась все умудреннее и углубленнее, стремилась к лирико-философскому осмыслению жизни, широким взглядам на мир.

В книгу вошло все лучшее как из его известных книг («Азбука», «Минное поле», «Перстень»), так и ранее не публиковавшееся.

С $\frac{4702120202-018}{М\ 302(03)-89}$ 113—89

ISBN 5-340-00116-4

# ГЛЫТОК ЖЫЦЦЯ

Нарадзіўся ён 13.5.1941 г. у вёсцы Ордаць Шклоўскага раёна Магілёўскай вобласці ў сям'і настаўнікаў. Нарадзіўся слабым і хваравітым, хваробы не адпускалі яго на працягу ўсяго жыцця.

А праз нейкі месяц пачалася вайна. Пацягнуліся доўгія дні акупацыі. Верагоднасць выжыць для такіх вось немаўлят зменшылася неймаверна, нават для фізічна больш-менш здаровых, нават за лініяй фронту. А тут...

Ля вёскі забілі немца. Жыхары Ордаці ратуюцца ад расправы ў лесе, рыюць акопчыкі і жывуць там некалькі дзён. Лес блакіруецца і затым прачэсваецца. Сербантовічам пашанцавала: акоп быў закрыты, старанна замаскіраваны, а фашысты ў пошуках партызанскага атрада спяшаліся. Смерць прайшла недзе побач.

Дарослых вяскоўцаў пад выглядам звычайных штодзённых работ адпраўляюць на лінію фронту рыць акопы. Па дарозе на фронт адна з жанчын раптам кінулася з натоўпу праз кусты да блізкага балотца. Аўтаматная чарга, яшчэ некалькі. Канвой, на шчасце, не спыняецца. Ноччу маці вярнулася да сына.

За хатай было вырыта невялічкае сховішча, куды жанчыны перабіраліся, заўважыўшы на вуліцы немцаў. Аднойчы салдаты з'явіліся нечакана, маці паспела толькі стаць за вугал печы. Калі ў хату зайшлі немцы, яны ўбачылі ў самаробнай калысцы маленькага хлопчыка, які працягваў рукі ў напрамку печы і клікаў: «Ма-ма...» На шчасце, акупанты ў той раз проста шукалі ежу...

Колькі іх было, такіх выпадкаў, за доўгую вайну? Быццам нехта гуляў з ім у прымусовую і небяспечную гульню.

І ўсё ж свет быў радасны і светлы, нават у галодныя пасляваенныя гады. Былі звычайныя чалавечыя радасці, шматлікія сябры, заняткі: рэчка Бася, у якой тады яшчэ вадзіліся ракі, а на захадзе сонца на паверхні шалела шмат усякай рыбнасці, лес і поле, ягады і грыбы, цёплыя летнія дажджы, зімой заўсёды жаданы для хлапчукоў снег. А ў пяць гадоў ён навучыўся чытаць, і тады сусвет раптам выбухова пашырыўся і падрос, стаў складаны і неабсяжны. Чытаць ён навучыўся простым і не зусім звычайным спосабам. Маці-настаўніца не хацела, каб сын авалодаў навукай яшчэ да школы, тады гэта лічылася шкодным, маўляў, у першым класе не будзе чаго рабіць. Але ўслых сыну чытала шмат, рыхтуючыся да ўрокаў. Адным вечарам у хату прыйшоў магутны, кранальны сваёй незразумела-простай сілай «Каўказскі палоннік» Талстога. Спачатку хлопчык папрасіў маці прачытаць апавяданне яшчэ раз. Асабліва зачараваў яго абаяльны і мяккі вобраз Дзіны, а паколькі малюнкаў у кнізе не было, ён захацеў, каб яму паказалі хоць само слова. Задаволіўшы сваю цікаўнасць, адышоў і надоўга змоўк. А потым паклікаў маці і паказаў кнігу, у якой слова «Дзіна» было падкрэслена па ўсім апавяданні. Маці растлумачыла, з якіх літар складаецца гэтае імя, потым прыйшла чарга Жыліна

і Кастыліна, а праз некалькі дзён хлопчык упэўнена чытаў увесь твор цалкам.

Вось толькі пісаць пачаў адразу друкаванымі літарамі і ў першым класе доўга не хацеў пераходзіць на звычайны «грамадзянскі» пропіс.

Побач з выхаваннем жыццём заняло сваё месца выхаванне кнігай. Чыталася шмат і, зразумела, без усялякай сістэмы, што трапіць пад руку. Выпадала ў пятым класе сустрэцца з «Уваскрасеннем» і «Вайной і мірам», а ў сёмым — з казкамі Афанасьева і Фенімора Куперам. Вершы не любіў і пазбягаў ажно да старэйшых класаў. Як і ўсе хлапчукі, нямала чытаў пра вайну. Пашанцавала ў тым, што з кніг траплялa амаль што адна класіка, таму густ не псаваўся.

Слова на ўсё жыццё ўразіла яго сваёй сілай і дзейснасцю на людзей. Маленькія сёстры плакалі наўзрыд і шукалі абароны ў маці, калі ён прыдумваў пра іх невялічкія песенькі. Слёзы — «ён пра мяне напісаў» — зноў слёзы — «няпраўда, я не такая» — выбух слёз, і — «я болей не буду, не пішы». Гэта дзеці. А дарослыя? Ці не забыўся той дзед, якога памылкова пазбавілі пенсіі і вярнулі яе пасля ліста Толі ў раённую газету, пасля таго хоць аднаго разу павітацца пры сустрэчы? Дзе тыя шэсць сірот, якія бадзяліся ў пошуках кавалка хлеба па навакольных вёсачках? Такі ж самы ліст у раёнку — і зараз яны ў дзіцячым доме, старэйшыя ўжо за партай. І адваротная рэакцыя: сусед, які любіў выпіць за чужыя грошы і таму трапіў у адну з першых баек юнага паэта, перастаў вітацца ўвогуле з усёй сям'ёй Сербантовічаў.

Дзесьці з гэтых напаўдзіцячых назіранняў і выкрышталізаваліся потым сур'ёзныя і сумленныя адносіны да паэзіі, разуменне яе вартасцей і магчымасці ўскоснага ўздзеяння на свет матэрыяльны.

У школе яму далі мянушку «Броўка», якую ён вельмі не любіў, прычым далі не вучні, а, як гэта ні

дзіўна, настаўнікі, і за гэтую ж не ўсімі зразуметую схільнасць пісаць. А яшчэ за тое, што на ўроках часта спрачаўся з настаўнікамі і калі заўважаў іх памылкі — не змоўчваў, папраўляў.

Вёска фарміравала асобу, тут, у працы, сярод добра знаёмых «суседскіх» людзей было лёгка і проста, адносіны вымяраліся патрэбамі справы і традыцыйнай народнай мараллю, хлусня, крывадушнасць, як і ўвогуле ўсякае зло пры сваім з'яўленні аказваліся навідавоку.

Ад прыроды жвавы і непаседлівы, ён упэўнена адчуваў сябе ў сяброўскім калектыве, своеасаблівыя законы якога, этыкет успрымаліся як усеагульныя, адзіна правільныя. І толькі адна рыса характару перашкаджала поўнасцю адчуць сябе заспакоеным і прыстасаваным да гэтага свету — бескампраміснасць, не проста чэснасць і шчырасць душы, а хутчэй дзіцячая прастадушнасць, нежаданне рабіць нават выключэнне з агульнага кодэкса чэсці. Вось гэта ўжо ішло аднекуль са свету ідэальнага, у якім адсутнічалі нявырашанасць учынкаў, празмерная ўскладнёнасць і заблытанасць сапраўднага жыцця, адтуль, дзе не дазваляліся памылкі і нічога нікому не даравалася. З аднаго боку, тая ж настаўніца гаворыць лухту і страшэнна блытае тэкст. «Чаму яна няпраўду гаворыць?» З другога боку, у гэтай жанчыны чацвёра дзяцей, двое з іх зусім маленькія, яны растуць без бацькі, вось яна і не паспела прачытаць апавяданне, паспадзявалася на сваю змучаную нялёгкай працай памяць. Можна і прамаўчаць, праўда? «Але чаму яна няпраўду гаворыць?!»

Гэта не жорсткасць, не. І не фанабэрства. Інакш бы яго не любілі так таварышы, інакш бы не аплаквалі так прачулена заўчасную смерць аднавяскоўцы.

З 1959 года ў Шклоўскай раённай газеце «Чырвоны барацьбіт» разам са шматлікімі заметкамі і фелье-

тонамі пачалі друкавацца і вершы юнага паэта, у асноўным байкі і сатыркі на злобу калгаснага жыцця. Праца ў калгасе грузчыкам (пасля заканчэння сярэдняй школы ў 1958 годзе) не толькі абумовіла тэматыку яго першых больш-менш сталых твораў, але надзіва моцна і своеасабліва пры сваёй невялікай працягласці паўплывала на пафас усёй яго паэзіі.

Пасля таго як яшчэ ў сёмым класе Анатоль упершыню зайшоў у рэдакцыю райгазеты, яму даводзілася некалькі разоў пабываць на літаб'яднаннях, на абласных і рэспубліканскіх семінарах пачынаючых пісьменнікаў. Асабліва ўразілі сустрэчы з паэтамі Васілём Матэвушавым і Аляксеем Пысіным. «Разумныя, дужа разумныя»,— захоплена расказваў ён маці. Што мелася на ўвазе пад словам «разумныя», уявіць не цяжка. Мусіць, упершыню сустрэў ён людзей, якія самі пісалі таленавітыя вершы і добра разумелі яго юнацкія памкненні, яго, пакуль яшчэ не абгрунтаваную і не пацверджаную справай, творчую задзірыстасць і непрымірымасць. Тады менавіта і акрэслілася думка: пасля заканчэння школы паступаць ва універсітэт, а галоўнай справай жыцця выбраць паэзію.

Але адразу пасля заканчэння школы ва універсітэт ён не паступіў. За некалькі месяцаў да ўступных экзаменаў трапляе ў бальніцу з цяжкай траўмай галавы. Неаднойчы потым давядзецца яму пакутаваць ад гэтай невылечнай траўмы, неаднойчы прыйдзецца перапыняць важную і тэрмінова неабходную працу, каб звярнуцца да паслуг дактароў.

Паспяховае паступленне наступным (1960) годам у БДУ імя У. І. Леніна прымусіла зірнуць на свае паэтычныя спробы больш уважліва і патрабавальна. З першых дзён вучобы ён зразумеў: універсітэт патрэбен паэту не толькі дзеля таго, каб браць веды і майстэрства. Спачатку неабходна сюды нешта прынесці, з нечым сваім прыйсці.

Вершы з'яўляюцца хутчэй, чым падставы для іх, пачуццёвая глеба. Менавіта падставы, жыццёвыя назіранні і вывады з сэнсавых пошукаў, а не імгненныя ўражанні-прычыны канкрэтных твораў. Недзе на другім курсе ў Анатоля Сербантовіча ўжо быў рукапісны зборнік вершаў, прачытаць які мелі магчымасць шматлікія сябры і таварышы па вучобе. Аднак складаўся ён у большасці сваёй з вершаў, часткова напісаных яшчэ да вучобы і потым крыху дапрацаваных, часткова створаных тут, у Мінску, але ў той жа танальнасці. Натуральнасць, першаснасць вершаў пра працу, нават, здаецца, наўмысная шурпатасць і непрыгладжанасць радкоў (яшчэ з абласных семінараў, задзірыстае — «А я ж грузчык, няма калі мудрагеліць!») прыцягвалі ўвагу, падабаліся. Нямала ішло ў друк. Але тыя творы, дзе мелася спроба разважаць пра пачуцці, пра каханне, крытыкаваліся ва ўсіх рэдакцыях (у тым ліку і ў «Чырвонай змене», там найчасцей бываў паэт), нідзе не прымаліся і ўвогуле выклікалі ўсмешку.

Няма нічога дзіўнага, што малады паэт пісаў пераважна пра свае родныя мясціны, пра жыццё і памкненні аднавяскоўцаў. Увогуле ўражанні дзяцінства пры іх далейшым пераасэнсаванні далі творчасці Анатоля Сербантовіча шмат.

Сапраўднае пачуццё ў яго паэзію прынёс вобраз маці. І менавіта любоў і ўдзячнасць да маці сталі першымі сапраўднымі цаглінамі ў будынку яго паэзіі, а не раннія няўдалыя паэмы «Любоў без адрасу», «Пажар», «Вяртанне». Вобраз маці выхоўваў у ім паэта, як сама маці выхоўвала ў ім чалавека. А потым — вобраз сястры, напрыклад, сястры хірургічнай з добрага і чалавечнага верша «Хірургічная сястра». Цікава: глыбокая павага да чалавека прыйшла ў яго паэзію толькі разам з павагай да жанчыны і ў першую чаргу да жанчыны-маці і жанчыны-сястры. Тыя ж са-

мыя «незамужнія цёці ўдовы» зараз выглядалі з яго вершаў мужнымі і абаяльнымі істотамі. З каханнем жа ў вершах не ладзілася доўга. Разам з пасрэднай лірыкай па інерцыі з'яўляліся яшчэ «жорсткія рамансы». Мусіць, патрэбна было асабіста глыбокае і трагічнае перажыванне, пасля яго толькі з'явіўся верш «Мая каханая — зіма» — верш увогуле характэрны для паэтычнай манеры Сербантовіча:

Мая каханая — зіма.
Любіць другую не сумею.
Я па табе іду, зямля,
Абняўшы русую завею.

Сняжынкі — белыя агні,
Кусты малочныя, алеі —
І эталонам чысціні
Мая каханая бялее.

Яна харошая ў мяне.
Яна — і сонца, і марозы.
Прамень каханую кране —
Мая каханая у слёзы...

І вось каханае няма:
Мая каханая — зіма...

Колькі музыкі ў гэтых першых строфах вялікага па памерах верша! Якая недатыкальнасць, цнатлівасць пачуцця, лёгкасць слоў і рытму! Сапраўдны «эталон чысціні», ён чамусьці быў адзначаны ва ўсіх рэцэнзіях на першую кнігу паэта, як няўдалы і штучны.

Поўнасцю Анатоль Сербантовіч склаўся як паэт недзе да 1964 года, калі ўжо вучыўся на чацвёртым курсе. І не таму, што рэгулярна друкаваўся ў цэнтральных рэспубліканскіх часопісах, напісаў некалькі

паэм, а з вершаў мог выпусціць салідны па памерах і неблагі па зместу зборнік. Склаўся як паэт ён нават не ў якасных адносінах, не па ўзроўню майстэрства, а ў тым сэнсе, што менавіта ў гэты час пачалі выяўляцца магістральныя напрамкі пастаўленых ім перад сабой задач, асновы творчага мыслення, сваё кола тэм і вобразаў, прынцыпы іх рэалізацыі ў слове.

Грамадзянская накіраванасць і пафаснасць прыйшлі неяк хутчэй і адразу зрабіліся характэрнай прыявай яго паэзіі, вылучалі яе сярод творчасці аднагодкаў. Заўважалася цікавасць да гісторыі, да больш блізкіх падзей грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў. Апошняя вайна ўспрымалася асабліва балюча і непасрэдна, разам з услаўленнем гераізму ўзнікала абвостранае пачуццё ненатуральнасці і трагічнасці вайны:

Вайна.
Пусты абед.
Галодным летам
Малых варон мы гадавалі ў хатах...
Той час мінуў,
Але яшчэ дагэтуль
Над намі кружыць плач па варанятах.

Універсітэт, як перыяд жыцця і творчасці, як абазначэнне ўсяго таго, чым жыў Сербантовіч гэтыя пяць гадоў, а не толькі як лекцыі і экзамены, пераўтварыў яршыстага і задзірыстага хлопчыка з Магілёўшчыны ў маладога, але ўжо са сваім голасам і сваімі прынцыпамі паэта, такога ж, аднак, задзірыстага і яршыстага. Калі ўлічыць, што пісаў ён усяго 10 гадоў, то універсітэцкае пяцігоддзе з'яўляецца першай паловай яго творчага шляху, якая толькі часткова адлюстравана ў першай кніжцы.

Тут ён стаў паэтам, тут ён канчаткова сфарміраваўся як чалавек, як асоба. Універсітэт аказаў вялікі

ўплыў на ўсю далейшую яго творчасць, на яе культуру. Шурпатасць і каструбаватасць радкоў саступілі месца імкненню да паэтычнага ўдасканалення. Пачыналася праца ў «Бярозцы», пачыналася сур'ёзная і нялёгкая праца ў Паэзіі.

* * *

Жыць было неспазнана светла і радасна, нягледзячы на цяжкую хваробу і частыя расчараванні ў блізкіх людзях. Ён быў вясёлы, шчыры і даверлівы, гэты невялічкага росту, чарнявы, з тонкімі рысамі твару і нізкім голасам хлопец; яго сапраўды «нібы магнітам да людзей прыцягвала», і ён вельмі хутка да іх прывыкаў, заўсёды быў акружаны шматлікімі сябрамі і знаёмымі, на якіх можна было абаперціся ў барацьбе са злом у жыцці.

Але ў паэзіі было зусім інакш, і паэт выходзіў адзін на адзін з усім светам, які ўяўляўся то бліскучым і загадкавым падарункам, то хітрай, крывадушнай маскай, пад якой хаваецца невядома што. У гэтай барацьбе разлічваць прыходзілася толькі на сябе і толькі сябе лічыць адказным за ўсе памылкі і няўдачы, падзяляючы, аднак, радасці і перамогі на ўсіх:

Я памыліўся.
Я не адмаўляюся.
Пакорліва схіляю галаву.
Але галоўнае не ў тым,
што каюся,
А ў тым,
што непакорліва жыву...

«Азбука» — першая кніга паэта — выйшла ў свет у 1966 годзе ў выдавецтве «Беларусь», адрэдагаваў яе на грамадскіх асновах Анатоль Вялюгін. Зборнік выклікаў зацікаўленасць крытыкі. Маладому паэту

пашанцавала на ўвагу. Калі рэцэнзіі А. Пысіна, І. Аношкіна, В. Макарэвіча пры ўсёй сваёй прынцыповасці мелі характар сяброўскіх, адкрыта добразычлівых, то Р. Бярозкін і С. Марчанка разглядалі зборнік прафесійна і ўсебакова. Так, Р. Бярозкін адзначыў, што не ўсе вершы напісаны на аднолькава высокім узроўні, заўважыў недахоп глыбіні і штучнасць, надуманасць канфлікту ў многіх з іх, але зрабіў вывад пра бясспрэчную таленавітасць і самабытнасць паэта.

Былі ўплывы і наследаванні, але не запазычанасць; паспешнасць, але не абыякавая апісальнасць. Была поза, імкненне да канфлікту, задзірыстасць і адмаўленне, але не пазёрства, не мяккацеласць паэтычнага слова. Былі недахопы, пры хуткім росце і неадольнай празе вышыні яны сустракаліся досыць часта. Але гэта была першая кніга, і, нягледзячы ні на што, у ёй віравала, бруілася жывая і чыстая крыніца паэзіі.

Грамадзянскія матывы, адкрытая (і абгрунтаваная!) публіцыстычнасць вершаў «На беразе Урала», «Антыюбілейнае», «Гімн вечна жывым», «Пігмеі», балючая няўрымслівасць твораў пра вайну («Балада пра ўзараную зямлю», «Шырокія дарогі і вялікія» і інш.) суседнічалі з цнатлівымі і кранальнымі вершамі пра каханне, пра маладосць. І было ў гэтых вершах яшчэ нейкае сумнае пачуццё імгненнасці, незваротнасці часу і бунт супраць гэтай незваротнасці, а дзе-нідзе і падсвядомы жах перад ёй. Але пры ўсім пры тым вершы яго гучалі аптымістычна, бадзёра, а тужлівыя ноткі не з'яўляліся беспрычынна, адпавядалі гарманічнаму зліццю пачуццяў радасці і гора ў душы чалавека. Бо ноччу ён пісаў пра раніцу, а восенню — пра вясну.

Цяжка, вельмі цяжка было б яму не адгукацца хутка на ўсё, што адбываецца на свеце. Усе праявы

жыцця, яго самыя ледзь заўважныя адценні, якія, нібы зіхоткія дыяменты-промні сонца, ліліся з усіх бакоў, сагравалі і цешылі — вось заўсёдная і бясконцая тэма яго паэзіі, вечная тэма Паэзіі ўвогуле.

Выйшла ў свет «Азбука», пачалася праца над наступнай кнігай, авалодаўшы пачуццём, неабходна стала ўтаймаваць думку, адкрыўшы лёгкасць — узняць глыбіню. Паэзія з трывогай і болем сачыла за жыццём...

Нямала ўражанняў і вершаў прывёз ён з Поўначы, зноў прыходзілі ўспаміны дзяцінства, далёкія і размытыя адгалоскі вайны, малюнкі пасляваеннай вёскі. Вельмі цяжка пералічыць усе тэмы твораў Анатоля Сербантовіча 1966—1968 гадоў, іх жанравую разнастайнасць: лірыка і балады, гумар і элементы драматычнай пабудовы.

Менавіта ў гэты час паэт усур'ёз звяртаецца да жанру паэмы, які дагэтуль не прыносіў яму асаблівага поспеху. З'яўляюцца арыгінальныя паэмы «Міннае поле», «Абвал», «Мост», «Зорныя абдымкі», «Страх». Тры першыя ўвайшлі ў кніжку, чацвёртая ў неапраўдана скарочаным выглядзе, пятая ўвогуле ніколі не друкавалася. Паэмы «Страх» і «Зорныя абдымкі» — найбольш буйныя рэчы з умоўнага «бальнічнага» цыкла, цыкла вялікага, які папаўняўся на працягу ўсяго жыцця і знайшоў адлюстраванне ва ўсіх трох зборніках (спецыяльна паэтам не выдзяляўся).

Калі ў 1968 годзе выйшла другая кніга паэта — «Міннае поле» (першапачатковая назва — «Каляровыя сны»), найбольшую ўвагу выклікала да сябе аднайменная паэма, з якой і пачынаўся зборнік. Напісаная ў выглядзе выбухаў-маналогаў Бацькі, Нашчадка Смерці, Смерці, Нашчадка Жыцця, Маці, Жыцця, паэма сумяшчае ў сабе вострую надзённасць і антываенны пафас з непрыхаванай сімволікай і агульнафіласофскай праблематыкай.

Другая паэма — «Абвал» — спачатку таксама мела драматычную пабудову, і ўсё ж у апошнім сваім варыянце набыла канчаткова аднапланавы выгляд. Нечакана пераасэнсаваная версія снежнага чалавека дазволіла Сербантовічу напісаць твор арыгінальны і кранальны. Зноў у цэнтры паэмы — канфлікт чалавека і сусвету, індывідуальных прынцыпаў і агульных законаў жыцця, канфлікт наіўнай і чэснай душы падлетка з жорсткімі законамі выжывання, драпежніцтва ў яго канкрэтных і ўсеагульных праявах.

Паэма «Мост» (падзагаловак «Амерыканская трагедыя»), насычаная элементамі драмы яшчэ ў большай ступені, чым «Мінная поле», апавядала пра трагічны лёс паэта ва ўмовах капіталістычнага грамадства.

Але не толькі паэмы сведчылі пра новы ўзровень таленту Анатоля Сербантовіча, пра паспяховае ўтайманне і думкі, і пачуцця — гэта заўважалася і па вершах зборніка. Глыбокі чалавечы роздум заняў месца паспешлівай прысуднасці, канфлікты штучныя зніклі перад сапраўднымі, узмацнялася выразнасць вершаў пра вайну, ад гумарыстычных твораў сапраўды хацелася смяяцца; і разам з тым захавалася тое даўнейшае пачуццё лёгкасці і празрыстасці ў вершах пра каханне, напісаных, аднак, больш умела і змястоўна. Засталіся ранейшыя непрымірымасць і бескампраміснасць, адчуванне маладосці і «рэдкага паэтычнага здароўя» (А. Пысін). З'явіліся лаканізм і пераканаўчасць зместу, узмацніліся музыкальнасць і рытмічнасць вершаванага тэксту.

Крытыкай адзначаліся такія асаблівасці паэтыкі, як уменне адразу ж, першымі радкамі ўзяць настрой усяго твора, павышаная роля інтанацыі, рытарычных прыёмаў, імкненне да вобразаў, якія б не заглыбляліся ў сабе, не выпадалі з суцэльнай структуры сваёй прыгажосцю і нечаканасцю, а працавалі на ўвесь верш цалкам; жорсткасць і вызначанасць рыфмоўкі, адсут-

насць ярка выражаных, спецыяльна зробленых канцовак верша (распаўсюджаная хвароба). Была і здольнасць стварыць добры, запамінальны твор малымі сродкамі.

Трывога і боль, шчырасць і дабрыня — гэтыя пачуцці дамінавалі ў кнізе, з вокладкі якой пазірала на вас зацікаўленым позіркам наіўнае і смешнае птушанё ў напаўсціснутым кулаку...

Пасля знаёмства з творчай спадчынай паэта не пакідае ўражанне нейкай непадобнасці многіх вершаў на творы, свядома напісаныя для друку, настолькі імгнення яны, відаць, з'яўляліся і потым нiколькі не апрацоўваліся, закідваліся, па зместу і форме не прэтэндавалі на ўвагу чытача, не рыхтаваліся да сустрэчы з ім. Асабліва гэта датычыцца апошніх гадоў жыцця паэта. Схільнасць імгненна рэагаваць на ўсе праявы акаляючага сусвету, на ўсе змены ўнутры ўласнага «я», рэагаваць ужо па каналу мастацтва ператваралася паступова ў патрэбу, у інстынкт, калі важна было неяк адказаць на ўздзеянне, проста адазвацца ці пераасэнсаваць. І тут ужо не да разважанняў пра карыснасць і патрэбнасць, пра слушнасць і адпаведнасць формы. Нешта накшталт запісных кніжак празаікаў, толькі неяк пранізлівей і карацей. Адсюль нават сталыя, дасканалыя па зместу і форме вершы яго пачынаюцца як працяг нечага ранейшага і завяршаюцца быццам толькі паўзай для роздуму і пачуцця.

Цяжкая, атрыманая ў дзяцінстве траўма галавы, нешчасліва падмацаваная яшчэ некалькі разоў, замыкала, відаць, доўгі ланцуг хвароб на яго кароткім шляху. Той жа ўрач, што забараніў некалі пісаць, гарантаваў яшчэ максімум два гады жыцця.

Але ж калі не пісаць — гэта само па сабе вар'яцтва, гэта ж і не жыццё! Не, ён будзе пісаць! Вось толькі ці многа паспееш за такі час зрабіць? Дзе абарвецца шлях, на чым спыніцца пяро?..

Ён пісаў. Не толькі вершы, а і прозу, а яшчэ творы для дзяцей, крытычныя артыкулы, агляды. З прыхаваным смуткам па адыходзячаму жыццю, але без стогнаў і плачу, са сваім заўсёдным аптымізмам і лёгкай усмешкай, з забаўнымі «званкамі ў бюро знаходак». У 1968 годзе пабываў у Сярэдняй Азіі, дзе напісаў сваю лепшую рэч для дзяцей — паэму «Тэлефон»; лета 1969-га правёў на Далёкім Усходзе, гэтае хабараўскае лета так і засталося самым плённым перыядам яго творчасці, калі пісалася шмат і ўдала. Апошняе лета...

Дзяцей любіў усё жыццё, таму і працаваў пераважна ў «Бярозцы» і «Піянеры Беларусі», пісаў для іх апавяданні, вершы, паэмы. Не любіў страшэнна пажылых аматараў складаць вершыкі і дасылаць іх у гэтыя рэдакцыі. Адказваў рэзка і прама, за што рэдактарам прысылаліся скаргі. Затое да вершаў пачаткоўцаў адносіўся надзіва тактоўна і асцярожна.

Па-ранейшаму шмат чытаў з сучаснай рускай паэзіі, у класічнай імкнуўся зразумець сутнасць такіх таямнічых паэтаў, як Хлебнікаў, Бенедзіктаў, Блок...

Пачаў вялікую паэму «Новы свет» (лёс яе застаўся цьмяным: большая частка згубілася ў кулуарах пошты, частка вылілася ў балады і вершы), напісаў тры вянкі санетаў: «Салдат», «Васілёк», «Курганы», якія сведчаць аб вялікіх магчымасцях паэта ў галіне буйных форм, займаюць па сваёй значнасці адно з цэнтральных месц у пакінутай ім спадчыне.

Плённая праца над вянкамі санетаў стварыла глебу для ўзнікнення новай вялікай задумы: напісаць вянок вянкоў санетаў — пятнаццаць вянкоў санетаў з адзіным зместам, звязаныя паміж сабой такім жа чынам, як і санеты ў асобным вянку. Гэта была самая грандыёзная задума паэта, вянок вянкоў маюць у сусветнай паэзіі толькі такія багатыя, як італьянская, французская, англійская...

Паэт падлічыў, што для здзяйснення сваёй задумы яму трэба ўсяго толькі дзесяць гадоў.

Жыць яму заставалася некалькі месяцаў. Ён сустракаў сяброў, знаёмых і таямніча паведамляў пра нейкую важную і грандыёзную працу на 10 гадоў.

Цяпер, праз пэўны час, нейк яшчэ больш балюча ўсведамляеш, чым для яго быў гэты цыкл, чаму з такой радасцю і ахвотай дзяліўся ён сваім сакрэтам з людзьмі. Разумееш і зайздросціш — мужнасці.

Адзінаццатага сакавіка 1970 года Анатоль Сербантовіч напісаў невялічкі верш «Там пачынаецца паэзія...»:

Там пачынаецца паэзія
І там яна канчаецца,
Дзе ты ўсміхаешся гарэзліва
І цэлы свет гайдаецца.

Спяшай зрабіць са сцежкі крок,
Дзе цішыня густая,
Каб прачытаць адзін радок,
Які ніхто не знае.

Унізе пазначыў: «Серада. 11.03.70. Апошні мой верш».

Паэт падвёў рахункі з жыццём і ўслухоўваўся ў набліжэнне смерці. Часу заставалася ўсё менш, не варта спяшыць і збівацца, як пісаў Блок, «з рытму астральнага і рытму душы». Паспешнасці заўсёды хапала і на жыццё, і на творчасць. А зараз можна не гнацца, спакойна, без мітусні заняцца працай. Той, якая на дзесяць гадоў...

Дваццаць першага сакавіка 1970 года Анатоль Сербантовіч памёр. Ноччу, так і не дачакаўшыся раніцы, выратавальнага святла. Пахавалі яго на Маскоўскіх могілках і паклалі той самы просты «шэры камень» («Гэта сцежка Камень шэры, І бяздонне па баках»)

з надмагільным надпісам, быццам загадзя падрыхтаваным сабе паэтам:

Не думайце з трывогаю пра вечнасць,
Забудзьце пра хвіліны забыцця:
Складаецца з трагедый чалавечых
Вялікая трагедыя жыцця.

Праз год выйшла ў свет яго апошняя, ужо пасмяротная кніга «Пярсцёнак» з прадмовай Аляксея Пысіна.

Ён не пражыў і трыццаці гадоў, пісаў і ўвогуле толькі дзесяць. Глыток жыцця, празрысты і свежы, і — смерць. Якая нікога не шкадуе, нікога не выбірае і не глядзіць нават на тое, што ты зусім малады, што ты — паэт і не ўсё яшчэ сказаў з таго, што хацеў і мог.

Але тое, што нарадзілася, што гарэла і білася ў душы Паэта,— ніколі не згасне, не сыдзе ў нябыт.

*Сяргей Кавалёў*

# АЗБУКА

(1961—1965)



## МУЗЫКА

Расту
          і пачынаю я сталець,
І, забываючы мадэрныя напевы,
Я ў музыку ўваходжу, як у лес,
І гукі расступаюцца, як дрэвы.

О гукі!
Я ваш верны раб.
Яшчэ ў жыцці такога не бывала,
Каб адкрываў я музыку
                                        і каб
Яна мяне таксама адкрывала.

Маўклівы і няўпэўнены стаю,
Нібы зайшоў упершыню у мора...
Я пазнаю сябе
                              і пазнаю,
Што недаступна мне было учора.

## МАЯ КАХАНАЯ — ЗІМА

*Г. Ц.*

I

Мая каханая — зіма.
Любіць другую — не сумею.
Я па табе іду, зямля,
Абняўшы русую завею.

Сняжынкі — белыя агні,
Кусты малочныя, алеі —
І эталонам чысціні
Мая каханая бялее.

Яна харошая ў мяне.
Яна — і сонца, і марозы.
Прамень каханую кране —
Мая каханая у слёзы...

І вось каханае няма:
Мая каханая — зіма...

II

Няма каханае, няма,
Хоць трэба стрэцца да зарэзу.
У сэрца стукаецца май
Такой, як снег, галінкай бэзу.

Ах, гэты белы, белы дым
І кветкі сінія, як неба,
Ізноў напомняць аб усім,
На што забыцца, можа, трэба...

Забыць стараюся усё...
Тугу аб той, яе дакоры.
Вясна і бэз — харошы сон,
Але як скончыўся ён скора!

І успамінаў больш няма.
Мая каханая — зіма...

## III

Мне так нялёгка, так нялёгка!
Іду пад неба парасон.
Мая каханая далёка,
Мая каханая — як сон.

Калі сустрэнемся — не знаю.
А спёка летам апячэ —
І мне здаецца, адчуваю
Я пацалунак на шчацэ...

Але яе са мной няма:
Мая каханая — зіма...

## IV

Жыву сустрэчаю цяпер я
І гэткі радасны таму,
Што з чарады птушынай пер'е
Мне зноў напомніла зіму.

І сэрца тропнула нясмела
І больш спакою не дае:
На поўдзень лета прашумела,
Як плацце белае яе.

Чупрынай рыжаю травінак
Лугі успыхнулі. Лаза
Спяшае хусткі павуцінак,
Нібы бабулька, павязаць.

І вось ужо са мной сама
Мая каханая — зіма!



Шырокія дарогі і вялікія,
Але яны не толькі у прасцяг...
Вось гэтая пад коламі ускрыквае,
Падкідвае, бы едзем па касцях.

Чаму трасе, калі яна падкована
Асфальтам,— не тлумачце мне.
Яна і сапраўды касцьмі брукована,
Дарога, што вядзе на Трасцянец.

О змрочная святая тэрыторыя!..
Вы, людзі, не выходзілі адтуль.
Дыміліся, як люлькі, крэматорыі —
Яны людзей курылі — не тытунь!

Загінулі тут многія і многія.
Здаецца, бачу я, як па двары
Да печаў цягнуць хлопчыка за ногі,
А ён раскінуў рукі-якары...

І чую, як крычыць ён:
— Гадзіны!..
І аж пакуль агонь не апячэ,
Рукамі дол бездапаможна гладзіць
І памірае,
хоць не жыў яшчэ.

Хаджу і езджу іншымі дарогамі,
А у вачах стаіць,
як па двары
За ногі цягнуць хлопчыка малога,
А ён раскінуў рукі-якары...

## МАСКІ

Мне маленства, цікавая казка,
Прыгадалася сёння зноў:
Каля школьнае ёлкі ў масках
Мы падобны былі на звяроў.
Дзе падзеліся Надзі, Алісы,
Дзе падзеліся Петракі?
Карагоды вадзілі лісы,
Танцавалі ў кругу ваўкі.
Там,
Пад гул патэфонаў сіплы
І ў дажджы канфеці, я рашыў,
Што надзела ты маску лісіцы,
Бо лісою была ў душы.
Толькі што гэта — вочы маняць? —
Ты цярэбіш мяне за рукаў.
І зусім не ў лісінай масцы,
А у масцы злога ваўка.
Ды, калі той далёкаю ноччу
Ты ваўком выбягала ў круг,—
Выдавалі лісіцу вочы,
Выдаваў цябе кожны рух...

З той пары праміінула многа,
Маску можна і сёння надзець.
Ды ужо і пад маскаю могуць
Таямнічы твой твар разглядзець.

І заўсёды я поўны радасці
І трывогі за светлы дзень,
Што зрывае хітрыя маскі,
Адкрываючы твары людзей...

## НА БЕРАЗЕ УРАЛА

На беразе Урала распранаюся.
Хвіліна —
і я
з кручы палячу.
Ды я стаю.
Я ў хвалі углядаюся,
Нібы праз хвалі я глядзець хачу.
І успаміны просяцца і колюцца.
Залопае над вухам мокры ліст —
І здасца:
гэта скача конніца,
А свіст шпакоў —
казацкіх шабель свіст.
Трава за ногі ворага чапляецца,
А кулі у ваду нырца даюць.
Нібыта рукі, з берага
Чапаеву
Сваё карэнне дрэвы падаюць.
О дрэвы!
Вы усё ж не дацягнуліся...
І каб не чуць сваіх сяброў дакор,
Застылі ў той паставе,
як сагнуліся,
А з хваляў,
як рука чыясьці,—
корч...
Яго ў разліў вада заўсёды мілуе.
У згодзе з ім жыве рака сама.
Я знаю,
што пад хвалямі —
магіла,
І ўсё-такі магілы тут няма.
Тут не убачыш бронзавага помніка,

Не стане пастамент, нібы гара:
Чапаева магіла —
поўная
І бурная рака Урал.
І я па каранях,
што звешаны,
Спускаюся
і берагам іду.
Далонямі разводжу плынь свяцейшую
І ціха
апускаюся
ў ваду...

## БАЛАДА
## ПРА ЎЗАРАНУЮ ЗЯМЛЮ

...Павялі аўтаматы палонных.
Пыл з-пад ног закурыўся, як смерч.
Па зялёнай зямлі
                                у калонах
На смерць.

Доўга ў лагеры мацалі мускулы.
Аж да ночы цягнуўся глум.
А пасля асудзілі:
                                — Рускіх
Запражом,
                нібы коней,
                                у плуг...

Запрагалі.
І спіны, як кратэры,
Задымілі ў людзей на палях.
І да вечара
                шэрым халатам
Разараная легла зямля...

Нашы лётчыкі там пралятаді,
Самалёты пагрозна гулі,
Бо за Эльбай унізе ляжалі
Ў арыштанцкім халаце палі...



Быць дарослаю хоча Танька.
Таньцы пэўнасці не стае.
Для яе — навакольнае —
тайна.
Ёй патрэбна раскрыць яе.
Тайну музыкі, тайну крыкаў,
Тайну гукаў і нематы.
Тайну чыстага і вялікага,
Тайну злосці і дабраты.

«Танька, слухайся...
Танька, мігам!..
Танька, вецер у галаве...
Не жыві, Танюша, па кнігах»,—
Навучаюць парой яе.

Ой, нікога не слухайся, Танька!
Будзь харошай і чыстаю ты.
У жыцці раскрываюцца тайны:
Тайна злосці і дабраты,

Тайна музыкі, тайна крыкаў,
Тайна шэптаў і тайна бур.
«Толькі ў кнігах людзі вялікія...»
Ты вялікаю, Танька, будзь!

## РЫБАК

*Памяці Э. Хемінгуэя*

У легенду гэту шчыра веру:
Сапраўды на свеце жыў стары,
І яго маленькі белы ветразь
Надзімалі голаду вятры.

І калі ў вялізную меч-рыбу
Кінуў ён без промаху гарпун,
Ён змагаўся з ёю, як на рынгу,
Аж трашчалі жылы на гарбу.

Рыжыя абветраныя скулы.
Пеністыя грозныя валы.
Сінія хвастатыя акулы
Пад канвоем к берагу вялі.

Мора паласатае, як зебра.
Адганяў драпежнікаў не раз.
Ды ўсё ж акулы рыбу з'елі,
Сыта паплылі за небакрай.

Недзе ходзяць, недзе нападаюць,
Не адна з іх вёслы пагрызе.
Тых акулы хітра выглядаюць,
Хто здабычу к берагу вязе.

## ПЕРШАКУРСНІЦЫ

З ластаўчыннем на тонкіх носіках,
З першамайскаю урачыстасцю
Вы у наш інстытут прыносіце
Незямную сваю празрыстасць.

Нібы ў храме якойсьці Італіі
(Колькі радасці вашым мамам!),
Вы ступаеце, дзе луналі
Неспакойнаю ноччу ў марах.

Падыходзяць да вас у каўбоечках,
Падыходзяць у штоніках вузкіх...
І, прызнаюся, робіцца боязна
За сунічныя вашы вусны.

Страшна бачыць такую ветлівасць,
Вельмі боязна мне за тое,
Што вы так у святое верыце,
Хоць святое —
не ўсё святое.

Слаўлю чыстае. Слаўлю ветлае.
Дабрату без хлусні і злосці.
Слаўлю вашы усмешкі светлыя
І даверлівасці
зайздрошчу!..

* * *

Успомню,
Як ішлі з сявенькамі
Дзяды па вузенькіх шнурках
І, перш чым кінуць,
зерня жменьку
Пяшчотна лашчылі ў руках.

Ступалі ціха, крок за крокам,
Адно у клопатах было:
Не заараць яго глыбока,
А кінуць так, каб узышло...

Лісты разгладжваю далоняй,
Гару ў жывым святле надзей:
Я, нібы зерні, словы сёння
Хачу пасеяць між людзей.

Мне, як дзядам маім, нялёгка,
Ва мне іх мары ажылі —
Не мелка сеяць, не глыбока,
А каб у сэрцах узышлі!



Пустое «ўра»
                    нікога не парадуе.
Ідуць гады —
                    знікае ўяўны дым.
І рады я, што ўжо не праз парадпае
Мы на жыццё сучаснае глядзім.

Тых,
        хто не бачыць дрэннага праз добрае,
Ў прамовы лье салодкую ваду,—
Лічу як нашых самых злейшых ворагаў
І першы ў бой бязлітасна
                              іду.

* * *

Горы — сінія,
Неба — сіняе,
Чайкі крыламі хвалі косяць...

Вочы сплюшчу —
Лясы аб'інелі,
Распусціла мяцеліца косы;

Ля дарогі сумёты — аблокамі.
А вятры ўсё снягі змятаюць,
З даху, быццам з гары высокае,
У вушанках мальцы злятаюць;

Ходзяць сцежкамі статкі ласіныя
І глядзяць на сукі,
                    дзе калісьці
На танклявых дрыготкіх асінах
Біла крыламі лісце;

На куп'і, нібы кроў, журавіны,
У сумётах сумуе восень...

Горы — сінія,
Неба — сіняе,
Чайкі крыламі хвалі косяць.



Нямыя размаўляюць пальцамі —
Ім недаступны просты гук.
Яны, напружваючы памяць,
Чытаюць рухі рук і губ.

О, гэта мова незвычайная!
У сэрца крадзецца адчай,
Калі і гучна і адчайна
Яны стараюцца крычаць,

Калі ад крыўды ледзь не плачуць.
Ім так ахвота гаварыць!
Яны крычаць, калі пабачаць,
Што не зваліся махляры...

Гляджу на іх святую смеласць
І не магу не закрычаць:
Мне, як нямым, незразумела,
Чаму бывае, што маўчаць?

Чаму з усмешкамі падробнымі
Згінаюцца у дзесяць шый,
Чаму прыкідваюцца добрымі,
Хоць і нядобра на душы?..

І, бачачы няшчырасць мыльную,
Калі страчаюць вось такіх —
Глядзяць з пагардаю нямыя
На гэтых, ненямых,
нямых.



Праклiналi вясну дзяўчаты,
Падстаўлялi пад кузаў плечы...
Песнi ранкам павезлi на свята,
Ды ў дарозе былi да вечара.

А прыехалi — горад сонны.
I калi ля эстрады сталi —
Iх у парку раённым
Салаўi абсвiсталi.

Зноў артысты машыну неслi.
Зноў пацелi ў цяжкай знямозе.
Везлi песнi
на свята песнi,
Ды усе праспявалi ў дарозе.



Упаду,
Упаду
На лугу ці палетку
І вясной узыду
Самай простаю кветкай.

Будуць зоры цвісці,
Будуць пець за гарою,
Будуць людзі ісці
Ля мяне,
Нада мною.

Пырснуць росаў дажджы
На чарнявых і русых,
Хтось ка мне падбяжыць,
Возьме ў цёплыя рукі.

І мяне, у расе,
Покуль плавіцца ранак,
Панясе,
Паднясе
Сарамлівай каханай.

Салавей прапяе
Урачыстыя гімны.
У руках у яе
Я завяну,
Загіну...

## АНТЫЮБІЛЕЙНАЕ

Парой і ў сто гадоў зарана
За славай велічна брысці,
А намі ўзводзяцца старанна
Вам маўзалеі пры жыцці...

І я стаю, нібыта хмара,
І не магу маўчаць,
калі
Вы, дарагія юбіляры,
Саміх сябе перажылі!

## ГЛЫБІНЯ

*Васілю Макарэвічу*

Мяне трава яшчэ хавала.
Крычаў мне сябра: — Дагані!..
І уразаўся сам у хвалі,
Знікаў у сіняй глыбіні.
А у мяне усё нямела.
Сядзеў, бы трапіў у сіло.
І, на сваю забыўшы смеласць,
Я зваць хацеў сюды сяло,
Бо тут сінелася бяздонне
І дна, здавалася, няма...
Ды, выныраючы, ў далонях
Ён глей са дна ракі трымаў.
І галавою смешна боўтаў,
І зноў крычаў мне: — Дагані!..
Ён мне здаваўся сінім богам,
Што выйшаў з сіняй глыбіні.
Я браў разгон.
Нырнаў я смела,
Аж разлятаўся пырскаў град.
Але маё тугое цела
Вада выкідвала назад.
Я хвалі зноў драбіў на друзкі,
Праводзіў на абрыве дні,
Бо я не знаў,
што толькі з грузам
Дастанеш сіняй глыбіні...
Цяпер, калі мяне хто хваліць —
З маленства чую: — Дагані!..
І я ўразаюся у хвалі,
Знікаю ў сіняй глыбіні...



Маё дзяцінства, нібы птушка:
Злавіў яе — і вось ужо
Відна мне босая пастушка,
Агонь і дзедава ружжо.
Дажджынак золкія іголкі.
Трубіла хмара ў чорны рог.
Тады дзявочыя прыколкі
Упалі ціха на мурог.
О, як запомніў міг той, дзень той!
Дым лезе у вочы, як кастра.
Трашчаў ядловец, быццам порах,
А я не знаў, што мне рабіць.
Я не хацеў яе запомніць
І не магу яе забыць.
У снах гуляе вецер золкі,
Блішчыць маланка, трубіць рог.
І ціха падаюць прыколкі,
Нібы іглiца на мурог...

## БАЛАДА

Ворыва цемры.
Гразка і вязка.
Сямёра канвойных,
І звязаны вязень.

Сямёра канвойных —
Сем карабінаў.
Возера — быццам
Кавалак карбіду.

Блізіцца блізкі
Узлесак шчарбаты.
Клюнула корань
Тупая лапата.

Вата туману.
Сосны і вязы.
Вопратку скідвае,
Звязвае вязень.

І як апошні
І радасны выдых —
Хлопцы жывыя...
Хлопцаў не выдаў!..

Стрэлы ўспыхнулі.
Новы пагорак...
У небе, здаецца,
Паменшала зорак.

І зноўку да часу
Загналі за спіны

Сямёра канвойных
Сем карабінаў.

Ім зразумець бы
У гэтае ранне:
Смерць за свабоду —
Пачатак паўстання!

## СТЭПАВАЯ ДАРОГА

І спёка і смага на пыльнай вярсце.
Зайшоў я далёка, а знаю адно,
Што на слупах лічба хутка расце,
Ну а дарозе канца не відно.

Гучыць неадступна: ваду беражы!
Вочы бінтуе гарачы пыл.
У невядомасць ці ў міражы
Дарогу вядуць верставыя слупы?

* * *

Табунь яршыстых на праспекце,
Як яршоў у рэчцы табуны.
А таксама некалі, паверце,
Мы былі яршамі, як яны.

Многае гатовыя прабачыць
І дзяўчынцы той і юнаку,
У якіх, прыгледзеўшыся, бачу
Чэсную рабочую руку.

## ГІМН ВЕЧНА ЖЫВЫМ

Ад трун нясе
                    і цеплынёй і холадам.
Як быццам
                    па ступеньках лесвіцы,
Спускаюцца
                    і у магілы сходзяць
Аджыўшыя сваё
                    старыя ленінцы.
А ноччу
                    толькі рукі ўперад выцягну —
У сне труну намацаю я строгую.
І успаміны
                    на жалобным мітынгу
Напомняць і нямногае і многае.
І мёртвыя
                    суровыя, як полымя,
Ідуць,
                    і галасы іх чуюцца,
Калі гавораць пра сябе падпольшчыкі
І камісары мне рэкамендуюцца.
І так да раніцы.
                    А прыйдзе раніца,
Успыхне твар пад радаснымі промнямі,
І ў дзверы мне
                    пастукаюць нярадасна
І скажуць,
                    што памёр знаёмы мой.
І я бягу з балючаю упартасцю.
Хачу крычаць
                    і ўсё ніяк не крыкну.
Памёр не толькі член вялікай партыі,
А нешта болей значнае,
                    вялікае...

Вось дом знаёмы мне.
Крутая лесвіца.
Я да грудзей руку прыцісnуў левую.
Яны паціху паміраюць,
ленінцы,
Што некалі здароўкаліся з Леніным.
...Пара хаваць.
А я, нібы надломлены.
А я,
як фотаплёнка, праяўляюся...
О, колькі я свайму знаёмаму
Даказваў тое,
ў чым я памыляюся!
О, колькі іх, пакрыўджаных,
з маршчынамі,
Што ручайкамі тоненькімі крывяцца!..
І я стаю з маўклівымі мужчынамі,
І я маўчу,
нібы мяне пакрыўдзілі.
Пасля іду —
слупы бягуць,
хістаюцца.
Па вуліцы іду я,
як па лесвіцы.
І гімны ў галаве маёй складаюцца
Пра паўшых
і жывых заўсёды ленінцаў.

* * *

Не пытайся, дзе хвароба носіць,
Можа, я і сам ужо хачу
Быць бліжэй да тых, хто жне і косіць,
Магілёўскую гаворку чуць.

І не думай, што усё прапала,
А прапала што, дык то — раней...
Роднаю зямлёю я прапахну,
Наліюся сокам, як ранет.

Болей не кажы, што верш не любяць.
Я такое слухаць не магу.
Паглядзі, як бронзавыя трубы
Падымаюць
трубачы
да губ.

Ты і сам трубу вазьмі у рукі
І здаля падзьмі... Ды што б ні пеў —
Чуюцца няўпэўненыя гукі,
Іншыя зусім, што ты хацеў.

Сябра, чуеш чысты звонкі голас?
Ну а чуеш, то не дакарай.
Я труба, ў якую трубіць колас,
У якую трубіць родны край.

## ПІГМЕІ

Пігмеі, як метэарыты,
Ля самых сонечных планет.
І іх пігмейскія арбіты
Праходзяць нават ля мяне.

Яны ўсміхнуцца нам умеюць,
Хоць іх заўсёды мучыць злосць,
Што на зямлі не ўсе пігмеі,
Што на зямлі і людзі ёсць.

Нічога ўгору не паднялі,
Людзям нічога не даюць.
Яны бяздарнасць гучна
хваляць,
А талент ціха аплююць.

Баюся тых, хто спрытна хлусіць,
Баюся я святош малых.
І сёння больш за ўсё баюся
Пігмейскай хітрай пахвалы.

## СУСЕД

Сетачка лёгка матляецца
Флягай на рамяні.
Мыліцы спатыкаюцца
Аб шэрыя камяні.

Стаіць ён,
З суседзямі раіцца.
Гаворыць пра добрых, злых.
І на кастыль апіраецца,
Як пераможца на штык.

## АСКОЛКІ

Мы многа пішам пра вайну і боль,
А пра каханне — час ад часу толькі:
То з кожным годам усё больш і больш
У ранах ныюць даўнія асколкі.

## САБАКА

Усё жыццё
сабака каля ганка
На ланцугу хадзіў уздоўж сцяны.
Сабака
на сваіх не гаўкаў
І не хапаў зубамі за штаны.

Глядзеў ён недаверліва і злосна —
Ці падаў снег, ці хлюпала вада.
Кавалкам хлеба, а парою косткай
Яго узнагароджваў гаспадар.

І ўсё ж туды,
дзе ланцугом ён чыркаў
Па дроце,
як нібыта да свайго,
Падбегла незнаёмая дзяўчынка
І абняла, прыціхлага, яго.

І мы замоўклі у хвіліну тую:
Скрануцца з месца не хапіла сіл.
Але сабака не ўкусіў малую,
Упершыню за век свой не ўкусіў.

Стаяў ён, ускудлачаны, пануры.
Ён высунуў язык,
што перасох.
І вочы затуманеныя жмурыў,
І слёзы
цяжка падалі
ў пясок.



Калі праменнямі азалацілася,
У сонца маладога на вачах
Зямля ганчарным кругам закруцілася,
І час над ёй схіліўся, як ганчар.

Ляпіў людзей. Над формаю стараўся.
І раптам гучны крык пачуў і шум.
Прыслухаўся ганчар і здагадаўся,
Што не зляпіў прыгожую душу.

І зноўку над зямлёю ён схіліўся,
Нядоўга думаў, як яму тут быць.
Так уцягнуўся ў працу, што забыўся
Ён форму прыгажэйшую зрабіць.

І так заўсёды, колькі ні стараецца,
Усё ў яго заканчваецца тым:
То ён зусім на форму забываецца,
То забывае на душу зусім.



Ля сабора ў сталіцы
Я спыняюся зноў.
Нада мною званіцы
І цыліндры званоў.

Я заплюшчваю вочы.
Я стаю ля сцяны.
Як жывыя, уночы
Размаўляюць званы.

«Вечнасць!
Слухай нас, вечнасць,
Пра далёкае ўчора,
Дзе манаскае веча
Асудзіла вучонага.

Тая смерць па загаду —
Як пашана, як лаўры.
Са званіцы ён падаў.
Падаў хлопец у славу!

Тое ў памяці... З болем
Мы галосім,
бо знаем,
Што зрабіў бы ён болей.
І мы праклінаем,

Праклінаем...»
І горка
Мне стаяць ля сцяны.
Нада мною гавораць,
Патрабуюць званы...



Я памыліўся.
Я не адмаўляюся.
Пакорліва схіляю галаву.
Але галоўнае не ў тым,
што каюся,
А ў тым,
што непакорліва жыву.
Лупцую гэта.
Тое выратоўваю.
Шукаю. Непакоюся. Гару.
І хоць мяне
памылкі загартоўваюць,
Але ім дзякуй
я не гавару.
Я ведаю,
што некалі я вырасту
І што мяне няўдача не саб'е.
Я ад памылак
усё роўна вырвуся
І адшукаю ў барацьбе
сябе!

## ПАРАЛЕЛІ

### 1

Шырока ходзіць маятнік-каса.
На ёй усходзіць сонца і заходзіць.
Хвалюецца ля берага лаза,
Хвалюецца якое ўжо стагоддзе.

Звісае з неба, нібы лот, прамень,
Як быццам вымярае глыбіню:
Ляжаць барозны за струну прамей.
За трактарам бягу —
не даганю...

### 2

Лячу я,
самалёт мяне вязе.
Здаецца
(з-за аблок усё відаць!),
Што трактар не спяшаючы паўзе,
І хочацца прыкрыкнуць, падагнаць...

Вось закрычу. Штосілы закрычу
(О голас,
загрымі і падгані!..),
Ды толькі схамянуўся і маўчу,
Успомніўшы,
што я увышыні...

## КРУГАВАРОТ

### I

Кругаварот...
Пустуе агарод.
Вятры у полі карагоды водзяць.
Стагоддзямі ідзе кругаварот.
І поры года на пасты выходзяць.

Зіма!
Ты б не выходзіла на пост.
Цябе б з ахвотай лета падмяніла.
Ну што за радасць:
Снег ляжыць у рост,
Усё вакол заснула і застыла.

Сядзі ў пакоі,
Распівай чаі,
На вуліцу не сунься без адвагі,
Аж покуль не зазвоняць ручаі,
Узяўшыя мароз і снег у шпагі.

### II

Уніз, уніз, дзе плешчацца рака,
На вадапой спусціліся вярбіны.
І з берага, як снайпер,
Шчупака
На мушку возьме самаробны спінінг.

Ты на платву ідзеш да паплавоў,
Дзе луг, як лук,
З-пад ног страляе качкай.

З кары сасновай рыжы паплавок
Уздрыгне, як кантужаны,
Заскача.

А потым важна крочыш да сяла,
У хату дзверы ціхенька расчыніш —
Гарачая яечня са стала
Угледзіцца лупатымі вачыма...

## III

Яшчэ далёка да сівой зімы,
А сад, як слёзы, лісце долу скінуў.
Гарбуз у агародзе — шар зямны —
Пад галаву паклаў
Грады рабрыну.

Апошні раз жуе траву усмак
У лузе статак, пастухом забыты.
На касмадроме полюса зіма
Рыхтуецца выходзіць на арбіту.

Кругаварот...
І я яго цаню...
Чакайце лета, яблыні, бярозы!

Я сам, як вы,
Чакаю цеплыню,
Але не паддаюся і марозу!

## IV

Кругаварот.
Пустуе агарод...



Ты мне верыш. І нашто мне болей,
Калі любіш так, як я люблю,
І калі ты знаеш, што ніколі
Я табе благога не зраблю.

Полымя каронай каля гаю.
Мы забылі: колькі ўжо гадоў
Клавішы зямлі перабіраюць
Пальцы касцяныя жалудоў?



Метэарыты — быццам людзі...
І я паклясціся гатоў:
Блукаць яны нямала будуць,
А паміраць — ляцяць дамоў.

Згараць хвастатаю каметай,
Ды ўсё ж ляцяць...
Не кожны змог
Пераступіць парог паветра,
Як людзі родны свой парог.



Помніш, як з табой шукалі выйсця,
Як з табой, зламаўшы галаву,
Беглі: я у лес — па лісце,
Ты у луг — па раннюю траву.

Колькі ні прыносілі, а мала...
Сціснуўшы худыя кулакі,
Маці ўсю вайну нам выпякала
Горкія, як час той, праснакі.

І у лесе ліпы больш не чахнуць.
Толькі ў сэрцы вечны неспакой.
І здаецца, што маленства пахне
Лісцямі і ранняю травой.



Лес. Паўстанак. Ад нямога плачу —
Як каметы, слёзы на шчацэ,
І дрыжыць разгублена гарлачык
У тваёй задумлівай руцэ.



Каб замаліць свае грахі,
Ізноў туды я еду,
Дзе ўткнуты промні, як штыкі,
Пад вокнамі суседа.

Хачу — крычу, хачу — пяю,
Смяюся: рассмяшылі.
Сваю кашулю надзяю,
Што навырост пашылі.

Сумленне маці не пячэ:
Жыла нястача ў хатах...
Кашуля і цяпер яшчэ,
Відаць, велікавата...

І я ступаю на пакос.
Па травах і па росах
Іду ў кашулі навырост,
Няўпэўнены і босы...



Серабро празрыстага туману
І расы густое серабро.
Пакажы мне лодку, Несмяяна,
Пакажы на вашай рэчцы брод.

Кажаш ты, што брод адсюль далёка.
Я гляджу на дымную раку,
Я гляджу і бачу побач лодку.
Бачу, што яна не на замку.

Толькі вёслы... Дзе, скажыце, вёслы?
За кустамі, пэўна, вёслы ёсць...
Ці то вёслы плёснулі, ці вёсны?
Ці вада бурліць, ці маладосць?..

## ЧАЙКА

Я такое трываць не мог.
Не трываю: не маю сіл.
Чалавеку цяжка без ног,
Ну а птушцы — цяжэй без крыл.

Чуеш, сэрца расінкай дрыжыць.
Ты дрыжы, маё сэрца, дрыжы.
Бачыш: босая чайка бяжыць,
Адзінокая па дажджы?

І не ведаю я,
чаму
Вецер коціцца за сяло,
І — глядзіце — балюча надзьмуў,
Нібы ветразь, яе крыло.

Закрычала і паплыла...
Чайка любая, дзе ты, дзе?
Толькі белы абломак крыла,
Як вясло, ў дажджавой вадзе...



Зямля любімага Купалы —
Ў дубравах і ля бальшакоў
Прадаўгаватыя, як шпалы,
Магілы продкаў і бацькоў.

І нават шпалаю гасцінец
Пакладзен кімсьці на палі...
Хто вы, што край дрыгвы масцілі,
Каб мы за вас далей пайшлі?

Глядзі: стаяць не за гарамі —
Тут вёска, а царква — вунь там...
Дзіўлюся я: навошта храмы,
Калі ўся зямля, як храм!..



Ах, глядзі: ліхтароў навешана
І на хатах і на слупах.
Для мяне ты уся — ранейшая,
Для цябе я — даўно прапаў.

Езджу ўсё і шукаю нечага,
Хоць казала ты мне сама,
Што на свеце нічога вечнага
Не было і няма.

Падарожжы нас толькі лечаць,
І гатоў я сцвярджаць зноў і зноў,
Што на свеце заўсёды вечная
Да Радзімы сваёй любоў.

## БЯРОЗЫ

На пні гляджу я і не знаю,
Ці выжыву ад жорсткіх ран.
Не знаю, з чым я параўнаю
Дзяўчыны любай статны стан.

Адкуль вы, тонкія? З балета?..
Не толькі ночы, нават дні
Для ўсіх спрадвеку вы бялелі
Як сімвал нашай чысціні.

Шумяць сасна і дуб-асілак,
Рака у хітрай сетцы лоз.
Я ўсё ўяўляю, а Расію
Не уяўляю без бяроз.



Што было, апрача раскладушак?
Непрыкметна ў мяне на вачах
Трыццаць год, быццам трыццаць птушак,
Узляцела з твайго пляча.

Паляцела і ў спёку і ў холад...
Хоць яшчэ ты не хочаш знаць —
На прычосцы уладна ўсходзіць
Серабрыстая сівізна.

Я цябе маладой прыгадаю,
А прыгледжуся — божа мой! —
Ты такая яшчэ маладая,
А бялееш, як сад вясной!..



І забыта чорнае учора,
Я зусім ужо не помню зла:
Ноч яго ў сваім нябачным чоўне
На далёкі бераг адвязла.

Зноў усе — ад помнікаў да кветак
На маёй агледжанай зямлі —
Мне даўно знаёмыя прадметы
Новы сэнс і назвы набылі.

Сонца — нечапаным караваем.
Я гляджу і, быццам бы сакрэт,
Для сябе нанова адкрываю
Некалі разгаданы Сусвет.

* * *

*Кастусю Кірэенку*

На ўсходзе неба ўсплыхнула экранам,
Прабуе голас за ракой гудок,
У грудзі б'е прыемны халадок —
Садоўнік дзверы адчыняе ў ранак.

Глядзіць на сад
і нейкую хвіліну
На сцежцы топча жаўтаваты жвір,
І з хрустам абразаць пачне галіны
Ён пальцамі сталёвымі нажніц.

Ён знае справу. І усё ж з адчаем
Ацэньваю па-свойму кожны сук,
Які ён у ахвяры вызначае,
Нібы адказны я за кожны рух.

Як трэба пільным быць тут да зарэзу,
Каб з голых яблынь росчыркам рукі
Сукі непладаносныя — абрэзаць,
Пакінуць — пладаносныя сукі.



Палотны тумапоў лашчыны сцягнуць,
Пацягнецца заспаная зямля,
І сонца паплыве угору сцягам,
Як быццам па флагштоку карабля.
Русалкі заплятуць паспешна косы.
І там, дзе цемры рэдкая імжа,
Каралямі рассыпанымі росы
Застануцца, успыхнуўшы, ляжаць...
Ты, ранак, радасць для мяне і мука,
І, пэўна, самы-самы дарагі,
Бо мы з каханай раздымаем рукі,
Нібыта рвём цяжкія ланцугі.
І ўсё ж — дабрыдзень,
Першы яркі промень,
Густога дыму шлейфы над сялом.
Яны, магчыма, маладым напомняць
Змяркання галубінае крыло.
Русалак маладых тугія косы,
Травінкі, што ад холаду дрыжаць,
І — на пракосах — ранішнія росы,
Што, як каралі нечыя, ляжаць.



Палегла стража з крыкам хрыплым,
З палону ўцёк вялікі князь.
Яму мужык сустрэчны выпраг
З калёс апошняга каня.

Хоць не скакун з казацкай стайні,
І рэдка бачыў ён авёс,—
Пагоня хуткая адстала,
І князя конь дамоў прынёс.

Дружына радасна падбегла
І памагла даспехі зняць.
І ўсе тады забылі белага,
Ад пены белага каня.

Пасля лічылася за шчасце,
І кожны князь ажно канаў,
Каб дзе дастаць бялюткай масці
Сабе на стайню скакуна...

Яму авёс няслі ў далонях,
Трапалі грывы белы лён.
Заўсёды ў бітве ад пагоні
Іх выручаў мужыцкі конь!

Той цягавіты, ціхі, добры,
Які начуе на двары,
З лясоў дрымучых возіць дровы,
Палі пясчаныя арэ.

* * *

А дождж няспынна лье.
Капеж — срабрыстай грыўняю.
І хмара, быццам леў,
Трасе калматай грываю.

Драты дажджу вісяць,
Электразваркай плешчуцца:
Рашылі запаяць
Зямлі сухія трэшчыны
Ля хат і ля дарог
І ў полі за аселіцай,
Каб не зламала ног
Снягурачка-мяцеліца.



Я не люблю кампанійкі,
Я да цябе ўцяку.
Ты ў сіненькім купальніку
Ўбягаеш у раку.

Твая сукенка белая —
Разлітым малаком.
Ты плаваеш, ты бегаеш,
Махаеш мне рукой.

Ах, добрая, адкрытая!
З табой мы як свае.
І ты наводзіш крытыку
На вершыкі мае.

Я «такаю» і «некаю»
І як паэт грашу,
Што пра цябе я некалі
Такое напішу:

«Я не люблю кампанійкі,
Я да цябе ўцяку.
Ты ў сіненькім купальніку
Ўбягаеш у раку...»

## БЯССОННІЦА

Здаецца,
                    столькі шчырасці і ласкі,
Здаецца, толькі з мамай гаварыў,
А ўжо, як інвалідская каляска,
Качуся па нахіленай з гары.

Сябры мае спакойна пазіраюць.
Маўчаць. Ніхто не хоча затрымаць.
Не можа быць,
                    што з іх ніхто не знае,
Што у калясцы тармазоў няма...

Ачнуся. Я на ложку. Хворы.
І болей не імчуся я з гары.
Вакол падушкі высяцца, як горы,
Вакол стаяць маўкліва дактары.

Пасля ізноў ні шчырасці, ні ласкі,
І хоць я толькі з мамай гаварыў,
А ўжо, як інвалідская каляска,
Качуся па нахіленай з гары...

## СКАЖЫЦЕ ПРАЎДУ

Мама!
Я не адбіўся ад рук,
Хоць рос,
нібы вожык,
калючы.
І першае·слова:
— Байструк! —
Мяне секанула балюча.
Гэта было
новае слова.
Гэта было
крыўднае слова.
Гэта было
страшнае слова!
Суседка наша крычала
Пра тое, аб чым·ты маўчала.



Цябе разумею я,
мама.
Відаць,
ты рашыла ў той год,
Што гора і так
нямала.
Навошта ж падвойваць яго?
Вятры тады
ў полі гулі.
Вятры тады
хату мялі.
Прасілі ў нас ліпы
лістасці:
Хлеб·горкі пяклі мы з лісця.

Прыходзіў да нас
сусед —
Акраец мне нёс
на абед.
Радзіма
бясплатна лячыла,
У школе мяне вучыла...
А бацька
ў чужую хату,
Не сыну,
а нейкай Фросі
Слаў
на харчы атэстаты,
Слаў ён зарплату з фронту.

*

Мама,
Харошая мама,
Усё ж я крыўдую нямала
За веру,
што ў сэрца ўсяляла...
Каб знаў —
не глядзеў бы скоса,
Каб знаў —
не змагаўся б смела
Я супраць таго, што косіць
Мой бацька
сабакам
сена.
Каб знаў,
што ў гэты час
Ён блізка ад нас...

*

Узяўшы з сабою
надзею,
Пайшоў я да бацькі
ў нядзелю.
Пайшоў я
з харошаю
марай.
(Ты гэта не ведала,
мама!)

*

Была тут
ці не
прычына?
На рукі
не ўзяў мужчына.
Ён толькі
уздрыгнуў неяк
І мне
усміхнуўся крыва...
Хацеў закрычаць я нема,
Ды толькі...
А потым... не змог —
ад крыўды!
А потым ён,
бацька,
Сыты,
дзябёлы мужчына,
Мяне расстраляў знянацку:
— А чый ты?..



О бацька!
Табе б я прабачыў,
Што гэтулькі год не бачыў;
Прабачыў бы
у той час,
Што нават...
пайшоў ад нас,
Ад голаду
іншых бярог.
А гэта —
прабачыць не мог!..



О бацька!
Я ўсё перажыў,
я вырас.
Ужо я адправіўся ў вырай.
Бываю ў гасцях
у дзеда —
Былога свайго суседа.
Да іншых людзей бягу —
Я перад імі ў даўгу...



З гадамі прыходзіць розум.
З гадамі трывожыць роздум.
З гадамі гавораць праўду.
З гадамі адстойваюць права:
Звацца сынамі —
права!
Дочкамі звацца —
права!

Звацца бацькамі —
права!
Калі ёсць на гэта
права!
Таму на лістоў далоні
Кладу сваё сэрца сёння.
Сэрца,
поўнае крыўды.
Сэрца,
што хоча крыкнуць:
Скажыце мне
чыстую праўду,
Сябра найлепшы —
скажы,
Першы сустрэчны — скажы,
Крыкні
на вуліцы прама,
На вуха шапні у сне,
Ці мае
бацькоўскае права
Мой бацька былы
на мяне!..



Сюды не далятала рэха колаў:
Без пропуска не пройдзеш па двары.
Алхімік-немец у празрыстых колбах
Атруту для канцлагера варыў.

Нічога, што хавалі недзе трупы
(Казалі, што хвароба узяла!),
А для яго смяротная атрута
Звычайнаю работаю была.

А неяк прастудзіўся,
і ад грыпу
Дала яму таблетку медсястра,
Ён на яе глядзеў
і крыкам хрыплым
У ім забушаваў шалёны страх.

Вар'ят махаў рукамі і пакутваў,
Не браў нічога, паміраў ад мук.
Ён многае успомніў,
і атрутай
Лякарства уяўлялася яму...



Зноў Шапэн... І сасоннік ускраін...
Толькі смерць я не так уявіў:
Мы, па-мойму, усе згараем
На чырвоным кастры крыві.

Дол глыбокі пажарам асушым,
Белым полымем мы згарым.
Быццам воблакі, нашы душы
Загайдаюцца угары.

І адтуль на далёкія былі
Глянем мы — і сляза набяжыць:
Вельмі многае мы рабілі,
Што не трэба было рабіць...

Мы памылкі свае пазнаем.
Каб людзей папярэдзіць,
мы
Ім маланкамі замахаем
І пагрозна ўгары загрымім.

## МАНАЛОГ ЧАРЛІ ЧАПЛІНА

### 1

Трывожаць пісьмамі мяне,
Што, можа, і не варта...
Мой час гадзіннік на сцяне
Адстуквае упарта.

Здаецца мне, што хтось маўчком —
Нікога не пытае —
Сваім нябачным кулачком
Той маятнік хістае.

І на турбіну пачуцця
Вось гэтак жа нябачна
Б'е вадаспад майго жыцця,
Што перажыў і ўбачыў.

Радкі імчаць, як цягнікі.
Аловак муліць пальцы.
Я пачынаю рэйс цяжкі,
Глыбокі рэйс у памяць.

О, я павінен! Я рашу...
Мне трэба толькі ціша,
Бо тое, што я напішу,
Ніхто больш не напіша.

### 2

Ах, добры дзядзька-апякун,
Ты заклапочан, мусіць,
Што, мітусельнік і крыкун,
Я дзесьці паслізнуўся.

А я упаў,
                    даўно упаў.
Я без усякай меры
Сваім сябрам не давяраў
І ў аніпто не верыў!

Закаранела ў галаве:
«Не схопіш — не ухопіш...
І чалавека чалавек
У лыжачцы утопіць...»

Былое...
            Як яго ні рві —
Адразу не парвецца.
Яно пасля цячэ ў крыві,
Жыве таемна ў сэрцы...

3

Сказала сэрца мне:
                                    — Бяжы.
Ты лішні тут, ты самы...
Ад слоў — бяжы!
                                Ад сноў —
                                            бяжы!
І ад сябе — таксама!

І я бягу. І я бягу,
Аж пыл з-пад ног курыцца.
Я жыць вось гэтак не магу
І не магу змяніцца.

О, не магу я, як усе...
Я сам сябе баюся.
Змяняцца буду пакрысе.
Не знаю, ці змянюся...

І не трывожце вы мяне.
Далоў віно і карты!
Мой час гадзіннік на сцяне
Адстуквае упарта.

І калі я усё рашу,
Хацеў бы адрас ведаць.
Пісьмо, я знаю, напішу.
Не знаю, ці прыеду.

# МІННАЕ ПОЛЕ

(1964—1969)



## МІННАЕ ПОЛЕ

Трывог і сноў пазбавіцца? Ніколі!
Я спаць кладуся, як іду у бой.
Каторы год паўзу па мінным полі,
Па мінным полі памяці сваёй.

### ВЫБУХ ПЕРШЫ

**(...Бацька)**

— Анатоль, не крычы з адчаю.
Хоць даўно я ў магіле ляжу,
Пра жывых у цябе не пытаю
І пра мёртвых табе не кажу.

Танкі... Танкі...
Гарэлі хаты...
І дрыжала зямля, як ліст.
Толькі кінеш сваю гранату —
Кулі страшна ўздымаюць свіст...

Так, тады я не скончыў бою.
Мне б яго, нібы фільм, пракруціць,

Каб убачыць,
Як харкне крывёю
Танк — аж вежа набок зляціць.
Ці забіў я каго — не знаю.
Я страляў.
Я упаў.
Я ляжу.
Пра жывых у цябе не пытаю
І пра мёртвых табе не кажу.

## ВЫБУХ ДРУГІ

**(Нашчадак Смерці)**

— Я з Мюнхена!
Я Іаган!
Вам не усохла памяць?
Дык не наводзьце, як наган,
У грудзі тонкі палец.

Я быў малы!
І я падрос!
Мы доўга здзек цярпелі.
Глядзіце:
Воблакі з нябёс
Наматвае прапелер.

Вунь у падстрыжаных ляcках
Ракеты, як аўчаркі,
Стаяць на чуйных павадках —
Заакіянскай маркі.

Мы пранясёмся, нібы смерч,
Над вашаю зямлёю.
За бацькі смерць,
За брата смерць
Заплаціце крывёю!

## ВЫБУХ ТРЭЦІ

**(...Смерць)**

— Іаган, я твой бацька. Чуеш?
Не вярнуўся дамоў я з вайны.
Ты у мяккай пасцелі начуеш,
Я ж — у цемры струхлелай труны.

Я ляжу тут, маўклівы і сцяты.
Як падумаю — проста жах —
Свет вялікі такі, а распяты
На бярозавых белых крыжах.

Мы стралялі, як нас вучылі
(Я не помню — колькі гадоў),
І малых хлапчукоў, і дзяўчынак,
І бабулек сівых, і дзядоў.

Труны... Труны...
Знямелыя струны...
Дзе пачатак,
                    а дзе канец?
Нават труны на трунах.
                                        Труны!
На падліку —
                    які вянец?

Пра якую гаворыш расплату?..
Як падумаю — проста жах! —
Свет вялікі такі, а распяты
На бярозавых белых крыжах.

## ВЫБУХ ЧАЦВЁРТЫ

**(Маці)**

— Мама родная!
Нават сёння
(Столькі год ужо,
Столькі год!)
Ты здаешся мне крышачку соннай
Ад вялікага гора свайго.

Бацьку...
Мужа...
І нават брата...
Мама родная!
                    Божа мой!
З-за маршчын,
                    быццам бы з-за кратаў,
Востра выблісне
                    смутак твой.
Ды і мне не лягчэй.
Не ўбачу
Бацьку я.
Для мяне ён — як дым.
Толькі шустрыя кнігаўкі плачуць
Аб адным,
            аб адным,
                        аб адным...
Хто там зноў паграждае?
Хто там?
Чый там
            тоненькі голас пусты?
Самі ўсе мы нібыта доты,
І, як доты, наўкол кусты...

## ВЫБУХ ПЯТЫ

**(Нашчадак Жыцця)**

— Я Мюлер Ганс!
Мой рускі брат,
Перада мной, як цені,
Крыжы, крыжы іржавых крат
І бухенвальдаў сцены.

А там з людзей, у сто цапоў,
А можа, і мільёны,
Смерць выбівала, як з снапоў,
Крывавыя праклёны.

І заклубіўся дым густы,
І неба пабялела,
Калі, нібыта на кастры,
Германія гарэла.
Пажар суцішыўся.
Аднак табе кажу я, Толя:
Скрозь поле міннае. Яна,
Германія, як поле.

Іх столькі, мін, што не злічыць,
Усюды пастаўлялі...
Мой бацька мог бы памагчы,
Ды бацьку расстралялі.

## ВЫБУХ ШОСТЫ

**(...Жыццё)**

— Ах, родны сын!
Здаецца, ўчора
Цябе, маленькага, сустрэў,
А ўжо эсэсаўцы у чорным
Мяне цягнулі на расстрэл.

Мінёрам быў я...
Там у вочы
Канвойны жарт мне адпусціў:
— Не памыляюцца ў нас двойчы,
Адна памылка ў жыцці...

І я прашу вас: асцярожна.
Яшчэ вам, хлопцы, жыць ды жыць,
А падарвацца ўсюды можна
На міне, што здаўна ляжыць...
Яна пастаўлена не ўчора.
Спакойным быць я не магу.
Нічога, хлопчыкі, нічога,
Я зараз вам дапамагу.

. . . . . . . . . . . .

З рук мінёра прымаючы міны,
Носім з Гансам, аж пот цячэ.
А што з імі рабіць павінны —
Не ўсюды вядома яшчэ.
Рокат Рэйна і смутак Сожа...
Мрок Меконга і думы Дзвіны...
Толькі дружба сягоння зможа
Размініраваць шар зямны.

Носім міны.
Мы носім і носім.
Не гадзіны, а многа ўжо дзён...
За руку мяне нехта — і просіць:
— Разбярыся, дзе ява, дзе сон.

Шчыры позірк я помню і знаю:
Бацька...
Тата, цябе пазнаю.
...У руках я не міну трымаю —
Паэму сваю.



Чаму у нас паэтаў — як бяроз,
Чаму у нас бяроз — нібы паэтаў,
І цёпла сэрцу ў студзеньскі мароз,
І нават самай цёмнай ноччу светла?

І вецер мне шапнуў тады: «Бяроз
У нас так многа ў вёсках і на полі
Таму, што імі асвятлялі лёс
І цёмную цяжкую долю».

А лес трывожнай бронзай празвінеў:
«Таму так многа ў нас было паэтаў,
Каб за усіх, хто гаварыць не ўмеў,
Яны пра край наш расказалі свету».

Таму у нас паэтаў — як бяроз,
Таму у нас бяроз — нібы паэтаў,
І цёпла сэрцу ў студзеньскі мароз,
І нават самай цёмнай ноччу светла.

## МАР'Я

Цётка Мар'я — у вачах бясхмар'е.
Толькі не прывык я ўсё ж яшчэ,
Што за плугам — Мар'я
І у полі — Мар'я
Мар'я возіць дровы і сячэ.

Помніцца, як па патрэбе нейкай
Бегалі — хоць галаву скруці:
«Не хапае некалькі капеек,
Цётка, дарагая, даплаці...»

І цяпер яшчэ ў часіны злыя
Пішам цётцы пісьмы даплатныя...

Шар зямны пад сілу перакроіць.
Тут жа —
                    вось такое адкрыццё:
Як пісьмо без маркі даплатное,
Даплатное ўсё яе жыццё.



Васільковыя вочы...
Мне хочацца гэтак,
Каб былі васільковымі
Лес і рака
І былі васільковымі
Святы ад кветак,
Што дзяўчаты і хлопцы
Нясуць у руках.

Я дадому прыеду —
Смяюся і плачу,
Нават з самай цярністай дарогі
Здалёк
Я над Шклоўшчынай неба
Сінюткае бачу,
Што пад ветрам гайдаецца,
Як васілёк.

## БАЛАДА

Ты помніш, хлопец, як пад палкай
У Трасцянцы ты дзень пры дні
Дзяліў між вязняў хлеба пайкі,
Каляныя, як камяні.

Не абдзяліў нікога. Трошкі
Тады з вас кожны наракаў,
Што са стала змятала крошкі
Адна і тая ўсё ж рука.

За вязнем ледзьве вы не беглі,
Калі ад вернае бяды
Хаваў свой хлеб дзівак нягеглы,
Хаваў няведама куды.

Ты помніш дзень, працяты скрухай,
І ноч цяжкую, быццам грэх,
Калі аднойчы ён падслухаў,
Як гаварылі пра пабег.

Ты помніш: рукі задрыжалі,
Калі матрац падняў стары,
Дзе, нібы золата, ляжалі
Кавалкі хлеба, сухары.

О гэты хлеб! О словы: «Хлопцы,
Бярыце ўсё... Я не магу...
Сваё аджыў... І сіл не хопіць...
А тут яшчэ я памагу...»

Сек золкі дождж.
Сляпіла снегам.
І ноч чарнелася, як крот.

Сцякалі Марс і зорка Вега
Крывёю на калючы дрот.

Вас сустракалі партызаны,
Перапраўлялі да сваіх.
Даўно вы залячылі раны,
І мы ля помніка стаім.

Схіліўся галавою русаї.
І буду думаць многа год
Пра гэты дзіўны беларускі
І гэткі блізкі мне народ.



Вёска Гута...
Скажы мне, Гута,
Колькі дзён ужо,
колькі год
Сонца вогненным парашутам
Апускаецца ў ціш балот?

Вось і купал чырвоны ляжа,
Вось і людзі ў вёсцы паснуць,
І нічога ніхто не раскажа,
І нічога ад іх не пачуць.

Не пытайце!
Маленькі хлопчык,
Што маўкліва стаіць на дварэ,
Вам раскажа, што рускі лётчык
На кастры пара́шута згарэў.



Гул баёў...
Разбітыя дарогі...
Ныюць раны,
хоць і не свае:
Сядзе ля мяне салдат бязногі,
Песню пра паходы запяе.

Ты, салдат, спявай такую песню,
Каб забыў і сам,
што ты без ног,
Каб ён ведаў, мой круты равеснік,
Хто што мог
і хто чаго не змог.



Ад першай да апошняй паласы,
Настоены на мяце ў самай сіле,
З сярэбраным адлівам каласы
Трывожнымі званочкамі званілі.

Мядзвяны жнівень дрэмле на палях,
Калі ні выйду — позна я ці рана —
Мне радасна, што родная зямля
Каронаю снапоў каранавана.



Агні, агні...
Далёкія агні...
Слупы, слупы каля дарог, як свечкі...
З галін жыцця паападаюць дні,
Не знаю —
ў забыццё ці ў вечнасць.

Рака вясною паламае лёд.
Над ёю стану —
і зусім не дзіўна,
Што цягнецца гадзіна, быццам год,
А часам год здаецца, як гадзіна.

Бягу, бягу за імі наўздагон,
Лячу, як коршун.
Падаю, як голуб,
Не знаючы, як некалі Ньютон,
Дзе важкі яблык упадзе на голаў.

## ЛІХТАР

Ад нізкіх парыжэлых хмар,
Нібыта брага, рыжае паветра.
Асенні ліст апошні, як ліхтар,
Гайдаецца пад мёрзлым ветрам.

Каму, каму упарта свеціць ён?
Я думаю,
і ўсё ж яшчэ не знаю,
Што асвятляе ён:
ці хмурасць дзён,
Ці успамін пра лета асвятляе?

* * *

О, калі б вакзалы расказалі,
Груз цяжкі з сваіх звалілі плеч,—
Колькі абмывалася слязамі
Тут і расставанняў і сустрэч!

Думаю: а што такое слёзы?
Паспрабуй што-небудзь з іх вазьмі.
І бялеюць русыя бярозы,
Як аб нечым светлым успамін...

## КАСТРЫ

О тое чорнае учора!
Усім шукальнікам на страх
Палілі некалі вучоных
На інквізітарскіх кастрах.

О тыя вогненныя смерчы!
Хоць трэба іх было заліць,—
Яны былі не толькі смерцю,
Яны паходнямі былі.

І хоць палілі, спапялялі
Людзей вялікіх, дарагіх,—
Дарогі ўдалеч асвятлялі
Для непакорлівых другіх.

І праз цені і праз краты
Да праўды клікалі, вялі.
Ішлі у іх святле Рэмбранты
І Пікасо ішлі,
ішлі...

Няхай трашчаць, няхай палаюць
Кастры — ўчарашнія грахі,—
Яны і сёння асвятляюць
Жывой паходняю шляхі!



Голуб устрывожаны, нясмелы,
У яго вялікая бяда:
Галубятня сіняя згарэла,
І няма ні дзетак, ні гнязда.

Верабей крычыць яму: «Паслухай,
Гора мы крынічнаю зап'ём.
І каноплі будуць нам, і мухі,
І шпакоўня светлая, як дом».

«Верабей, ты ўсё яшчэ ранейшы,
З выдраным абшарпаным хвастом.
Ды за племя ваша я вышэйшы
Чэснаю сваёю прастатой.

Не цягаў авёс ніколі ў коней,
І ніхто мяне не дакараў,
Што займаў чужыя я шпакоўні
І каноплі я бязбожна краў.

Чэсным хітраваць нідзе не трэба.
Калі што, то добра знаю я:
Для мяне высокае ёсць неба
І, як камень, цвёрдая зямля...»

І пайшоў, маўклівы і нясмелы.
Узмахнуў крылом і ў неба ўзмыў
Над сваёю хатай абгарэлай
І туманам ранішнім, як дым.



Калі ў парыльню ты улазіш,—
Глядзі, глядзі не анямей:
Дыхне гарачай парай лазня,
Нібы які міфічны змей.

І вось табе ужо здаецца,
Што на палку там, угары,
Не дваццаць цел мужчынскіх б'ецца,
А на патэльні дваццаць рыб.

Вунь-вунь суровы, нібы дэман,
На лаву ўсеўшыся ямчэй,
Лютуе сівы акадэмік —
За нейкі грэх сябе сячэ.

А гэты рыжанькі і тоўсты
Гандляр — ідаць, аматар браць —
Лупцуе так сябе, што проста,
Здаецца, хоча скуру зняць!

І алкаголік даўгалыгі
Сячэ сябе, сячэ за двух,
Нібыта хоча з цела выгнаць
Гарэлкі дух, сівухі дух!

Што не чысцюля сам я — знаю.
Хапаю венік у руку
І у парыльню улятаю,
І сам сябе сяку, сяку.

## АСЕННІ ЭЦЮД

Знаёмы край!
А восень пасталела,
Заходзіць у маўклівыя сады,
І самакруткі з лісцяў круціць смела,
І над зямлёй пускае хмуры дым.

Асенні дым густы такі і чорны!
У самакрутцы так дыміць сырэц,
Калі ім заглушае гора
Няўмелы і нявопытны курэц.

А першы снег кладзецца асцярожна.
Ад снегу — як малочнае, сяло.
І быццам не было і дум трывожных,
Нічога і ніколі не было.



Даўно не чуў я шолах лісця.
З свайго сяла, дзе гразь і снег,
Як і другія, я калісьці,
Як палахлівы заяц, збег.

І як у казцы — дзіўнай самай,—
Заўсёды зблізку і здалёк
Ляцеў на яркія рэкламы
Так, як на лямпу матылёк.

І з кожным днём, і з кожным годам,
Каб верным быць любому дню,
Мяняў сябе я так, як мода
Штанін мяняе шырыню.

Затым адчуў — спярша памалу,—
Што цягнуць дрэвы і трава.
А ў сэрцы нешта прарастала
І ўжо шумела, як ліства.

І вось — сяло! Мая калыска!
І першы крок, і першы сон,
Дзе ветракі, як абеліскі,
Стаяць на варце даўніх дзён.

А дзень мінуў — мяне агулам
(Чаму — яшчэ не знаю сам),
Як на канаце, пацягнула
Да паркаў, вуліц і рэклам...

Я зразумеў, што я зялёны,
Як адарваны ветрам ліст,
Паміж зямлёй і пышнай кронай
На ўсё жыццё сваё павіс.



Усё не так, усё не тое —
Дарогі, хаты і кусты.
І нават лета залатое
Больш не здалося залатым.

І сенажаць не так бялела,
І лес вясёлы зелянеў.
Ці гэта ўсё так пасталела,
Ці, можа, сам я пасталеў?

І я маўчу, не знаю толкам,
Куды ішоў, куды вяло.
А можа, я прыдумаў толькі
Усё, што некалі было,—

Той свет няўпэўнены, юначы,
Кароткі, як зімовы дзень,
Які прымаў такім, як бачыў,
А адпускаў — якім хацеў.

## ПАДКОВА ШЧАСЦЯ

«Хто я? Што я? — думаю я часта,—
І з якой я далечы прыйшоў,
Дзе згубіў сваю падкову шчасця,
Ці яе зусім я не знайшоў?»

Мы пясок і гразь рудую месім.
Я пад небам апоўначы стаў.
Нада мной падковай шчасця — месяц.
Толькі б дацягнуцца і дастаць.



Добра ўсё ж забыцца на хвіліну
І пабыць хоць міг з самім сабой.
На цябе нахлыне і адхлыне
Думак растрывожаны прыбой.

Паглядзі: бяроставая кварта
Серабром бялее у руках...
Што нам варта і чаго не варта —
Прачытай у будучых вяках.

Толькі дзе, скажыце, кніжка тая?
Можа, з гэтых бежавых акон
Ты ужо, ужо цяпер чытаеш
Найсакрэтны клінапіс вякоў.

Хто, нябачны, растрывожыў ранак?
І чаму упарта зноў і зноў
Вогненныя літары маланак
Гром збівае ў пліты важкіх слоў?



У мяне адзінае пытанне —
Не магу я разабрацца штось:
Колькі ўсё ж паверхаў ёсць над намі,
Колькі над зямлёй паверхаў ёсць?

Птушкі занялі паверх паветра,
Каб у песнях славіць вольны свет.
А вышэй?
Вышэй ідуць паверхі
Самалётаў, а затым ракет.

Прагну сонца, чысціні паветра.
Вышыня мне кружыць галаву.
Ды мацнеў за ўсе як ёсць паверхі
Я люблю паверх, дзе я жыву.

І хаджу я задуменным борам,
Думаю: усе свае гады
Падымацца мне адсюль угору,
Зноўку апускацца мне — сюды.

* * *

Тармазі, машына!
                    Я прыехаў!
Закрычаў яшчэ нябачны птах.
Коціцца гарошынаю рэха
Па зялёных дрэвах і кустах.

Як паводка, разлілося лета.
Луг і рэчку лозы абнялі.
Я гукаю: «Света! Дзе ты, Света? —
Ці на небе ты, ці на зямлі?»

І сябе гукаю: «Толя! То-ля!»
Над вадой задумліва стаю.
Як не пазнаю я лес і поле,
Так сябе цяпер не пазнаю.

Адчуваю стрыманасць і сілу,
Адчуваю сум па той, другой,
А усё,
        што некалі бурліла,
Ападае ў рамкі берагоў.

## ЗІМА РАСІІ

Зіма Расіі — снежная зіма,
Ў сумётах аж па макаўкі бярозы.
Гавораць, што нідзе зімы няма,
Каб трэскаліся дрэвы ад марозу.

Зіма Расіі — лютая зіма,
Завеі над палямі голас зычны.
Стагналі заваёўнікі: «Зямля!..»
Снягі і маразы ім непрывычны.

Хвала зямлі, дзе ворагаў няма,
Дзе не адна ў снягі лягла навала.
А рускіх наша руская зіма
Яшчэ ў жыцці ніколі не чапала.

Я слухаю: мяцеліца гудзе,
Рыпяць, напамінаючы, асіны,
Што у любой у будучай бядзе
Нам дапамогуць маразы Расіі.

## ГОРЫ

Маладзік — пярсцёнка палавіна.
Воблака плыве, як белы птах.
Хто сказаў, што горы, як лавіна,
У даліну коцяцца? Лухта!

Ім вышэй да сонца уздымацца,
З вышыні глядзець на дзіўных нас,
На малыя крыўды забывацца,
Адвыкаць ад дробязных абраз.

Толькі не!
Зямное не забылі,
Ці ўжо лёс у іх, відаць, такі,
Што яны, маўклівыя, застылі
Між зямлёй і небам на вякі!



Пяро на снег маўклівы птушка скіне
Ці грукне камень, грукне неўпапад —
З гары высокай коціцца лавіна,
Грыміць, як Ніягарскі вадаспад.

Яна ўпадзе са скал акамянелых
У рэчышчы асірацеўшых рэк,
Як жорнамі, жывое перамеле,
Патрушчыць,
паламае,
ператрэ.

Што горы — вышыня,
я гэта знаю,
Лавіна — сіла, як ні гавары.
А што рабіць,
калі любоў бывае
Куды вышэй высокае гары?

Калі ад каменя, што нехта кіне,
Змятаючы усё, нібы лісцё,
Пакоціцца сталёвая лавіна,
І не захочаш думаць пра жыццё.

Тады не дапамогуць час і людзі,
Не вылечаць ні радасць, ні бяда,
І толькі рэха
доўга-доўга будзе
Смяяцца над лавінай і рыдаць.

## АБВАЛ

— Ха-ха-ха-ха! —
абвал снягоў рагоча.
Плыве лавіна —
гэта я
крычу.
Мяне ўвесь свет,
я знаю,
бачыць хоча,
А я нікога бачыць не хачу.
Дабрыдзень,
продак самы найдалёкі!
Вось я,
здаровы, як калісьці ты,
Спускаюся ў даліну з гор высокіх
І скуру раздзіраю аб кусты.
Не стаўце пасткі —
я іх распазнаю.
Сталёвай сеткі дрот
парву, як ніць.
Па скалах тых мая нага ступае,
Дзе вышай аніколі не ступіць!
Пасцель
і ежа,
вопратка —
не трэба!
Вятры ўзаб'юць снягоў пухавікі,
Я накрываюся, як коўдрай, небам.
Пад галаву —
каменняў кулакі.
Я чалавек.
Я горды і адчайны.
Са злом і крыўдай
вечна на нажах.

Я, як і вы,
з рукамі і вачамі.
Хіба што хітрасці няма ў вачах.
Я чэсны быў,
а вам здаваўся смешным.
Я збег ад вас.
Збег у далёкі век,
І вось цяпер
для вас усіх я
Снежны —
Ха-ха-ха-ха! —
я Снежны Чалавек!
О дзівакі!
Я помню ўсё.
Вунь злосна
Касу мачае дзед мой у ваду,
І як ваду — сваю ён долю косіць,
Гудзе з маўклівай злосцю ў бараду.
Я помню:
Там, каля рачулкі,
з плачам
Зашыўшыся ад холаду ў кусты,
Я пасвіў тлустых гаспадарскіх качак,
Затым свінням накручваў я хвасты.
І,
бачачы,
што у суседа пухне
Ад голаду малая дзетвара,—
Свінню ад статка аджануў я пугай
І з гордасцю прыгнаў да іх двара.
У той жа дзень на гаспадарскай стайні
Мяне вучылі азбуцы жыцця...
Ну, а суседзі
пры сустрэчы сталі
Шаптаць услед мне:
— Беднае дзіця...

Сур'ёзнае прымалі ўсе за жарты,
Не верылі у лівень шчырых слёз.
Па-іхняму,
                                і рос я паўвар'ятам,
А можа,
                        і вар'ятам поўным рос.
О ўсе нечалавечыя пакуты!
Пра нож я думаў.
                                                Думаў пра пятлю.
Як чалавеку
                                добрая Данута
Мне першая прызналася:
                                                                — Люблю...
Я закіпеў!
Я ўсё прымаў за жарты!
Хацеў у рукі хварасціну ўзяць
І паказаць «люблю»,
                                                і паказаць «вар'ята»,
Ды раптам просьба ціхая:
— Прысядзь...
Размовам я пяшчотным не вучыўся,
Каханне мне не снілася і ў сне,
Не помню, як увечары злаўчыўся
І ёй пачаў расказваць пра... свіней.
Яна шаптала:
                                    — Паглядзі на зоры...
А я, малы, рукой махнуў на іх.
Сказала мне:
                                    — Як пра любоў гавораць,
Ідзі і павучыся... у другіх...
Я лавачку знайшоў.
Я ведаў Стася.
З Данутай ён хадзіў туды заўжды.
Я слухаў.
Я трываў.
І ўсё ж не ўстрымаўся.

І ўсе мы беглі.
Беглі —
хто куды.
Не знаю,
як Данута зразумела,
А што сказаў ёй так —
то быў не рад:
Адсунулася ўбок яна нясмела,
Падумаўшы,
што я усё ж —
вар'ят.
Чаму я не бяру,
дзе нават можна?
(А трэба рваць!
І трэба рваць умець!)
Чаму адкрыты, а не асцярожны,—
Было ёй немагчыма зразумець.
Бывай, Данута!
З захаду гарматы
Кацілі вал жалеза...
ў тыя дні,
Калі на свастыцы была распята
Уся Еўропа,
у турме я гніў.
Не ранены, а быў увесь як траўма...
Здавалася,
што ўжо на ўсе гады
Ляжаць
намёртва
на пажоўклым твары
Жалобнай стужцы
чорнай барады.
Калючы дрот —
нахмураны і шэры.
І хоць у лбе
ты нават пядзю быў,

А ён твой час
упэўнена адмераў —
Адрэзак ад барака да трубы
Нямога крэматорыя.
І помню я
(Ля печаў працаваць мне выпаў лёс),
Як курчыліся мёртвыя у полымі
І нават
уставалі
ва ўвесь рост!
Шчаслівыя!
Ім болей не пакутаваць...
І раптам
я застыў і анямеў:
Узняўшыся над полымем,
Данута
Глядзела праз акенца на мяне...
Хіснуўся свет
падрэзанаю вешкай.
Знаёмы твар
мільгнуў
і зноўку знік.
Казалі —
я счарнеў, як галавешка,
Напружыўся,
як тыя,
што ў агні...
Маланка гневу
позірк асляпіла.
Жахнуўся нехта:
«Божа барані!..»
Але чыясь рука перахапіла
Маю руку,
і лом я ўраніў.
Заплакаў
і застыў я у здранцвенні.

Хоць вязні суцяшалі
як маглі,
Я думаў,
што было б усё-ткі меней
Адным смярдзючым гадам на зямлі...
І —
зноўку печ.
Сірэны выюць нема.
Шарэнг абоймы.
Кожны, як патрон.
А на усходзе
ўжо гудзела неба
Ад выбухаў,
нібы вялізны звон.
Відаць,
учуўшы гэты голас гулкі,
У ціку
торгаўся калючы дрот.
Святой Свабоды
ўпэўненыя рукі
Грымелі ўжо
заваламі варот.
І створкі расчыніліся.
І з пекла б
Не беглі грэшнікі,
як мы тады
Да родных хат,
у свет як у капейку...
І я пабег,
не знаючы куды...
Я бег так,
як забойца бег ад кары,
А за спіною —
крэматорый гуў.
І замільгалі гарады,
як кадры:

Стакгольм,
Александрыя
і Кабул...
І вось —
сляды завея замятае.
Перада мной —
гарбы маўклівых гор.
Бывай, усё!
Дабрыдзень, Гімалаі!
Я з каменя раблю сабе тапор...
Ха-ха-ха-ха! —
абвал снягоў рагоча,
Плыве лавіна —
гэта я крычу.
Мяне ўвесь свет,
я знаю,
бачыць
хоча,
А я нікога бачыць не хачу!
Смяюся я.
А мне
зусім
не смешна.
Я збег
ад ганьбы
у мінулы век.
І вось цяпер
для вас усіх я
Снежны —
Ха-ха-ха-ха! —
я
Снежны Чалавек!

## МОСТ

*Амерыканская трагедыя*

### I

Шырокая вуліца горада ўпіраецца ў мост. Тут жа стаіць былы перавозчык і моліць:

— Падайце, містэр...
Я рабочы рос,
А бачыце — працягваю руку.
Вы бачыце — пятлёй аркана мост
За горла ўзяў карміцельку-раку.

І хоць я помню, як грымеў трацiл,
Машыны і рабочыя кішэлі,—
Здаецца, мост не ферму апусціў,
А пальцы — у маю кішэню.

Падайце...
Сэрца так баліць, шчыміць...
Галодная сям'я чакае дома,
А лодка перавозчыка стаіць
Ля берага крутога нерухома.

*(Убок)*

Якая скнара, д'яблава карга!

*(Усім)*

Падайце; працы не знаходжу часта,
Бо ля завода кожнага чарга
Такая доўгая, як шлях да шчасця.

Бачыць, што ніхто яго не слухае, пералазіць цераз парэнчы. Чуваць усплёск вады і крыкі: «Утапіўся! Паліцыю! Паклічце паліцыю!»

1-шы голас:

— Заўсёды так: калі ты у бядзе,
Калі табе патрэбна дапамога —
Не ўбачыш паліцэйскага нідзе.

2-гі голас:

— Там, дзе не трэба, іх заўсёды многа.

## II

Мост. На ім стаіць малады хлопец і разважае:

— Канчаюць самагубствам з гора людзі.
Іх час прабіў, а сёння стукнуў мой.
Паслухайце, няхай паэту будзе
Апошняю трыбунай гэты мост.

Пакуль сыду пад воплескі ракі,
Цыгаркі зорак неба не дакурыць.
Я жыць хачу, але наш час такі,
Калі за ўласную трасуцца шкуру.

І нам камусьці трэба дагадзіць,
І тыя «дзеячы культуры»,
Якім пляваць на лёс літаратуры,
Нумараваць нас могуць і судзіць.

## III

Рэзервацыя. За высокай агароджай апошні з магікан. Ён бачыць, як з моста падаюць людзі. Магіканін моршчыць лоб, стараючыся нешта прыпомніць.

— Як з кожным годам людзі
разумнеюць!
А мне ніяк ні ў чым не разабрацца,
І я усё па-свойму разумею —
Апошні з магікан у рэзервацыі.

І хоць стары і ледзьве на нагах —
У жылах алкаголь здаўна гуляе —
Працягваю руку па тамагаўк,
А пад руку ізноў віно трапляе.

Ну што ж, давай, апошні з магікан!
Разяўлю рот,
як прагная акула,
І ў рот, як на сябе наган,
Наводжу я бутэлькі поўнай дула!

Ляжу і п'ю, маўклівы, на траве.
На крыўды і на гора забываю.
І покуль не засну — у галаве
Хмурынкаю былое праплывае.

Я помню, як у джунглі на зары
З надзеяй я пайшоў на паляванне
І ўбачыў там задушаную рысь
І ледзь жывога хлопца на паляне.

Віліся валасы яго. Як дым,
Кроў з ран плыла. Ён без мяне б загінуў.
Яго народ мой вылечыў. І з ім
Да нас прыйшлі ў паселішча другія.

Затым прыходзіць пачалі часцей
І хітрай ласкай сэрцы пакарылі.
Давалі спірт... А для малых дзяцей
У джунглях школы ўпершыню адкрылі.

Ах, тыя школы! Трэба б іх закрыць;
Здаецца, сёння нечы голас чую,
Што можна нашу мову
не вучыць,
А толькі трэба вывучаць чужую...

І дзеці неразумныя былі...
Старыя паміралі з кожным годам,
І вось няма ўжо
роднае зямлі,
Ужо няма індзейцаў як народа...

Нібы ліяны,
пераплёўся дрот,
У ноздры б'е фабрычным чорным дымам.
Я разяўляю рыбінаю рот
І сню глухі абшар свае радзімы.

## IV

Шкляны кабінет тыгра прэсы. Румяная сівавусая тумба за нізкім белым столікам. Уваходзіць аўтар паэмы. Бос, не падымаючы галавы:

— Чытаў паэму вашу, сэр, і знаеце —
У ёй прагрэс вялікі не відзён.
Скажыце мне, на што вы намякаеце?
Ах, хочаце пярэчыць?..
Вон!..



Шаша нырае ў гул і грукат,
Ў накрапы рэдзенькіх слупоў,—
Цыгарку вёрст бярэ у рукі,
Пускае ў вочы дым снягоў.

Хай не стараецца!
Па праву
Убачу я праз гэты дым
Сяло — маленькую дзяржаву,
Дзе хаты, быццам гарады.

І хоць праеду я паўсвета,
І буду ўперад я спяшаць,
Сюды вярнуся я: планета
Для нас усіх — вялікі шар.

А можа, шар усё?
З адчаем,
Якому часам толькі рад,
Мы столькі многа пачынаем
І зноў вяртаемся назад!

## МОРА

Тайнай глыбіні, што не раскрыта,
З дзён маленства,
што далёка дзесь,
Ты мяне прыцягвала магнітам,
Быццам быў з жалеза я увесь.

Я прыехаў.
Злева і направа
Караванам цягнецца града.
І халодным позіркам удава
Свеціцца, прыцягвае вада.

Я плыву.
І ў цішыні зялёнай
Адчуваю тую сілу я,
Што маўкліва шматгалосым звонам
Разгайдала нават акіян.

Вось і ўсё. І тайна мной раскрыта:
Маючы на ўсё свае правы,
Мора тых прыцягвае магнітам,
Хто жалезны з ног да галавы!

## МЫС ЖАДАННЯ

Такі быў лёс: чакаць гадамі.
Чакаць, не плакаць і не ныць,
Каб мне затым
на мыс Жадання
На ледаколе белым плыць.
Тут, на зямлі,
дзе лёд вякамі
Глядзіць стотысячныя сны,
Вясной фарбуюць яйкі кайры
У колер лета і вясны.
О колер лета! Колер сілы!
Цябе якраз тут не стае.
Іду і бачу тры магілы.
І сам пытаюся: чые?
Маўчаць яны. Маўчыць паданне.
Магілы ўсюды, дзе ні жыць...
Ды дзіўна ўсё ж мне:
мыс Жадання...
А нехта ўпаў тут і ляжыць...

## ПЕСНЯ

Дзяўчо стаяла і спявала,
Глядзела сумна на маяк:
«Яшчэ учора сустракала,
А сёння зноў праводжу я.

Я на прычале запачую.
Махну рукою караблю.
Сама сябе я пацалую.
Сама сябе я палюблю...»

За бераг судны павярнулі.
І прашаптала ёй вада,
Што маракі, як і зязюлі,
Не маюць цёплага гнязда.

## МАЯТНІК

І ў жыцці, і ў выдумках нясмелых
Розніца малая — час такі.
Некалі аўчарка захварэла
Морам,
як хварэюць маракі.

Падышла і юркнула умела
Ў цішыню расчыненых кают.
А калі ад гуку анямела,
Вылезла, трывожная, на ют.

І прайшла ад юта і да бака —
Бераг быў ужо далёка дзесь.
Толькі не!
Не выдалі сабаку
Маракі ні рыбам, ні вадзе.

Землі узнікалі і знікалі.
Галаву туманіў сіні хмель.
І каманду ўсю даўно спісалі,
І даўно спісалі карабель.

А на ім ад юта і да бака
Ходзіць між прабіўшайся травы
Морам захварэўшая аўчарка —
Бесталковы маятнік жывы.

## МАРСКІЯ КУЛІКІ

Туманы ўсю зямлю закрылі —
Сіні ветразь Поўнач узняла.
Вось напяты цецівою крылы
І кулік ляціць, нібы страла.

І ў вячэрнім плачы, што з адчаем
Сеецца, як снег, на караблі,
Знітаваны лёс вясёлых чаек
З лёсам тых,
хто ходзіць па зямлі.

Не ляціцца. Ды і не сядзіцца.
Што рабіць,
калі на ўсе гады
Кулікі — марскія пехацінцы —
Сувязныя сушы і вады!

## АКІЯННА

І сталь палярнага туману,
І ноч, як грэшніка душа,
Знікалі ў пашчы акіяна
І раставалі, як іржа.

І я пачуў трывожны голас.
І сёння ўспомнілася зноў,
Што галава, як спелы колас,
Раняла сумна зерні слоў.

Ах, разумею, акаянны,
Цяпер праз многія гады,
Што з акіяна Акіянна
Ка мне выходзіла
тады.

І хваляў шум, і чаек крыкі,
І косы шэрыя з ліян —
Усё сцвярджала аб вялікай
Душы яе, як акіян.

Калі ж прайшла хвіліна тая,
То зразумеў і чорт і брат,
Што сам з сябе я вырастаю
Над акіянам, як Атлант.



Адысея даўно пахавалі —
Доўга дома яго не было.
А вясло над марскімі хвалямі
Трапятала, нібы крыло...

Адвячоркі там ці світанкі —
Прышчаватыя панічы
Пачыналі такія атакі,
Хоць ты гвалт, Пенелопа, крычы!..

Якар з'ела іржа на лодцы.
Жаніхі пачыналі лысець...
З нас таксама, напэўна, хлопцы,
Кожны — крышачку Адысей.

Мы, бывае, губляемся ў далечах,
Растаём між бяроз і асін.
І нявесты нярэдка ўглядаюцца
Ў небасхілаў трывожную сінь.

Так чакаюць здалёку вестачак!
Ды,
    калі не чутно і іх,
Не хадзіце з другімі,
                                        нявесты,
Выглядайце,
                            нявесты,
                                        сваіх.

## ЗОРНЫЯ АБДЫМКІ

Сляпы працягваў рукі
і маліў
З трывогаю,
надзеяю і плачам,
Каб сонечны
пшанічны лівень ліў
І гаварыў:
«Тава-ры-шы, не бачу...»
Сляпога мне
шкада і не шкада.
Я быў відушчы.
І калі мне
Паказвалі ваду, казаў «вада»,
І на даліну —
гаварыў «даліна».
Сляпога асляпіў вайны удар.
Я ж толькі бачыў дабрату і ласку.
Адрозніць цяжка чалавечы твар
Ад чалавечай маскі.
Была ты ў масцы!
Словы ўсе твае —
Малюсенькія масачкі бясконца.
А твар
вялікай маскай аддае,
Падробленай пад гарызонт і сонца.
Аркестр вальс знячэўку абарваў,
Калі
без жалю
і ніякай ласкі
З цябе я маску нейкую сарваў
І так,
нібы з усіх,
хто носіць маскі!

І ты растала, як прыгожы дзень.
Ты стала незвычайнаю і новай.
Не носіш маскі ты.
Ты — хітры цень.
Пагардны і суровы.

...І быццам бы нічога не зрабіла,
І ўсё на гэтым свеце як адно,
Глядзіць Чырвонай Шапачкай рабіна
У хмурае бальнічнае акно.
Не так!
Не па-майму хаценню
Трывогаю звініць маўклівы свет,
І на планеце ходзяць людзі-цені:
То там, то тут
Іх заўважаюць след.
І вось прыйшлі. І распласталі цела,
Хоць гэтага зусім я не хацеў.
І днём і ноччу душаць безліч ценяў,
А сярод іх — і твой, канечне, цень!
Нічога!
Сіла ў целе не памерла.
І не крычы, урач, а памаўчы!
Адна рука мая ў яе на горле.
Надзейная другая —
на плячы.
І ўсё — адразу.
І абмякла цела.
А тое, што ўяўлялася здалёк
Мне часта ненажэрным ценем,
Быў просты беларускі васілёк...
І ў твар дыхнула яблычнае ранне.
Ну як жа разгадаць мне дзіўны сон:
Здаецца, я душыў сваё каханне,
А ў руцэ —
раднейшая за ўсё...

І плацце неба ціха зашумела.
Адчуў я дотык лёгкага пляча.
І — сіняе — здалося плаццем белым.
І зорка замест брошкі,
І адчай...
І вось ля рэчкі
Ў ласкавае неба
Па ціхай плыні зорнае ракі
Са свечкаю,
умацаванай хлебам,
Паплыў вянок...
І зноў —
вянкі, вянкі...
І я ваду хутчэй разгроб рукамі,
І вынес на руках і на плячах
Вянкі...
А можа, выйшаў я з вянкамі,
Каб нанава усё-усё пачаць.
Каб нанава —
і шчасце і трывогі
У жылах з году ў год маіх гулі,
Каб нанава ва ўсе мае дарогі
Абдымкі толькі зорнымі былі.

* * *

А мора ў ліхаманцы аж трасецца...
У ранішняй світальнай цішыні
Здаецца мне, што гэта б'ецца сэрца
Аб чэрствасці тупыя камяні.

* * *

Ці таму, што сны мне дакучаюць,
Ці таму, што іх даўно няма,
У адчаі галасістых чаек
Чую, чую нечае імя.

Толькі тайна, векавая тайна —
Хто ты: промень светлы ці сляза?
На зямлі ў нас гэтулькі пытанняў,
Што на ўсе ніяк не адказаць.



Ні гор. Ні сонца. Ні вады.
Кнуты сваё залапаталі.
На снезе ўзорныя сляды
Алені выб'юць капытамі.

Адстану я ці даганю?
На нартах сцягам заалею?
І «но» крычу, нібы каню,
Я запалярнаму аленю.

А след — уверх. А след — убок.
Пятлёю мёртвай закруціўся.
На дрэвах іней, як дымок,
Што тут з трывожных ноздраў віўся.

Ці дзень, ці ноч?
Ці ноч, ці дзень? —
Не разбяру у полі белым.
Па цаліку бяжыць алень
Так,
як ніколі ён не бегаў.

Давай, алень!
Давай, што ёсць!
Хай снег сцякае па каленях...
І — абганяе маладосць
Старое мудрае уменне!

## БЕЛАЯ КНІГА

О, полюс,— верны і адзіны
Сівой зімы старэйшы сын,
Плывуць, плывуць твае ільдзіны,
Бялее мора ад ільдзін.

Гляджу на айсбергі і крыгі,
Стаю, схіляю галаву:
Ці не лісты з вялізнай кнігі
У хвалях тонуць і плывуць?

Ад раніцы і да змяркання
З іх — сініх, белых і рудых —
Радкі сцякаюць ланцужкамі,
Нібы струменьчыкі вады.

Што полюс піша — я не знаю:
Вятры, падняўшы гучны свіст,
Да белай кнігі падлятаюць
І шкуматаюць кожны ліст.

## ТРЭЦІ НАДПІС

Сасонка — залатая каралева.
Я не разгледжу, дзе туман, дзе дым.
Не сплю.
Хаджу.
І вось стаю ля дрэва,
Тры надпісы чытаю я на ім.

Каб разабрацца, падышоўшы блізка,
Я пальцамі ваджу па ямках слоў:
«Кастусь + Галя».
А ніжэй пад рыскай
Смалой густою заплыло: «Любоў...»

І словы, як уздыбленая хваля,
Як на вадзе апошнія кругі:
«Закатавалі... Я адпомшчу, Галя!»
І дата: «Год 42-гі».

І больш нічога...
Пэўна, не вярнуўся,
Калі пайшоў у той апошні бой...
Я выразаць хацеў, але баюся
Я выразаць на дрэве надпіс свой.

Я ведаю,
што мне не хопіць бору,
Каб умясціць на дрэвах векавых
Людское шчасце
і людское гора,
Тугу па мёртвых,
радасць за жывых!



— А я Урал пераплыву, —
Крычала мне здалёк.
Гайдалі хвалі галаву —
Маленькі паплавок.

Вада халодная, як сталь.
Крутыя берагі.
А над абрывам хлопец стаў
І ўніз...
Пайшлі кругі.

І паплылі, і паплылі,
Мінуўшы жоўты пляж,
Да неразгаданай зямлі,
Што быццам бы міраж.

Не хопіць сіл, не хопіць крыл!
Не адвярніце ўбок,
Пакуль гайдаюць хвалі крык,
Нібыта паплавок.

Не павярніце!..
Проста жах,
Губляючы спакой,
Стаяць на розных берагах,
Рассечаных ракой.



А я цябе прыдумаў сам,
Ні з кім, ні з кім не раіўся.
Ты недзе ходзіш па лясах
І у вадзе купаешся.

А помніцца,
як за ракой,
Дзе перапёлкі плакалі,
Шумела плацце з аблакоў,
Маністы зорак звякалі.

Адной любві!
Адной крыві!
З адных жаданняў скроены!
А працягну я рукі і —
Стаю занепакоены:

Маністы зорак не звіняць,
І ўсё,
як дзіва дзіўнае...
Хачу абняць, ды не абняць
Ніколі неабдымнае...



Сонца падала,
цені вузкія.
Апрануўся я і — на вуліцу.
І у сквервку
каля дома я
Стрэў харошую
незнаёмую.
Мне уся яна,
загарэлая,
Падабалася тым,
што смелая,
Тым,
што добрая,
чалавечная,
Тым, што верыла
ў нешта вечнае.
Развітаўся я —
трэба к поезду.
За яе цяпер
непакоюся.
Як там смелая,
чалавечная?
Ці знайшла сваё
нешта вечнае?
Ці пагашана
вера ў добрае?
...За даверлівасць
плацяць дорага.



Фігура строгай лініі.
За тэлефонным шклом
Стаіць дзяўчынка ліліяй,
Смяецца ў тэлефон.
Бялеюць шпількі модныя,
А стужкі паласа,
Як павуцінка гордая,
У гордых валасах.
А можа, гэта ветразі,
Каб плысці ўдалячынь?
Яна аб гэтым ведае
І, хітрая, маўчыць.
Ідуць усе і ахаюць.
(У наш дваццаты век!)
Куды яна, як яхтачка,
Сарвецца, паплыве?
Камусьці белым-белая
Ўплыве яна ў душу...
...Махну рукой нясмелаю
І губы прыкушу...



Трашчыць касцёр, і бульба варыцца,
Табун стрыножаны — наўзбоч.
І драч, як лепшаму таварышу,
На лёс свой скардзіцца ўсю ноч.

І пахне жытам і мякінаю...
Чаго ён скардзіцца, чаго?
Ці, можа, ў гэту ноч пакінула
Каханне першае яго?

Палю касцёр. Чытаю Льюіса,
Але у сэрцы дзіўны гнеў:
Упершыню ў жыцці хвалююся
Я за тваю любоў ка мне.

І бульба ўжо даўно не варыцца,
І ты сядзіш каля пляча,
А мне ніяк не забываецца
Крык адзінокага драча.

## КАЛІ РАЗВЕДЗЕНЫ МАСТЫ

1

Якая гулкая дарога,
А бераг ціхі і пусты,
І — як дакладна ўсё ж і строга
Былі разведзены масты!

Без жалю, болю, без аглядкі.
А мне патрэбна перайсці.
І цяжка кладку, нават кладку
Ў далёкай памяці знайсці!

2

Такая дзіўная знаходка,
Што не знаходжу проста слоў:
Хоць і біблейская, а — лодка,
Хоць вельмі ўмоўнае — вясло.

З яе разважліва выходзіў
І варушыў нагой лісты
Той чалавек, які разводзіў
Перада мной усе масты.

3

Якою радасць вам здаецца,
Калі у сполахах начэй
Нясмела радуга праб'ецца
З яшчэ няўпэўненых вачэй?

А мне яна здалася мостам,
Хоць знаю я і знаеш ты,
Што першы крок зрабіць не проста,
Калі разведзены масты.

4

А вось і бераг. Шклянка чаю.
І немата. І сэрца стук.
І зразумелая адчайнасць
І валасоў, і губ, і рук.

А ў першай радасці нясмелай,
У серабры шчаслівых слёз
Стаіць яшчэ незразумелы
Той чалавек, што перавёз.



Ад хмурых дзён да светлых дзён
Адно, адно імгненне.
Мы галаву сваю кладзём
З павіннай на калені.

Не трэба многа гаварыць,
Шукаць сабе ратунку,
Калі нядобрае гарыць
У горне пацалунку.

## ЗВАНОК У БЮРО ЗНАХОДАК

Сяджу, і тэлефоню, і прашу:
— Дзяўчынка любая,
у мяне такое гора —
Ці не прынеслі вам маю душу,
Якую я згубіў учора?

Смяецца, што няма, што прынясуць,
І напявае ў тэлефон мне штосьці:
— Вы знаеце,
а я згубіла сум.
Калі знайшлі,
прашу вас,
не прыносьце.

## МАТЫЛЬКІ

Над марывам сасонніку,
Што вырас ля ракі,
Пад гукі скрыпак конікаў
Танцуюць матылькі.

Іх крылы белым-белыя!
Такія, што — бяда!
І кісяю вясельную
Мне могуць нагадаць.

На нейкі міг сумеліся,
Снуюць туды-сюды,
Ды жаніхі падзеліся
Няведама куды.

І тут з маўклівай згодаю
Пад шэпат асакі,
Нібы дзяўчынкі гордыя,
Танцуюць матылькі.

## НА ПАРКАВАЙ

На Паркавай — прыгорбленыя хаты.
На Паркавай — высокі інтэрнат.
Выходзіш ты на голас глухаваты,
Захутваешся ў тоненькі халат.

Ды толькі сяду я на падаконнік
І, што спяшаю, зноў табе схлушу,
Прыпомніўшы аб хітрай і законнай,
Якой зарплату чэсна я нашу.

Развітваюся.
                Хуценька выходжу
І думаю,
          што у маім жыцці
Я ўсё шукаю нешта,
                              а знаходжу
Не тое,
          што павінен я знайсці.

## АНТОНАЎКІ

Зялёных яблыкаў зялёны пах.
І цішыня. І людзі ў вёсцы спяць.
А ў нас на маладых зубах
Антонаўкі зялёныя скрыпяць.

На спелыя не мелі мы надзей,
Сады траслі і днём і па начах.
«Страляю! Стой!» —
палохаў хітры дзед
І прыстаўляў рыдлёўку да пляча.

Смех несуцішны з ног усіх валіў.
І мне прыпомніўся
і дзед і сад,
Калі я, падрастаючы, адкрыў,
Што грудзі, як антонаўкі, ў дзяўчат...

І я адчуў зялёных яблык пах,
І тыя сны,
што людзі сёння сняць,
І — як на маладых зубах
Антонаўкі зялёныя скрыпяць.

* * *

Ужо даўно пакошаны лугі,
І не варожым: «Любіць ці не любіць?»
І абмяляелай рэчкі берагі
Нагадваюць даверлівыя губы.

* * *

Брыгада. Поле. Жартаўніцы,
Каб з хлопца ціхага пакпіць,
Казалі: «Трэба у спадніцы,
А не ў штанах табе хадзіць».

І вось аднойчы на змярканні —
Бывае ж гэтак у жыцці! —
Яму прызначылі спатканне,
Хоць і не думалі прыйсці.

Але дзяўчо, што болей кпіла
З яго — равесніка свайго,
На прыстань гулкую ступіла
І стала ціха ля яго.

Хоць не яна пісьмо пісала,—
З вачэй скацілася сляза.
Яна нічога не сказала,
Хоць многа думала сказаць.

## СПАТКАННЕ

Былых часоў не зажываюць раны.
Мінулае з сучасным на нажах.
У розных гарадах наканавана
Ім, цяжкахворым, цэлы век ляжаць.

Але ў любві, відаць, свае законы,
Свае законы ўсім другім назло.
І не сястрычкі ім, а тэлефоны
Прыносяць, як запіскі, тайны слоў.

А я маўчу.
І не засну да рання,
І бачу ланцужок таропкіх слоў,
Якія зноў спяшаюць на спатканне
Дарогаю трывожных правадоў.



Мы — палюсы.
    І я, відаць, Паўночны.
Паўднёвы — ты.
    Паўночнага дыхнуць
Марозным халадком і ветрам вочы,
А на Паўднёвым
    ціха адтаюць.

Кіпяць снягі.
    Ляцяць аэрасані.
Базар. Цыганка плача і пяе.
І радасна,
        што век між палюсамі
Магнітным полем дружба існуе.



Усё было такім спакойным,
Паўнюткім шчасця і красы,
Што падымаў шчаслівы комін
Бялёсы дым, як хвост лісы.

Ды затапіла неба чырвань,
Пабеглі цені па вадзе,
І ноч ад нас чарнільнай шырмай
Адгарадзіла светлы дзень.

Ты адхіні яе і ўбачыш,
Што, зняўшы грым, такой парой
Там дзень расою сіняй плача,
Нібы артыст, сыграўшы роль.

* * *

Растуманіліся хмары,
І да самае зары
Зоркі, быццам санітары,
Разбрыліся угары.

Упаду і буду марыць,
Углядацца з-пад рукі.
Па зямлі, як санітары,
Распаўзліся светлякі.

* * *

Скажы: за што зямля пакутуе?
Ячмень хвастаты не люблю —
То стрэлы з лука,
утыркнутыя
З часоў Батыя у зямлю.

## СЛЯПЫЯ КОНІ

Прызнайцеся, хто першы здагадаўся,
Хто тонкі дрот падносіў да агню,
Каб конь крутых бяздонняў не баяўся,—
Выпальваў вочы вернаму каню.

Мінула ўсё: і бойкі, і бяздонні.
Зямлю вярнулі — не вярнулі зрок.
Балюча бачыць, як сляпыя коні
Маўкліва возяць гліну і пясок.

І трасучы сваёю грывай сівай,
Усе цяжкія доўгія гады
Уперад цягнуць груз свой непасільны,
Не знаючы, навошта і куды.

* * *

Дом. Жывуць тут пад адной страхою
І ваююць век паміж сабой
Гора з пасівелай галавою,
Шчасце з маладою галавой.



Птушкі поўдзень не цяпер адкрылі.
Колькі ўжо вякоў туды ляцяць!
Вось і сёння слухаю, як крылы
Над зямлёй трывожна шалясцяць.

Ці пачую крык іх? Ці убачу?
Шлях далёкі — горы і вада...
Вунь ля гаспадарскіх тлустых качак
Села вольных птахаў чарада.

Дзіўныя! Ніколі разам
Ім за сонцам з вамі не ляцець:
За сваё жыццё яны ні разу
З вышыні не бачылі свой цень.

...Чарад у неба узлятае,
І крычыць аб тым яна, відаць,
Што здаўна не ўсе, хто крылы мае,
Могуць падымацца і лятаць.

## МАНАЛОГ АЛКАГОЛІКА

Давайце ўбок адкінем жарты:
Бутэлька, як ні гавары,
Падобна вельмі на гранату,
Што узрывае нас знутры.

І жонка сёння, як учора,
Перада мною начыку —
Глядзіць з трывогаю на корак,
Як на сарваную чаку.

І мне ніколечкі не смешна
Каторы дзень, каторы год.
За грошы, што прапіў, канечне,
Даўно купіў бы самалёт.

Сяджу і думаю цвяроза,
Як быць далей і як мне жыць.
Вось я прап'ю апошні розум,
А што б тады яшчэ прапіць?

## ВАЎЧЫЦА

Ваўку не трэба хітраваць вучыцца,
Ды мы хітрэй...
                    І я пацвердзіць рад,
Што гулкім стрэлам асляпіў ваўчыцу,
Яна рванула полем наўздагад.

Спынялася.
                Па мордзе лапай грабала,
Хацела лес убачыць — не магла.
І бегла па прамой і па парабале,
І кроў гарэла, як сцяжкі аблаў.

Хоць воўк ёсць воўк,
                        але усё ж дарогаю
Задумліва сціскаў я кулакі.
Маўчаў і думаў вельмі-вельмі многа я:
Чаму сабакі ёсць і ёсць ваўкі.

Чаму? — пытанні курчыліся п'яўкамі,
Запруджвалі маўклівую раку.
А можа, першы воўк ёсць той сабака,
Які лізнуць адмовіўся руку?



Каля ракі,
Каля маўклівых скал
Свайго каня
Прывязваў аксакал.
І распранаўся.
І аб берагі
Разбіліся
Смяротныя кругі.
Яны пагаслі у вачах
Каня.
...Іржавую падкову
Я падняў...
Пра час далёкі —
Думкі неўпапад.
А хвалі
Грозна пеніў
Вадаспад
І бег,
Нібы кагосьці
Даганяў,
І слаўся
Белай грываю каня.

## НАДПІС НА ФОТАЗДЫМКУ

І поза і позірк Нерона.
Які ён,
        твой будучы лёс?
Бо шчасце —
            не тая варона,
Якую ухопіш за хвост.

* * *

Нямая плошча — вечны сведка,—
Ты раскажы мне, раскажы,
Як бунтарам галовы секлі
І з плах цурчэлі капяжы.

І я гару, нібы паўстанне,
Калі са зброяй на плячах
Ідуць па вуліцы, як здані,
Яны у восеньскіх плашчах.

## ПАРАДЫ ПАЧЫНАЮЧАМУ КАР'ЕРЫСТУ

Хоць твой начальнік маленькі чын,
Ды для цябе ён — начальнік.
Яму ты падтаквай або маўчы,
Згінаючыся ў пытальнік.

Раю: наперад ніколі не лезь,
Прыкінься ціхонем-хлопцам.
Хоць і праз шчыліну,
а падгледзь
Начальнікавы недахопы.

Ды не спяшайся, нібыта мядзведзь,
Ты аблажыць начальніка,
А пастарайся на ўсё паглядзець
У шкельца павелічальнае.

Ну і, вядома, затым не забудзь
(Нічога з табой не станецца!)
Пра недахопы у час шапнуць
На вуха вышэйшай інстанцыі.

Сам жа схавайся на час у кусты —
За гэта такія довады:
Будзеш ранейшым начальнікам ты
У начальнікі рэкамендаваны.

І вось за дубовым сталом сядзіш
Ты пераспелаю вішняй
І з хітрай прыкідкай ізноў глядзіш:
Табе ужо хочацца вышай...

Ну, а калі не пазбег бяды
І адбіраюць пячатку,
Памылкі свае ўлічы тады
І ўсё пачынай спачатку.



Ах, якая жорсткая апека!
Ну няўжо не ведаюць: яна
Часам спапяляе чалавека,
Як віна, і нават — як вайна!

Дактары, лякарства не давайце!
Мама, лішніх слоў не гавары!
Лепей насцеж вокны адчыняйце
У лясное вогнішча зары.

Хочацца ісці туды, за вёску,
Дзе стаяць між соснаў і асін
Белыя тэрмометры бярозак
І слязой налiўся небасхіл.

## ПАЦЁМКІНСКІЯ ВЁСКІ

Святла няма.
Яшчэ жывуць пацёмкі.
Сялянскі конь алешыну грызе.
Яшчэ яснавяльможны князь Пацёмкін
Імператрыцу ў свой палац вязе.

Эй, кучар, паганяй — не слухай:
Яна яму — любоўніца і госць.
Здаецца, тут не будзе паказухі,
Але, глядзіце,— паказуха ёсць.

Жаўцее вёска — новенькія хаты...
А ты ці знаеш, што у вёсцы той
Стаіць між дрэў адзін франтон дашчаты,
На голым месцы — сцены і франтон?

Царыца, не крыві ва ўсмешцы губы,
Хай кучар скакуноў суцішыць бег.
Прыгледзься:
Паказуха губіць
Прыгонную Расію і цябе.

Ды я цябе ніколі не шкадую,
Табе, імператрыца, я не друг.
Я рады за зямлю сваю святую,
Якой не трэба болей паказух.



Я сон убачыў, як таварыш,
Ледзь пахіснуўшыся набок,
Упаў дзіцячым добрым тварам
У ярка ўспыхнуўшы пясок.

І у густым спакойным гуле
Я улавіў, як звон расы,
У ганаровым каравуле
Яго забойцаў галасы.

І ў пахавальным карнавале
Пра тых падумаў я усё ж,
Што з веку ў век каранавалі
У цішыні узняты нож.

І мне заўсёды быць у бойцы —
Пакуль стаіць зямля і свет —
З рукой нябачнага забойцы,
Што падавала пісталет.



Ад шчодрасці сваёй не стаў бядней.
Нічога не прашу я у абмен,
Хоць галава цяжкая, як бязмен,
Трымае боль за ўяўнымі дзвярыма.

Крычаць?
Здаецца, я крычу...
Маўчаць?
Здаецца, я маўчу...
Спяшаюся туды,
куды хачу,
І стукаю у сэрцы
пілігрымам.

## КРЫЖЫ

Дзе тады: на лапках ці аўчыне
Рукі —
аж пакуль не прынясла —
У бакі раскідвала жанчына
І на крыж падобнаю была.
Крык яе замоўк на нізкай ноце,
Каб зямля другі пачула крык —
Крык дзіця...
Вось так на адзіноце
Некалі паставіў продак крыж.

На крыжах нашчадкаў распіналі —
Толькі папаўнялі спіс святых...
Санітары рукі накрыж бралі —
На крыжы
выносілі у тыл.
Бомбы сцены з грукатам крышылі,
Курчыліся дрэвы, як смаўжы,
І ад трэшчын ратавалі шыбы
Зноўку ж — папяровыя крыжы.
І, зачараваны дзіўнай сілай,
Раскрываю сам сабе сакрэт,
Што крыжы на бацькавых магілах
Узышлі,
каб зноў не трэснуў свет.

* * *

Раса скацілася з куста,
І пугі ляск, як стрэл з нагана.
І вольны конь наўскапыта
Пабег ад чэпкага аркана.

Але табуншчык — хітры змей.
І выйшла ўсё ў яго як трэба.
І конь ад жаху анямеў,
Перабіраў нагамі неба.

Не ўзяў травы,
не ўзяў вады,
Стаяў маўклівы і пахмуры.
І горда паў ён, малады,
І — на ўспамін пакінуў шкуру.

Пакінуў шкуру на кнуты,
Каб нават мёртваму уладна
Сячы сародзічаў затым
За іх пакорлівасць
няшчадна!

## ЗОРКІ

Луг шырокі.
А касцёр — далёкі.
Глянеш, і пабачыш у мароз,
Як марзянаяць азбукаю зоркі
З вышыні бялеючых бяроз
Пра усё, што мы не разгадалі,
Пра усё, што сёння ў галаве
І што прыйдзе многае з гадамі,
Хто не дажыве і дажыве.

* * *

Такія халады,
Што не сагрэцца!
Гляджу,
І вельмі дзіўна мне:
Чаго
Зіма прыйшла
І ў палон здаецца —
У неба падымае
Бель снягоў.

## АБНАЎЛЕННЕ

Вясна. I малады агрэст
Пачаць гатовы абнаўленне.
I ўсё ж увесь ён, як пратэст
I абнаўлення адмаўленне.

Ён цеплыні прыняць не мог,
I на світанні ломіць рукі.
Яму вясна — жывы пралог
Да новай радасці і мукі.

Няхай трывожыцца. Няхай.
Агрэст ніхто не дакарае,
Бо, з пекла трапіўшы у рай,
Спярша ніхто не ўбачыць раю.

Не ўбачу я, не ўбачыш ты,
Пакуль адчуем самі, самі,
Як кіламетры мерзлаты
Сцякаюць з чыстых душ слязамі.

## ЗАПІСКА,
## ЗНОЙДЗЕНАЯ У КНІЗЕ

Не думайце з трывогаю пра вечнасць,
Забудзьце пра хвіліны забыцця:
Складаецца з трагедый чалавечых
Вялікая трагедыя жыцця.

* * *

Дубец лазовы у руках.
Такая спёка! Піць...
Давайце віп'ем малака,
Каб нашы душы адбяліць!

Якімі мы былі людзьмі?
Прызнанне шчырае цаню...
Пад мікраскоп ваду вазьмі,
І ў ёй убачыш мітусню.

Няхай абмые нас рака.
А будзе спёка — піць! —
Давай папросім малака,
Каб душы адбяліць.



Ці арол быў продак мой, ці сокал,
Што у думках мусіў ён узняць
І багоў і прадзедаў высока:
Колькі ні ўглядайся —
не відаць.

Там яны начуюць, там і днююць,
А парушыш крыкам цішыню,—
Робяць хітра выгляд, што не чуюць,
Як і ўсе,
хто ўзняўся ўвышыню.



І вось яна прыходзіць, наша сталасць.
Мы знаем, як тварыць і гаварыць.
Камусьці падавайце п'едэсталы,
А хтосьці іх хацеў бы разбурыць.

Я з помнікамі сёння асцярожны.
Па-мойму,
                    трэба тыя шанаваць,
Якія не забылі пра падножжа,
Дзе ім наканавана век стаяць.

Была зіма,
                    вясна.
                                        Мінае лета.
І восень пазалотай абляціць...
А на зямлю жыхар з другой планеты
Заўсёды, як на помнік наш, глядзіць.

На п'едэстале станем.
                                        Гэта — дробязь!
Навошта уздымаць нам кулакі,
Калі мы ўсеагульны помнік робім,
Каб нас у ім пазналі праз вякі.



Пачаўся дзень.
Трушчоб драўляных пушчу,
Па іх паважна крочачы наўгрунь,
Са смакам новы экскаватар трушчыць,
Аж пыл трубой віецца угару.

Шчасліва, дружа мой!
Зусім законна
Штодзень заносіш ты магутны коўш —
Са смеццем перамешваеш іконы,
Угоднікаў партрэты і святош.

На месцы тым узводзяць рыштаванні.
І, можа, нехта з вышыні камет,
Прачнуўшыся,
па-іншаму ўжо гляне
З акон шырокіх на шырокі свет.

# ПЯРСЦЁНАК

(1963—1970)



* * *

Спачатку аб прозвішчы. Прозвішча наша
Мой прадзед калісьці ў застоллі прыдбаў,
Калі ён са смакам сярбаў сыраквашу,
Капусту гарачую гучна сярбаў.

І пэўна, і мела, і мае значэнне
Тое,
    што каб на калені не ўпаў,
Май нарадзіў, а хрысціў мяне чэрвень
І ў свінцовай купелі купаў.

Там, дзе я вырас,— сасна пры сасонцы,
Як дзеці, спавіты ў пялёсткі лугоў.
І чырвань сцягоў уліваецца ў сонца,
А сонца сцякае у чырвань сцягоў.

Я ўзяў у ячменю характар яршысты.
Даў мне задуменнасць задумлівы бор,
А барвы сцягоў — уяўленне аб чыстым,
Год сорак першы — нянавісць і боль!

* * *

Даўным-даўно,
                на душным рынку,
Збівала хлопчыка арцель,
І яблык крадзены, вялікі,
Пад каблукамі храбусцеў.

Ён вырасце. І ўспомніць ярасць,
Калі з той сілай, як тады,
Яго, прыцэліўшыся, ўдарапь
Цяжкім і вогненным — пад дых!

Не адмахнецца і не крыкне,
Не зможа нават зарыдаць,
І як хацеў ён стаць вялікім,
Так ён малым захоча стаць!

* * *

Асколкі ў целе носіць інвалід,
І столькі,
                што і зблізку, і здаля
Прыцягвае уладна, як магніт,
Жалезная зямля.



Крумкаюць здаволеныя жабы,
Каб жыццё хоць неяк апраўдаць.
Акуні плывуць, як дырыжаблі,
Так — аж расступаецца вада.

Маладыя сінія стракозы
Вышыню набралі. Малайцы!
Там,
        дзе іх сяброўкі — бамбавозы,
Ходзяць, як знішчальнікі, яльцы.

А шчупак прачнуўся і карае.
Карасі ляжаць, як куркулі.
Разумею: кожны паўтарае
Некага, хто ходзіць па зямлі.

І таму над рэчкай бамбавозы,
А у рэчцы радасць і бяда,
І гудуць, і падаюць стракозы,
І трымціць азёрная вада.



Высокі абрывісты бераг,
Густыя чужыя сады
Вясною, напэўна, з разбегу
Дабеглі да самай вады.

І так як павер'е бытуе,
Што без надзеі — труба! —
То рыбку сваю залатую
Чакае цярплівы рыбак.

Маўчаць забаронныя вешкі.
Кладзецца платва на рабро,
І кожны з вясёлай усмешкай
Згаджаецца на серабро.



Дарагая, любая, харошая,
Падымаю за цябе бакал,
Адчуванне, быццам бы няпрошана
Я ныраю з берага ў Байкал.

Як і ты, сур'ёзнае і шчырае,
Каб злавіць адною і другой,
Возера адчайна растапырыла
Рукі вуглаватых берагоў.

І засведчыць зможа неба зорнае,
Што ў цябе вялікая бяда.
Нада мной чужымі нагаворамі
Сыдзецца маўклівая вада.

Толькі альбатросамі прыкмечаны
Буду я...
І колькі б ні грашыў,
А свячуся сонечным каменьчыкам
Я на самым дне тваёй душы.



Жыве ў табе твая жанчына.
Яна — залог той дабраты,
З якой упэўненасць магчыма,
Калі ідзеш па свеце ты.

Яна твая любоў і права,
Калі званы ў руках гудуць.
І ты замахваешся правай,
А левай хочаш прыгарнуць.

Не расцякаўся каб і верыў,
Што порах твой сухі яшчэ,
Яна — выток і твой жа бераг,
Дзе ты упэўнена цячэш.

І — помні, прагнучы свабоды,
Калі хто-небудзь з ног саб'е,
Што з двух адзін удар заўсёды
Яна прымае на сябе.

Ну, а калі без дай прычыны
Цябе захочуць апляваць,
Пачне тваёй рукой жанчына
Крышыць усё і бунтаваць!



Вёска. Лес. Вясёлы луг.
І усцяж — кусты, кусты...
Паравоз тайгу, як плуг,
Разваліў на два пласты.

У сасонках пад карой,
Як у бочках, бродзіць сок.
А на беразе — ікрой
Лёгка хрупае пясок.

Я не знаю — хто тут жыў.
Я адно сказаць магу,
Што па ручку, як нажы,
Рэкі ўсаджаны ў тайгу!

Пашыраю кругазор,
Прызнаю: закон — тайга...
Сіняй спёкаю азёр
Расплюскалася туга.



Край лясны, далёкі, неапеты.
Рэйкі і смяюцца, і пяюць.
Паравозы, быццам эстафету,
Станцыям мяне перадаюць.

Я праспаў бы многае, напэўна,
Каб не ўразіў вечарам мяне
Фокуснік, што вёз ручнога пеўня,
Рыжага, жывога — на спіне.
Певень той быў дурань па прыродзе.
Час, відаць, з мясцовым не звяраў.
І крычаў у поўнач і у поўдзень
На пацеху птушкам і звярам.

Я не спаў. І з-пад густой палітры
Праступілі ціха, як у сне,
Словы і імёны на паліцы,
Што пакінуў нехта да мяне.
Быццам з неба гром глухі ударыў,
Сад дзіцячай памяці абтрос:
Праступілі позіркі і твары,
Галасы, знаёмыя да слёз.

Я убачыў іх і разгубіўся:
Многа я сцвярджаў і павучаў,
А калі, як певень, з часу збіўся
І не тое штосьці накрычаў?
І пакуль трывожуся пра гэта,
Рэйкі і смяюцца, і пяюць.
Паравозы, быццам эстафету,
З краю ў край мяне перадаюць.

## НЯМА МЯНЕ

Чаму і як — мне невядома,
Ніхто не верыць напавер...
Згубілася у ваенкома
Мая папера між папер.

Мяне абходзіць аднагодак
З татуіроўкай: Калыма.
І я стаю ля увахода,
А мне гавораць:
— Вас няма.

Шукай, палкоўнік, я не згодны,
Не па маёй такой віне
Дайшоў ты аж да ўзнагародных.
Няма мяне... Няма мяне...

І як я мог, і дзе згубіўся —
Няўжо нікога не кране?
Я не ўтапіўся, не разбіўся.
...Няма мяне... Няма мяне...

Няма ні тут, ні там, за дымкай.
Няма ў дзвярах, няма ў акне.
Няма мяне ў тваіх абдымках.
Няма мяне... Няма мяне.

І толькі там, пазней, з палёгкай
У сне, што прыйдзе незнарок,
Убачыш, як душа далёка
Да зор ляціць, як матылёк.



Камары вісяць завесай,
Ні праехаць ні прайсці.
Я адзін выходжу з лесу,
Лес праз сіта прапусціў.

Дзікім сумам прыгажосці
Патыхае ад галін.
Безнадзейнасцю і злосцю
Свет, здаецца б, надзяліў:

Як я мог далёка дзесьці,
Дзе мядзведзь кару грызе,
Нарадзіўшыся у лесе,
Заблудзіцца у тайзе!



Не дайсці, не даехаць да полюса —
Столькі сушы прад ім і вады.
Не пачуеш знаёмага голасу,
А спіну засланілі ільды.

За палярнымі лёгкімі нартамі
Тонкі след застаецца, як дым,
Ды нябёсы звісаюць квадратамі
Між ільдом аж да самай вады.

А ільдзіны быкамі сыходзяцца...
Дзе той след?
Ён заўважны ледзь-ледзь...
І паказваць дарогу не згодзіцца
Самы добры палярны мядзведзь.

Ён прыстоіць адзін і агледзіцца.
Цішыня.
Немата.
Далячынь.
Не крычыць ён: баіцца мядзведзіцы,
Ад якой захацеў уцячы.



А ёсць, а ёсць туга па Поўначы,
Адкуль вярнуўся без рубля,
Дзе аддаваў сябе, не помнячы,
Баркасам, чайкам, караблям.

І ёсць туга па тым таварышу,
З якім заўсёды ты як свой,
З якім памірышся, пасварышся
І вып'еш чарку «міравой».

Вялікі свет! Калі падумаю —
Не перабраць-пералічыць...
Ды ёсць туга — такая сумная,—
Хоць сам не ведаю па чым...



Сопкі скончацца — і бераг
Перакуліцца ў праліў.
Тут стаяў калісьці Берынг
І ў праліў віно праліў.

Там, дзе трэшчына крывая,—
Пад вадой ляжыць карбас...
Продкі ўсё паадкрывалі,
Не разлічвалі на нас.

Сто разоў сядай на вёслы,
А адкрыеш, як і я,
Што сівому альбатросу
Больш знаёмы акіян.

Я таксама хлопец біты,
Адкрываць я сам прывык,
А душа, як неадкрыты,
Невядомы мацярык!



Асядлалі павукамі
Сопкі рыжыя граніт.
Не бяры у рукі камень —
Ім тут некага граміць.

Белай пенаю, як мелам,
Хваля меціць берагі.
Я бягу. Напэўна, смелы
Я не першы, не другі.

Хто не думаў перайначыць
Гэты край, што невядом?
Ды здалёку людзі бачаць
Без бінокля родны дом...

Адцвілі, і адзвінелі,
І заціхлі галасы.
Берагі акамянелі
Да прыморскай паласы.

І пяюць сляды куніцы
Аж да самае вады,
Што зімою — лета сніцца,
А у спёку — халады.

І заўсёды рыбай б'ецца,
І ў дарозе цэлы век,
А нідзе не знойдзе месца
Непаседа-чалавек!

* * *

Адны толькі ногі...
А што, калі б крылы
Я меў —
і на радасць сваю, і бяду?
Хадзіў па Камчатцы,
Іду па Курылах.
І, можа,
Па Афрыцы заўтра пайду.
І — спёрла дыханне,
Перахапіла:
Я столькі аб'ехаў
Далёкіх дарог —
На ўсе іх
свабоднага часу
Хапіла,
А ў родную вёску
сабрацца не змог!..



Скажы, касец, ці еў ты сала?
...А дзе было яго купіць?
Каса дрынчэла і скакала
На роўным месцы і куп'і.

І я чакаў хоць аблачынку,
Што вецер з поля прынясе,
А лёс паслаў ка мне дзяўчынку
З шырокай стужкай у касе.

Упершыню яна, канешне,
Так блізка бачыла касца.
Бо у яе вачах-чарэшнях
Было здзіўленне без канца.

Яна дзівілася той сіле,
З якою тут, за крокам крок,
На лузе, дзе траву касілі,
Пеў галасісты асялок.

І лёгка ўздрыгнулі калені
Перад святлом яе вачэй,
І рукі, што акамянелі,
Касой узмахвалі ямчэй.

Куды ёй знаць было, маленькай,
Што я ад болю уначы
Крычаў,
і мне мясцовы лекар
Далоні травамі лячыў.

Нашто было, малой, ёй ведаць
Аб тым, што знаць адной касе?

Яна ў мяне змагла паверыць,
Па свеце веру панясе.

І хоць і вырас я, здаецца,
Але — кашу я ці гружу —
З якою сілай што даецца,
Нікому я не пакажу.

Няма надзей на аблачынку,
Што з поля вецер прынясе!
Перада мной стаіць дзяўчынка
З шырокай стужкай у касе.



Я вельмі хутка прывыкаю
І да жывёл і да людзей.
Ты загарэлая такая,
Што сонцам свецішся ў вадзе!

Цябе, напэўна, скульптар злепіць,
І будзеш ты глядзець на луг
З усмешкай той, якая слепіць
І аглушае, як абух!

І не адзін пацвердзіць стогнам
Сярод сталіцы і сяла,
Што мала тых,
хто быць дастойны
Твайго высокага святла!



У тое, у бязвоблачнае ранне,
Каля яе, вясковае ракі,
Было падобна ўсё на паляванне,
Дзе загадзя расстаўлены стралкі.

Равесніца усё з сябе скідала,
Нырца давала,
і сярод ракі
Гайдаліся няўпэўнена на хвалях
Яе тугіх грудзей маладзікі.

Было святла і чысціні ў іх болей,
Чым дадзена другім на ўсе гады.
І вочы апускаліся міжволі,
Калі яна выходзіла з вады.

І свет такі загадкавы адкрыўся,
Які ніхто яшчэ не зразумеў,
А ўсё ж як нейкай тайнай прычасціўся
І на хвіліну быццам анямеў.

## ЛЯ ПЯТАГА ПРЫЧАЛА

Я сам прыспешваю хаду
Ля пятага прычала,
Дзе «Я дадому не пайду!»
Гарэзніца крычала.

Мы засмяяліся ў кустах,
І у хвіліну тую
Турнуў дзяўчат вялікі страх —
Па лузе ўрассыпную.

Той знае мужнасці цану,
Хто — малады і босы —
Сваю равесніцу адну
Усё ж злавіў за косы.

Тады па травах і расе,
Забыўшы пра дарогу,
Яе таварышкі усе
Пайшлі на дапамогу.

І разбягаліся ў бакі
Спачатку мы нясмела.
А потым беглі да ракі,
Ажно раса шумела.

І хто не думаў пры кастрах
Пра слабых і пра дужых
У час, калі вялікі страх
Перарастае ў мужнасць?!

## ВАСІЛЁК

*Вянок санетаў*

1

Мільён дарог, цяжкіх, акамянелых.
Пайшоў праз поле, пералесак, гаць
У белы свет, каб шчасце адшукаць,
Між хутароў, у дол укаранелых.

Балоты ціха асакой шумелі,
Борустракаў, як баявая раць...
Усцяж былых дарог яшчэ стаяць
Крыжы, нібы жалобная алея.

Яна ды цудам уцалелы след
Раскажуць пра цябе, далёкі дзед.
Ты тут ішоў — высокі і худы,—

Дзе прадзеды твае па халадку
Аддрукавалі босыя сляды,
Кійкі узяўшы ў дужую руку.

2

Кійкі узяўшы ў дужую руку,
А за спіну — маленькі хатулёк,
За мужычком спяшаўся мужычок
І ногі абразаў аб асаку.

Спрадвеку недавер'е юнаку,
І хоць дзядуля і прыспешваў крок,—
Ківалі купалы Масквы здалёк
Галовамі такому хадаку.

Ён вернецца дамоў у маразы
І крыўду прынясе пад абразы.
Халоднае маўчанне апячэ...

І колькі вось такога на вяку?
Яго сябры — набожныя яшчэ —
Зліваюцца ў магутную раку.

3

Зліваюцца ў магутную раку.
Займаецца сцягамі новы дзень.
Не з просьбаю да вечнасці ідзе
Сімбірскі хлопчык, а — падаць руку.

Ён падае руку не дзіваку.
І ад сустрэчы гэтай маладзець.
Сустрэнуцца. Планета загудзе,
І — затрапеча чырвань на штыку.

І тут заўважыць нават не прарок,
Што крочыць Ленін — хоць і не хадок.
І у дарозе ён не першы год.

Праз турмы і панурыя алеі
Ідзе Ільіч, ідзе у свой народ,
На плошчу, што сцягамі заалела.

4

На плошчы, што сцягамі заалела,—
Пачатак і канец усіх дарог.
Хто змог жывым прыйсці і хто не
змог —
Цяпер усе стаяць ля Маўзалея:

Рабочы Прэсні — гордасць і надзея,
Артылерыст «Аўроры» — грозны бог,
І — хто навекі пад Кранштатам лёг...
Гранітам векавым, акамянелым.

Шумяць сцягі ад позіркаў гарачых.
Дыханне чуеш, а людзей не бачыш,
І толькі сум трапеча, як крыло.

Нябачныя — яны не ўбаку,
А так стаяць, каб месца больш было...
Што можа уявіцца юнаку?

5

І можа уявіцца юнаку,
Што шчасце вечна галавой зялёнай
Шуміць. І не было прыгону,
І нечага сказаць бальшавіку.

І тут жа сцягі памяць апякуць
Крывёю тых, хто верны быў да скону:
Малой — на шлеме — зорачцы чырвонай
І сонцу — на малым браневіку!

Тых чорных дзён вякам не перамерыць,
Калі хацелі ў Леніне зняверыць,
Каб апусціць узнятую руку.

Яна — наш мост, што ў новы свет алее...
Апорай быць яму, бальшавіку,
Які прыйшоў сюды, да Маўзалея!

6

Які прыйшоў сюды, да Маўзалея.
Адной журбой знітованы народ.
Трымае на плячы не першы год
Сваю тугу і вечную надзею.

І на хвіліну кожны анямее,
Калі настане і яго чарод
Пакласці кветкі... Хоць і сціснe рот,
Але стрымаць рыданне не сумее.

Не трэба слёз! Хоць гэта не бяда,
Калі усё ж хто-небудзь зарыдаў.
Рыдаюць не слабыя, а байцы!

Рыдаюць ля падножжа Маўзалея,
Дзе бродзіць кроў бунтарская ў юнцы
І школьніца рамонкам забялее!

7

Дзе школьніца рамонкам забялее,
Там бэзу дым і снег калакалуш,
Якія прыняслі юнак і муж,
І — краска лугавая ружавее.

Ад квецені нібыта дзень святлее.
Пралеска заплялася ў чырвань руж.
І ты вянок суцэльны не паруш,
Вянок жалобны, што ля Маўзалея.

Здаецца, што зямлю ты абдымаеш,
І васількі да сэрца прытуляеш,
І ўжо затым да пліт нясеш паволі.

Нямнога тых, прад кім бы на вяку,
Вянок прынёсшы, уявіў міжволі,
Што сам ты — кветка у адным вянку!

8

Што сам ты — кветка у адным вянку —
У шматнацыянальным, каляровым,—
Вядома краю, што лістком кляновым
Пад бохан сонца падлажыў руку.

Вядома палявому васільку,
Якога і працяг ты і аснова,
Што дадзена табе жывая мова,
Каб мог заняць ты месца у вянку.

Нясём мы квецень і нясём жалобу
Сюды на плошчу, каб на месцы
Лобным
Ачысціць, адбяліць сваю душу.

Прабачце мне, байцы і партызаны,
Калі глыток вады я папрашу:
Не, час не загаіў цяжкія раны.

9

Не, час не загаіў цяжкія раны,
Іх не прыпудрыў шэры пыл дарог.
І пад вачыма цень былых трывог
На тварах, што маршчынамі ўзараны.

Жыццё круціла — не скруціла ў рог.
Галовы сівізной забінтаваны.
І толькі вочы — дзве жывыя раны,
Дзе вылечыць журбу ніхто не змог.

Сыноў хавалі... Пакідалі хаты,
Але ніхто не знаў цяжэйшай страты,
Без Леніна і пасівелі рана.

Камяк балючы падступіў да горла —
У памяці нічога не памёрла.
У ганаровай варце ветэраны.

## 10

У ганаровай варце ветэраны.
На роздум сёння ёсць у іх правы.
І позірк Ільіча заўжды жывы
У іх вачах, што ў фокусе, сабраны!

І у Разліве на лясной паляне
Яны пакажуць, дзе сярод травы
Сышліся над паўшар'ем галавы
Арэхавых прутоў мерэдыяны!

Спяшай, гісторык! Гэта многа значыць —
Вачмі яго паплечнікаў убачыць,
Як ён на свеце працаваў і жыў.

І цела незнаёмы гул напоўніць...
І хоць ты ад будзёншчыны збяжы,
Калі сваё, далёкае, успомняць.

## 11

Калі сваё, далёкае, успомняць —
Калі яны забудуцца на міг,
Не можам тут жа не заўважыць мы,
Што славы у іх у кожнага — на помнік.

Між нас, нібыта цені, пройдуць,
А потым прыйдуць як герої кніг,
Каб мудрасці вучыць дзяцей тваіх,
Якіх павёз гадоў бясконцы поезд.

Вагоны — дні. Яны зачыняць дзверы,
Каб мог сябе у барацьбе праверыць
І разабрацца ў існасці жыцця.

Ты той, хто нарадзіўся пад зарой!
Ты — Леніна пачатак і працяг!
Так мы жывём і жыць даём зарок.

12

І мы жывём і жыць даём зарок —
У гэтым усяго жыцця значэнне —
Што не зносе ніякае цячэнне:
Па Леніну звяраем кожны крок.

Яго нам трэба ведаць назубок:
Жыцця аснова — Леніна вучэнне!
І раніцай, калі святло ярчэе,
Да Леніна ідзём мы на урок.

За плугам — днём, за кніжкай — уначы
І з Леніна рукою на плячы
Праводзім і касьбу мы і жніво.

Нам свеціць Ленін — залатая поўня.
Змагаемся, працуем і жывём,
Каб Леніна партрэт сабой дапоўніць.

### 13

Каб Леніна партрэт сабой дапоўніць,
Каб рыску хоць маленькую дадаць,
Павінен кожны сам сябе, відаць,
Жывым святлом на ўсё жыццё
напоўніць.

Мы — рэкі. Ёсць лугі у нас і поймы.
Нам рэчышчаў другіх не выбіраць,
Нібы у мора, ў Леніна ўпадаць,
У тое мора, дзе святло і промні.

І кожная рачулка пакрысе
Сваё, нацыянальнае, нясе.
Таму і Ленін шматнацыянальны.

І я прыйшоў — крыніц сваіх выток —
Тут пастаяць пасля дарогі дальняй
І у вянок уплесці васілёк.

### 14

І у вянок уплесці васілёк,
Яго прынёсшы разам з пахам хлеба
Адтуль, дзе ён сінее па-над глебай —
Сінее, як журботны вугалёк.

І хтось, відаць, зірнуўшы на вянок,
Заўважыць тут, як і заўважыць трэба,
Што ў ім журба зямлі усёй і неба —
Яна відаць і зблізку і здалёк.

Знаёмая з далёкага дзяцінства,
Напэўна, знала, дзе ёй пасяліцца —
У жыце беларускім і вачах...

Цяпер ля Маўзалея тут сінее,
Куды яе здалёку на плячах
Прынёс мільён дарог акамянелых.

15

Мільён дарог, цяжкіх, акамянелых,
Кійкі узяўшы ў дужую руку,
Зліваюцца ў магутную раку
На плошчы, што сцягамі заалела.

І можа уявіцца юнаку,
Які прыйшоў сюды, да Маўзалея,
Дзе школьніца рамонкам забялее,
Што сам ён — кветка у адным вянку.

Не, час не загаіў цяжкія раны.
Стаяць у задуменні ветэраны,
Калі сваё, далёкае, успомняць.

І мы жывём і жыць даём зарок,
Каб Леніна партрэт сабой дапоўніць
І у вянок уплесці васілёк!

## БАРЫКАДЫ

Дымам
Спавіта Гранада.
Той,
Трыццаць шосты год,
Апошняя барыкада
Свеціцца навылёт.

Знямелая кананада
Калыша ствалы гармат.
Мёртвым не трэба каманда:
«Не адыходзіць назад».

. . . . . . . . . .

Крэпам
Спавіта Гранада.
Шэсцьдзесят шосты год!
Апошні на барыкадах —
Святлоў.
І ён — навылёт!..

Потым пра іх успомняць,
Выплеснецца «ура».
Бяззбройны,
Кладуся побач...
«Но пасаран!»

## МАТАДОР

Выходзіць ён упэўнены і строгі.
Да свісту і да крыку ён прывык.
Ён прад сабою бачыць толькі рогі,
І толькі чырвань бачыць чорны бык.

Тут ні пры чым ні рогі і ні шпага!
Сышліся між сабой, як ноч і дзень,
Святая чалавечая адвага
І злосць,
што да дабра не давядзе.

Ах, шпага, шпага,—
кволая націнка —
Ламаешся ты з хрустам у касцях,
Але гарыць,
трапечацца хусцінка

Жывая і чырвоная, як сцяг!

Гарыць, як і тады,
у трыццаць шостым,
Калі баец ад крыўды анямеў —
Ішоў на танкі з дубальтоўкай простай
І крыламі плашча свайго шумеў.

## ГАДЗІННІКІ

Ад панядзелка да панядзелка
Розных памераў — яны пакрысе
З году у год на разважлівых стрэлках
Круцяць бясконцых гадоў карусель.

У іх на уліку — і горы, і рэкі,
Хто нарадзіўся, хто — палысеў.
Цікаюць сэрцы...
Круцяцца стрэлкі —
У пакаленняў свая карусель.

Колькі патрэбна і сілы, і працы,
Каб на хвіліну адбіцца змаглі
Рыскай маленькаю на цыферблаце
Круглай і вечнай зямлі.



Гэта — поле. Тое — неба,
Ну, а луг мне — не пазнаць:
Паласатая, як зебра,
У пакосах сенажаць.

А на лузе, там, за рэчкай,
Не ўладарыла каса,
Недаспелаю парэчкай
Ярка свеціцца раса.

Перасохшае балота
У вянку сухіх кустоў
Для мяне, як пазалота,
Свеціць чырванню густой.

Гэта ўсё — мая крыніца,
Гэта тое, чым жыву.
І ляціць мая сініца
Нада мной у сіняву.



Зямля ад спёкі стомлена гудзела.
Дымілася гарачая шаша.
І — прахалоды захацела цела,
І — захацела цішыні душа.

І вечарам,
Калі пагоняць коней
Туды,
дзе толькі ноччу ім хадзіць,
Пастушка зловіць вецер у далоні,
Каб ім гарачы твар свой астудзіць.



Не атруціўся першай ранай,
Не пабаяўся ран другіх,
Назваў цябе сваёй каханай,
І на хвіліну сам прыціх.

І, прызнаюся, воблік родны,
Які ледзь-ледзь крануў загар,
Быў для мяне вадой халоднай,
Крынічнай, ранішняй — у твар!

І, можа, я і з'ехаў хмуры,
Каб тут, у сіняй, як пяршак,
У ледзяной вадзе Амура
Астылі цела і душа!



Гэта сонечнае ззянне
І густая сінь снягоў
Абяцалі мне спатканне
З караблём ля берагоў.

Сопкі грозна бровы хмурацъ,
Дым пускаючы ўгару.
Я гляджу: Курылы курацъ,
Сяду з імі, пакуру.

Ды няма, няма нікога.
Толькі звонам у вушах
Б'еццa вузкая дарога
І — шырокая душа!

## ТАЛІСМАН

Як знаходка, порт Находка
Для баркасаў у туман.
На грудзях у адпагодка
Невялічкі талісман.

На яго маліцца рана:
Бачыў бераг, бачыў дно.
І пад гэтым талісманам
Сэрца ходзіць хадуном.

І на круг не спадзяецца —
На яго няма правоў,
Хоць рукой падаць, здаецца,
Да Японскіх астравоў.

Перыскопы. Трубы. Рэі.
Незнаёмая рука.
Штосьці вочы пакрывелі
У чужога рыбака.

І вялікім талісманам
Тут, на шыі у зямлі,
На шнурку Курыл туманных
Залаціцца Сахалін!



Можна прызямліцца, прывадніцца,
Можна сцежкі зорныя таптаць,
А з такой харошай правадніцай
Можна паравозны дым глытаць.

І ўспомніць правадніцу Галку
Там, дзе толькі стогнуць камары,
І дастаць апошнюю запалку,
Каб апошні раз ёй прыкурыць.

І сказаць без слоў: гары, не пыхай,
Я з сваёй каханай гавару,
Для якой запалкаю успыхнуў,
Не пагасну, значыць — дагару.



То мора, то бераг, то востраў зялёны,
То нават травінкі не ўбачыш нідзе.
Учора ад слёз тваіх быў я салёны,
А сёння плыву па салёнай вадзе.

Учора, як вожык, стаяў на абрыве,
Балючы, калючы — у стрэлах дажджу,
А сёння, вясёлы, на ўсё, што абрыдла,—
Шчаслівы і новы — з абрыву гляджу.

Учора пакляўся, што ездзіць не буду,
А рэйкі звіняць і звіняць, як чмялі,
Што сёння паеду, а заўтра забуду
Не толькі цябе, а усё на зямлі!

Цыбатае сонца на ворыве чорным
Клякоча, як бусел,— пяе для жывых,
І робіць такое, за што яшчэ ўчора,
Відаць, не знасіла б сваёй галавы!

## ПРЫМОРСКІ РЫНАК

Заходзіш ты на рынак
У куртцы паласатай.
Ідзеш між лавак рыбных
І гандляроў вусатых.

Суніцы пахнуць борам,
А кветкі — маем.
Гандлююць памідорамі
І зношанымі майкамі.

Як лабірынт, дарога.
Праходзіш, бы гуляеш.
Не прадаеш нічога,
Нічога не купляеш.



Не прырода у тым вінавата,
Сам сябе, чалавек, вінаваць.
І прыдумаў, напэўна, ты ката,
Каб пакуты свае абрываць.

Надзяліў яго сілай і ростам,
Востры меч для яго прыбярог.
Толькі так ён — на пласе памоста —
Ад Малюты пазбавіцца мог.

Кат той першы — русагаловы.
І сцякала рубашка з плячэй,
Размяталіся крыламі бровы
Над парэчкамі дзіўных вачэй.

Сам сябе асудзіў ён на мукі.
На імгненне аслеп, як сава.
Падымаў ён крывавыя рукі,
А ў вачах — сінява, сінява.

# ДЫМ

А так было.
Было калісьці.
Успамінаць я не люблю
Той час,
калі цыгарку з лісця
Круцілі ростам з аглаблю.

А за махорку — на зацяжку,—
Каб задыміць,
мог згарача
Сарваць апошнюю рубашку
Курэц з гарачага пляча.

І крык стаяў і днём і ноччу.
І плыў, як цяжкі стогн, здаля:
— Ты не пускай мне дым у вочы,
Калі ў кішэні ні рубля!..

Ну што ж, было. Галеча, гора...
А гора ў нас было такім,
Што лес і поле, нават зоры,
Прапахлі дымам на вякі.

Няхай дзяды...
А ты што хочаш,
Калі з задзірлівым: «А чо?»
Глядзіш таварышу у вочы
І дым пускаеш праз плячо?!

## БАЛАДА

Серабрыстая чайка
З арліным крылом.
І вялікі, як айсберг,
Дняпроўскі паром.

Серабрыстая рэчка —
Ад крыг веснавых.
Серабрыстае неба —
Ад воблакаў-крыг.

Я на беразе гэтым.
А ты — на другім.
Паплыву да цябе —
Ты уловіш кругі...

Незгаворлівы дзядзька —
Паромшчык худы.
Незгаворлівы дзядзька
Баіцца вады.

Я б заплакаў, канешне,
Ды толькі і сам
Я найболей у свеце
Не веру слязам.

Калі ён пабаіцца,—
Я адчалю адзін.
Перавозчык з тугою
На бераг глядзіць.

Ад бяссілля свайго
Я гатовы сканаць.
Непакрытай рукою
Цягну за канат.

Перавозчык гаворыць:
— Была ні была...
І пасудзіна наша
Скрыпела, плыла.

А калі пратараніла
Жоўты абрыў,
То яго галава
Была ў серабры.



Над чым задумаўся, стары?
Твая бяда, як не бяда.
Бяры ты вуду на зары
І — на раку гайда!

І там, дзе ранішні спакой,
Уздрыгне, як знарок,
Малое сэрца — паплаўком
І сэрцам — паплавок.

І вось ужо не разабраць,
Настрой такі адкуль,
І пачынае хто кляваць —
Ці шчасце, ці акунь?



Сны плывуць, як рачныя лодкі,
Хмары неба за грудзі трасуць.
Чую: клічуць далёкія продкі
На вялікі і праведны суд.



Вузкі лоб,
нахмураныя бровы.
На дубіне
цвёрдая рука.
І няскора
ласкавыя словы
Скоцяцца,
як ядры, з языка.

У яго звярыная манера:
Нападай,
Ратуйся
І — жыві...
Ды ужо
бунтуе ў жылах звера
Кропля незвярынае крыві!

І на сцежцы войн,
Глухі ад крыку,
Над крутой варожай галавой
Занясе ён
цяжкую дубінку
І застыне,
здзіўлены сабой.

Ён такім і прыйдзе,
Круталобы,
Праз вякі
ў любы далёкі век:
І — ужо на звера непадобны,
І — яшчэ зусім
не чалавек!



Легенд і паданняў паўпрэды
І сведкі апошняй вайны
На славе і турка, і шведа,
Як кропкі, стаяць курганы.

Загоена даўняя рана,
Забыта былая бяда,
А ў касцы, прабітай гартанна,
Гаворыць рачная вада...

## ЗАЙЗДРОСНІЦА

А ноч з зайздросніцаў зайздросніца:
Яна прыходзіць пакрысе,
Сама ў напарніцы напросіцца,
А потым плёткі разнясе.

А ты ідзеш. Ты сёння смелая.
А за спіной
                на ўсё сяло
Дзень склаў крыло агніста-белае,
А ноч — расправіла крыло!

## КУРГАНЫ

*Вянок санетаў*

### 1

У кургапоў ёсць нешта ад званоў,
З якіх павырывалі языкі,
Але іх звон прарэзлівы такі,
Што я вачэй якую ноч не звёў.

Падняўся і пайшоў я напрамкі,
Затым пабег туды я стрымгалоў,
Дзе ў сорак першым клекатала кроў
І дзе — чатырохгранныя штыкі.

Пражэктары струменілі святло,
Былое ў іх праменнях ажыло,
І твар у твар нас лёс раптоўна звёў.

Здалося, што дзіцячыя гады
Звіняць, як падгалоскі курганоў —
Званоў жалобы і званоў бяды.

### 2

Званоў жалобы і званоў бяды,
Што расплюскалі чэрвеньскі настой.
І ўзмахваючы вогненным хвастом,
Уздрыгвалі, як рыбы, гарады.

Пайшоў баец, высокі і худы,
Рудая сажа ў некалькі пластоў
Засыпала сляды каля кустоў
У твар яго бязвусы, малады.

Не копнік ён — не будзе конь іржаць,
Не вырасце з нацельнага крыжа
Магільны крыж, каб лёс вянчаць цяжкі,

Бо крыж ён не насіў. А знакам праваты
З зямлі праб'юцца некалі штыкі.
Яны гудуць цяжэй, чым правады.

3

Яны гудуць цяжэй, чым правады.
Яны гараць на ўсе чатыры грані,
Каб тут спыніць, а часам і параніць,
Ці ты сюды ішоў, ці не сюды.

Здымаюць шапкі зводдаля дзяды
Перад вялікай шапкаю баранняй,
Якую да галоў марозным раннем
Навечна прыпаялі халады.

Пагасіць неба ясную зару,
Штыкі тады ўзрываюцца ўгару
Ракетамі да месяца і зорак.

І ценямі касмічных караблёў
Вяртаюцца уранні на узгорак
І аб усім напамінаюць зноў.

4

І аб усім напамінаюць зноў
Старыя курганы і абеліскі.
Пакуль у іх свінцовыя прапіскі —
Ніяк не ўціхамірадь груганоў.

Вайна прайшла шырокай баразной
І цягнецца з дзіцячае калыскі:

Я столькі не далічваюся блізкіх,
Што нават сёння дыхаю вайной!

І не мая, напэўна, ў тым віна,
Што ўсё бліжэй, бліжэй ка мне вайна,
І дымам цягне ад знаёмых стрэх...

А страты боль, што апякла тады,
З хвілінай кожнай робіцца вастрэй,
Наколькі помню — ўсе мае гады.

5

Наколькі помню — ўсе мае гады —
Гармонік стогне і рыдаюць гуслі...
Напаўпустыя хаты Беларусі
Нагадваюць асеннія сады.

Каб ажывіць — няма жывой вады.
Чакаюць і жывуць у вечнай скрусе.
А слёзы набягуць, то слёзы, мусіць,
Звіняць, як пераспелыя плады.

Збіраюцца на прызбы, як на веча,
Усе, каго аграбіла навечна
І сіратой пакінула вайна.

І нават і пад цёплай коўдрай сноў
Аж да світання мучае яна
Тых, хто згубіў унукаў і сыноў.

6

Тых, хто згубіў унукаў і сыноў,
Не пакідае ні на міг трывога.
А памяць, як шырокая разлога,
Трасецца ад раскатаў перуноў.

Бацькі ля перапраў і ля брадоў
Спыняюцца. Сыноўняя дарога,
Якая пачалася ля парога,
Губляецца у вогнішчы гадоў.

За рамкай пажаўцелая паперка,
Як пачуцця вялікага праверка.
Расцягваюць вятры свае мяхі,

Дыхнуўшы першым холадам снягоў,
Шляхі хаваюць, бо заўжды шляхі
Прыводзілі да вечных курганоў.

7

Прыводзілі да вечных курганоў
І да таго, дзе лесвіца крутая,
Як патранташ, на плечы узлятае
І ціха апускаецца далоў.

Хвіліну памаўчы — не трэба слоў,
Бярозкі белыя... Зямля святая...
І ад святла, як быццам бы світае
У хмуры дзень над сінявой ільноў.

А на вяршыню ўзыдзеш і дарэчы
Падумаеш пра лёс свой чалавечы
І пра усіх, каго ўжо не вярнуць.

А побач з-пад расы, як з-пад слюды,
Гарацъ рознакалёрна і цвітуць
Зарой пафарбаваныя сляды.

8

Зарой пафарбаваныя сляды
Расказваюць пра смерць і пра жыццё.
Здаецца, партызан запалку ўсцёр.
І ноч сцякае з чорнай барады.

Акопы і траншэйныя хады
Засыпала асенняе лісцё,
Але ад іх такое пачуццё,
Што потым доўга з сэрцам нелады.

Курган з магіл забытых і малых
Збірае пад страху байцоў былых,
Разматвае за тонкай ніццю ніць.

А зазімкам кранутая трава
Бінтамі парудзелымі звініць:
Акамянеў нарэзаны дзірван.

9

Акамянеў нарэзаны дзірван.
Яго страха бранёй надзейнай стала,
Яна ад нас глыбока захавала
Пякучы боль байцоў і партызан.

І каб не патрывожыць даўніх ран,
То кожная галінка краснатала,
Якая твар дзіцячы казытала,
Паспешліва хаваецца ў туман.

Зямля забіла рот, а галасы
Сабе узялі рэкі і лясы,
А кроў густую — травы і дубы.

І нават пад савінае «куга»
Нічым не выдае сваёй журбы
Апошняе прыстанішча — курган.

10

Апошняе прыстанішча — курган,
Насыпаны па жмені да аблок.
За гукам гук, што наплылі здалёк,
Зліваюцца ў адзіны ураган.

На людным месцы і сярод палян
Яны запоўняць кожны вугалок.
І, можа, на світанні незнарок
Вам здасца, што вы чуеце арган.

Яму уторыць невядомы хор.
І ў гэтых песнях гнеў і непакор,
І мёртвых боль, і неспакой жывых.

Здаецца: плынь нябачная нясе,
Абруч цяжкі спадае з галавы,
Купаецца у сонечнай расе.

11

Купаецца у сонечнай расе
Курган, каб вочы не туманіў сон.
Шыракатвары — кожнаму відзён,—
І варту па-ранейшаму нясе.

Ды бачна, што старэе пакрысе,—
Асунуўся пад цяжкім грузам дзён,
Хоць і сцвярджаю я сабе, што ён
Сярод палёў, прытомлены, прысеў.

Прысеў, каб з-пад далоні пазіраць,
Ці не ідзе ізноў чужая раць,
Труба звініць ці паляўнічы рог?

А ўдалячынь працягваючы рукі
Сваіх паходных баявых дарог,
Яго браты стаяць, як віядукі.

12

Яго браты стаяць, як віядукі.
Кругі траншэй — бяссонніцы кругі —
Ляглі на пералескі і лугі
Адмецінамі радасці і мукі.

Здаецца, крыкні — вернуцца з разлукі:
І першы бессмяротны, і — другі...
А хвалі набягуць на берагі,
Раскрыюцца акопы, як падсумкі.

А заляскочуць за мяжою тракі,
І ў прадчуванні ранішняй атакі
Прыціхне певень — даўні гарлапан.

І першы стогн, што вецер данясе,
Спружынай сцісне векавы курган,
Дзе ў цішыні сабраліся усе.

13

Дзе ў цішыні сабраліся усе,
Наслухаўшыся выбухаў уволю,
Там порахам прапахлыя далоні
Ужо даўно сумуюць аб касе.

Ды шум лісця і галасы гусей
Сцвярджаюць, што не вырвацца з
няволі,
І вецер ля падножжа, быццам долю,
Сівыя адуванчыкі пасе.

Зямля цяжкая — векі не падняць,
І не раскінуць рук, і не абняць
Усіх, каго абняць яны жадалі.

Ржавеюць каскі... Дагніваюць лукі...
Ляжаць, карэннем моцна паядналі
Сваіх дзядоў і прадзедаў унукі.

14

Сваіх дзядоў і прадзедаў унукі
І ўнукаў вольных вольныя сыны —
Равеснікі апошняе вайны —
Цяпер звяраюць сэрцаў перастукі.

Адна ў іх радасць і адны ў іх думкі.
Адны ім сняцца векавыя сны.
На рост уперад падалі яны
Па правілах ваеннае навукі.

Над курганамі птушкі ладзяць спеў,
Над курганамі голле дужых дрэў
Гайдаецца, нібыта б'е у звон.

Яны звіняць і летам і зімой,
Звіняць трывогай векапомных дзён —
У курганоў ёсць нешта ад званоў.

15

У курганоў ёсць нешта ад званоў,
Званоў жалобы і званоў бяды.
Яны гудуць цяжэй, чым правады,
І аб усім напамінаюць зноў.

Наколькі помню — ўсе мае гады —
Тых, хто згубіў унукаў і сыноў,
Прыводзілі да вечных курганоў
Зарой пафарбаваныя сляды.

Акамянеў нарэзаны дзірван.
Апошняе прыстанішча — курган
Купаецца у сонечнай расе.

Яго браты стаяць, як віядукі,
Дзе ў цішыні сабраліся усе —
Сваіх сыноў і прадзедаў унукі.



Кругляві пратупаюць, як коні,
Па насціле
берагам глухім.
І расцягне плыт,
нібы гармонік,
На каленях хваль свае мяхі.

Эх, дарога —
сіняя старонка.
Берагоў знаёмых не відаць.
Глыбіня
іграе тонка-тонка,
А парогі, як басы,
басяць.

І нічога дзіўнага не бачу,
Што рублёўку кінуўшы на кон,
І пяе ад радасці, і плача
Босы
развясёлы плытагон.



Трамвай разаб'ецца. Уздрыгне машына,
Ці ранены заяц заб'ецца ў кусты,
Цябе гэта толькі заўсёды смяшыла,
Як быццам не ведала радасці ты.

Як быццам былі толькі слёзы і гора,
Як быццам і свет табе гэты абрыд.
Чаго ж ты заплакала ноччу учора,
Заплакала горка і цяжка — наўзрыд?

Няўжо надакучыла болей смяяцца,
Няўжо паварот ты зрабіла круты,
Калі ты адчула, адчула знянацку
Дыханне чыёсьці малой дабраты?

А можа, не гэта? А можа, світанне,
Якое адбілася ў зорнай расе,
Цябе азарыла вялікім каханнем
І ўдалеч на крылах шырокіх нясе.



Баян, басамі не буянь,
А зухаватай песні
Рассып гарошыны, баян,
Са звонам напрадвесні.

І не адна разіне рот,
Гатовая адчубіць,
Калі спяеш, чаго асот
Гарэзніца не любіць.

А ты на радасць і бяду
Пральеш, як сок маліны,
Ёй пра сцяжынку ў лебяду
І лебяду-пярыну.

І што тут зробіць нават бог,
Хоць і зрабіць захоча,
Калі каменных слоў гарох,
Як ад сцяны, адскоча!



Пытанне рубам: хто каго,
А не чаго і як!
І падымаецца агонь —
Чужой бяды маяк.

У саламяных правадах,
Прабіўшы навылёт,
Сіпіць пажарная вада,
Як раззлаваны кот.

І вось, падобны на каня,—
Залатагрывы госць —
Агонь гудзе супраць агня,
Як часам злосць на злосць.

Разбіўшы купал цішыні,
Ударыць лоб у лоб.
Захрубасцяць увышыні
Вяршаліны, як шкло.

І гора некаму ізноў —
Таму, хто праг паліць,
А апынуўся між агнёў,
Якія не заліць!



Запалку ўсцёрлі аб калена —
Агонь, як вецер, зашугаў.
Трашчыць яловае палена,
І скачыць конікам вугаль!

І крутабокіх соснаў кроны
З-пад жураўлінага «курлы»
Гарадь у водблісках чырвоных,
Як залатыя купалы!

І пад сарок густыя крыкі
Да нерасчыненых акон
Паўзе сторукі, стоязыкі
Гарачы вогненны дракон!

Знутры ён — попельна-зялёны!
Ад злосці можа сам згарэць.
А паглядзіш, як рак чырвоны,
Бо ёсць з чаго пачырванець.

Вадою збіты з ног і мёртвы,
У парудзелых лахманах,
Ляжыць ён сіні, распасцёрты,
Як грэшны радасцю манах!



Налібокі — вір глыбокі,
Дзе ні берага, ні дна.
Кулямётчыцы-сарокі
Расстралялі819 гругана.

Каб пярадасных знаходак
Кожны меней сустракаў,
Рэдкі пень, як самародак,
Лезе сам у сетку траў.

Так струменіць ад дзялянкі
Чырвань ранняя суніц,
Што і белыя паганкі
Ад святла упалі ніц.

А угледзішся у кроны,
І адразу ты прыціх:
Адчуваеш, што зялёны
Перад сталасцю другіх.



Дамоў заўсёды ісціна вядзе.
Яна — напаўзабытая дарога,
Канец якой — у космасе гудзе,
Пачатак ля бацькоўскага парога.

Ці адступаю, ці іду у бой,
Ці да цябе вяртаюся з навінай,
Я звязаны з бацькоўскаю зямлёй
Дарогай той,
як з маці пупавінай.



Колькі сілы маёй — я імкнуся угору,
Каб пад крыламі вечна і вечна былі
Толькі горы і горы — вялікія горы —
І без краю ляжалі — палі і палі.

Вось і сіні парог. Я смяюся і плачу,
Парадніўшыся з самай адзінай з надзей,
Што не бачу цяпер і ніколі не ўбачу
Ні маленькіх палёў,
Ні маленькіх людзей.



Так стараўся, што думалі, трэсне...
Нечакана прыціх і замоўк.
Падавіўся уласнаю песняй
І павесіў на песню замок.

А над песняю той, недапетай,
Прагудзела труба жураўля:
«Тых,
з кім дзеліцца неба
сакрэтам,
Маладым забірае зямля».



З сініх гор і да белых лясоў
Свет падзелен на дзве палавіны.
Не стамляйцеся ад галасоў —
Будзе сум.
Перазвон пчаліны.

Ні сініц, ні вясёлых драздоў.
Камары. Ні хвіліны збаўлення.
Незакончанае гняздо
На галінах,
як сонца ў зацьменне.



Вогнішчы гаснуць без агаворкі,
Ціха, спакойна, як позні загар.
І даспяваюць малінамі зоркі
У парадзелым маліннiку хмар!

Штосьці трывожна.
                    І падарожнік
Вушы лістоў натапырыў ледзь-ледзь:
Буры туман праз хвіліну абложыць
Цяжка і душна, як буры мядзведзь.

З першай мапынай — дарог пераразвоны.
Кінецца, лапы свае апячэ
І языком, ад маліны чырвоным,
Будзе аблізвацца доўта яшчэ.



Папярхнуўся матор самалёта.
Памяць — мёртвым, а слава — жывым.
І аплецена лётчыка фота
Чорным крэпам гарэлай травы.

Цішыня. Адчуванне такое,
Што павінны кагосьці будзіць.
Па-ранейшаму неспакойна
У прапелеры вецер гудзіць.

## РУЖЫ

Век каменны — мужнасцю адменны,
Непадкупны, чэсны і круты.
І пайшлі ад першага калена —
Бронзавы. Жалезны. Залаты.

Бронзавы саткаў бярозак кужаль,
А жалезны адкаваў мячы,
Каб маглі сваім нашчадкам ружы
Залатога веку зберагчы.



Дванаццаць дня.
Гарачыня.
Так прыпякае лета,
Што дрэвы высахлі —
Звіняць
У цішыні нагрэтай.

Там, за ваенным гарадком,
Захочацца спыніцца,
Дзе б'е срабрыстым капытком
Аб камяні крыніца.

У белым небе — самалёт,
І белы след знянацку
У вышыні, як белы дрот,
Што цягнецца за цацкай.

## ВУЧЭБНАЯ РОТА

Дарога.
Застава.
Вучэбная рота.
Пагоны пад колер вясновай травы,
І боты такія, што можа у ботах
Да генерала дайсці радавы.
Мучуся.
Б'юся.
І — панікую:
Што гэта робіцца з вернай рукой?
Губы абсохлі, здаецца, а кулі,
Кулі усе мае
у «малако»...
Мушка няверная!..
Дула трасецца? —
Я ад каманды
і крыку аглох,
Толькі мішэнь, як дзявочае сэрца,
Тое, куды я пацэліць не змог.
Гэта нічога.
Будзе дарога.
Нават калі і сагнуся у рог,
Плечы распраміць
начная трывога,
Каб не баяўся ніякіх трывог.
Вось для таго
і вучэбная рота,
Застава, пагоны пад колер травы,
І боты такія,
што можа у ботах
Да генерала дайсці радавы.

## ДЖУНГАРСКІЯ ВАРОТЫ

І вось яны — Джунгарскія вароты,—
Ад круцізны кружыцца галава.
Джунгарскія вароты...
                                        нават рота
Надзейна не зачыніць на завал.

Бацькі ляжаць ля гор высокіх блізка,
А зоркі пазалоцяць небасхіл,
І не вяршыні ўжо,
                                  а абеліскі
Стаяць ля безыменных іх магіл.



Пераспелі ночы.
З лёгкім хрустам
Лёгка ходзяць крылы пічупака.
На каменным ложаку Пракруста
Распластана горная рака.

І адсюль ёй вырвацца няскора.
Пройдзе трубы медныя, агні.
Разаб'ецца сто разоў аб горы
І ўпадзе ізноў на камяні.

Упадзе без крыку і без «аха»,
Выгнецца і тут жа,
                    пад гарой,
Мільгане у позірку казаха
Шашкаю мангольскаю крывой.

І на гэтай выгнутай спіралі
Ты разгледзіш —
                    толькі зазірні,—
Як славяне скалы ў рукі бралі,
А малыя — бралі камяні...

І, відаць, пацвердзіць толькі вечнасць,
Як лягла пад імі злая рацць,
Ды пачуеш сам, як тут, у рэчцы,
Камяні шаломамі звіняць.

## ПЕРАВАЛ

Ля бязлюднай і глухой даліны
Правадамі звоняць камары.
Ападаюць яблыкі з галіны
І з падскокам коцяцца з гары.

Горы, горы
над ракой і морам,
Як слупы,
падпёрлі неба тут...
І, здаецца,
гэтак блізка горы —
Будзем там
праз некалькі мінут.

Гэта ўсё хлусня!
За тыднем тыдзень
Перад намі — толькі круцізна.
Можа, і ўзысці туды не ўзыдзем,
Ды ужо навекі будзем знаць,
Што ў гарах,
дзе камяні і сопкі,
Нам здаецца так,
як у жыцці,
Самым блізкім
перавал высокі,
На які нам трэба
узысці!



Я дзвесце вёрст ад Тахтубы
Ішоў па небу, як Капернік.
Як чалавек, цябе любіў
І па-сабачаму быў верны.

І вось — ідзі!
Такі удар
Сагне і волата ў баранку:
У ноч і злосны гаспадар
З двара не выганіць сабаку.

Пайду. Адчую, што знямог,
Пачну крычаць, махаць рукамі,
І ў горных рэчышчах дарог
Машыны дрогнуць паплаўкамі.

Сарвуцца з дрэў не раз лісты,
І ў дзверы ціхага пакоя —
Так можа стацца — стукнеш ты
Сваёй павіннаю рукою.

Ты скажаш мне, што мучыць грэх...
А я ужо і сёння знаю:
Як чалавек, я дам начлег
І, як сабака, не прызнаю!



Нецалаваных на зямлі няма.
І хітрыя жанчыны і дзяўчаткі
У сэрцах носяць свой сакрэтны май
І пацалункаў вечныя пячаткі.

І пад уяўнай важнасцю багінь
Трапеча міг,
                    калі са стогнам: «Лю-бы-ы...»
Паверажаныя, быццам бы сцягі,
Бездапаможна
                    падалі
                              іх губы...

## ЗАРЫВА

1

Прамёрзлы і анямелы,
У позні вячэрні час
Гляджу я на замак белы
І слухаю дзеда расказ.
А дзед — кампетэнтны сведка —
Мне шамкае пры агні,
Што лес у вайну пасеклі,
А частку — у мірныя дні.
Прыціх і шапнуў на вуха:
«Вунь, бачыш, сінее вада,
Прыглядзься, сынок, паслухай,
Здаецца, там ходзіць здань».
Я здань у тумане не ўбачыў
І думаў: уводзіць у зман.
А дзед кіпяціўся — гарачы! —
І ўсё наракаў на туман.
І так у нас слова за слова
Пра даўнія дні і гады
Цякла ручайком размова,
І я нібы ўбачыў тады:
І белы каменны замак,
І скупасць харошых слоў,
І дзён тых віхурную замець,
І дзіўную вельмі любоў.

2

Прыглядзьцеся! Перад вамі
Пустуючы валсавет
І велічны белы замак,
Дзе клінам сышоўся свет.

Ды клін выбіваюць клінам.
Я позіркам даль акінуў —
Сюды камісар імчыць.
Нахмураны замак маўчыць.
Хоць да таямніц неахвочы,
Ды бачу я зноў і зноў:
Там свеціцца сярод ночы
Акно. І акно адно.
Затое у валсавеце
Дымныя лямпы асвецяць
Нахмураны грозны люд:
Ідзе над мінулым суд.
Слухае кожны і значыць:
«Бачыла многіх Русь.
Убачым яшчэ, убачым,
Што ты такі за гусь!
Знаем мы вашы мандаты.
Чулі адно мы: «Гані!»
А сінія, жоўтыя банды
Грабяць на кожным дні...»
А камісар у скуранцы
Грукнуў аб стол кулаком:
— Заўтра, таварышы, з раніцы
Возьмемся за кулакоў!

3

А суджана ночы кляновай
Запомніць было навек:
Пад ножам хрыпелі каровы,
Пад пяцярнёй — чалавек.
Ішлі на усё адчайна.
Забылі пра слова «бяда».
Краіна крычала, як чайка,
Якая ўзляцела з гнязда

І ўпершыню адкрыла,
Што мае магутныя крылы.
— Чайка, куды ты? Рана...
Лятаць бы табе над ракой...
— З каго пачынаем?
— З пана.
А потым — другіх панкоў!..

4

Далёка яшчэ да арцелі,
Таму адусюль, як закон,
На свет з недаверам глядзелі
Тысячы мутных акон.
О, дзён тых суровых каша!
Пракураны бас густы,
Няўпэўнены голас:
— Наташа,
Наташа, няўжо гэта ты?..

5

А ноч распраўляла крылы.
Шарманку цвыркун завёў.
— Адкуль гэты замак?
— Купілі.
За некалькі соцень рублёў.
Ах, смешна! Мой бацька дома,
Каб панам сапраўдным быць,
Вучыўся у аканома,
Як есці па-панску і піць...
Успомню яго і баюся:
Паехаў — крычаў на вазу:
«А я за сваім вярнуся
І горла перагрызу!..»

— А з кім ты цяпер, Наташа?
На свеце такі пажар!..
— Не іхняя і не ваша,
Я проста твая, Захар!..
Я лягу ў сваім пакоі,
А ў гэтым кладзіся ты...

. . . . . . . . . . . .

І ціха было і спакойна.
І глуха шумелі кусты.

6

Ды скрыпнулі раптам вароты,
І фыркнуў на вуліцы конь.
Наташына позняе «хто там?»
Злавіла, як птушку, далонь.
Чужыя варожыя твары —
Іх злосць і за век не забыць!
«Ану, падавай камісара!»
«Ядры яго корань, бі!»

7

Тут можна б паставіць і кропку,
Ды зноўку ў туманную рань
Паказваў мне дзед таропка,
Шаптаў таямніча пра здань:
«Тут ноччу, якая як сажа,
І раннем туманным, як дым,
Здаецца, рыдае Наташа
Над доляй сваёй і над ім...»



Снегу, як у млыне тым, завозна,
Снегу — тры паверхі над зямлёй.
Толькі усё роўна ўсё адносна
Ў параўнанні з леташняй зімой.

Век пражыты надтачыць не проста.
Хто у вечнасць, хто у забыццё...
У жыцці ў нас добрае адносна
Ў параўнанні з будучым жыццём.

Я гляджу вачамі маладымі:
На зямлі,
              у небе
                            і ў вадзе
Жорсткі і спрадвечны паядынак
Заўтрашняга з сённяшнім ідзе.



Вузкагрудая, як плотка,
Між чаротаў, асакі
Слізганула ўдалеч лодка
Па слюдзе нямой ракі.

Пад вяслом трывожны клёкат
Мне гаворыць неўпапад,
Што за лесам недалёка
Круціць жорны вадаспад.

І паплыў, паплыў ракою,
Асядае на кустах
Белай пенай, як мукою,
Мой яшчэ нядаўні страх.



Пажухлы ліст на дрэвах не відзён.
Апошні яблык коціцца з галіны.
Ігліцы асыпаюцца з яліны,
І над зямлёй вясёлы пераэвон.

Далёкі гарызонт ляжыць, як лук.
І сонца цецівою дрэў палоску
Нацягвае і пасылае ў вёску
Чырвоны промень — зыркую стралу.

А над шырокім поплавам і лёсам,
Дзе туманы ляжаць, як шызы лёд,
Там плакальшчыцай кнігаўка галосіць,
Прабітая стралой той навылёт.

Ціпіэе звонкі голас камара.
І гэта восень — роздуму пара.

# БАЛАДЫ

## Паляўнічая балада

Я паляўнічы —
ні складу ні ладу:
Пораху многа —
мала агню.
Тыгра злаўлю —
і у клетку балады
Так, як самога сябе,
зачыню.
Доўгі.
Гарачы. І — паласаты.
Рыжы...
Паджары,
як свежы батон,
Будзе ён грызці
чыгунныя краты.
Зверху —
жалеза!
А знізу —
бетон!
Дзіўная сіла!
Дзіўная доля!
Бегаць свабодным,
у зараслях жыць,
Ды адчуваць пастаянна —
на волі! —
Тую руку,
што на горле ляжыць.
Вольная воля —
старая праблема.
Вольная радасць мая —
неўпапад:

Курчыцца,
стогне
і б'еццa паэма
Злоўленым тыграм
у клетцы балад.

## Сіняя балада

Цяпер вы не пытайцеся ў Расіі,
Чаму ёй падабаўся
Колер сіні.

Даўным-даўно
ад Кушкі да Таймыра
Расія цяжка надрывала пуп.
Адзетая
ў жандарскія мундзіры,
Яна
сама
сінела, быццам труп.
Сінелі вязні ў мёртвых падзямеллях
І адчувалі целам і нутром,
Як у пятлі
та-ва-ры-шы сінелі —

Струменілі сінюткае святло.
Спытаемся, давайце, у Расіі,
Чаму ёй даспадобы
Колер сіні.

Як барабаны, грымнулі завалы.
Гарэлі ў небе зоркі па рублю.
На шыю дзекабрыста
адзявалі
Пад сінім небам
Сінюю пятлю.

Сто год мінула.
Дзвесце год.
І — трыста!
Але запомніць век той чалавек,
Калі адлічыць
цела дзекабрыста,
Як маятнік,
цару кароткі век...

Маўчыце!
Не пытайцеся ў Расіі,
Чаму ёй падабаўся
Колер сіні.

### Чужая балада

Рыцарскі шлем.
І — цяжкая свінчатка.
Продкі, відаць,
не займалі адвагі:
Падалі
цяжка
пад ногі пальчаткі,
І, як бакалы,
пазваньвалі шпагі.
З чэснымі — чэсны!
З падонкам — падонак!
Проста за так,
за нявесту,
за славу...
Так, як жанчына у рукі — падойнік,
Шпагу — у ножны!
Нож — за халяву!
Мёртвае поле.
Крывая таполя
Над паядынкам дваіх — як пытальнік.

Хто там
вясельны заказвае поезд?
Хто там —
магілу на могілках дальніх?
Чуйнае цела —
тугая мембрана.
Шпагі зламаны!
Парвана адзенне!
Не безнадзейна —
смяротная рана,
Ворага радасць —
не безнадзейна!
Хлынулі з неба
рудыя памыйкі.
Нехта нябачны
дзівіўся нясмела:
Спраўлялі вяселле —
гуляюць памінкі!
Спраўлялі памінкі —
гуляюць вяселле!

### Першамайская балада

Таварышы,
без панікі!
Жыццё на валаску...
На мітынг
рана-раненька
Збіраемся ў ляску.
Жандар не мацюкаецца.
Жандар, як цюцька, спіць.
І недзе шабля-маятнік
Спакойненька вісіць.
Бывала,
Што матлялася,
Адмервала нам час...

Мінула,
Што баяліся.
Няхай
баяцца нас!
Крамолаю,
Прамоваю
Расчуліць новы друг.
А прад сталом —
падковаю
Людзей, людзей паўкруг.
І позіркі зычлівыя,
Што бачаць новы час,
Гавораць,
што шчаслівая
Падкова гэта ў нас.

## Нечаканая балада

Конь мой стаміўся.
Зляцелі падковы.
А на дарозе —
такі галалёд!
І выпадкова
твой позірк суровы
Дрогнуў,
прабіўшы мяне
навылёт!
Вось яна —
новая чорная рана!
Шрам застанецца —
за век не забыць!
Так як цябе палюбіў нечакана,
Я нечакана
хачу разлюбіць.
Можа, і праўда,
што шчасце не часта.

Толькі чаму гэта
з лёгкай рукі
З рук выпадае
І б'ецца на шчасце,
Б'ецца пасуда твая
Ў чарапкі!

### Замест эпілога

З кім толькі
немагчыма парадніцца
У наш дваццаты
у касмічны век!
А для цябе
здаўна няма граніцы,
Русагаловы
добры чалавек.
Ты заўсягды
аддаць гатовы сілы,
Свяціць другім спрадвеку,
як маяк,
Вялікая па дабраце
Расія,
Гаротная і любая —
мая.
Напяты туга
трасы па ранжыру.
І ў космасе
спыні яе — вазьмі!
З крывёю
Сценькі Разіна у жылах
І з ленінскімі
яснымі вачмі.



Плоць ад плоці і корань ад кораня,
І плячо да пляча, як лес,
Мы нашчадкі бацькоў, каторыя
Клалі свет на лапаткі ўвесь.

Будзе слова маё вам парукаю:
Так спакойна таму па начах,
Што спрадвеку зямля забаюкана
На шырокіх расійскіх плячах.



І дома не усё яшчэ вядома.
Што там, дзе ружавее небасхіл:
Ці, можа, добрых віцязяў шаломы,
Ці курганы далёкія магіл?



Глуха свіснуў камень прыдарожны.
Самалёты важка прагулі...
Асцярожна, людзі, асцярожна
З тым, што сёння можна на зямлі!



Мяркуюць птушкі пра вясну, як суддзі.
Яны не поўняць крыкам далячынь,
А тут —
бярозкі у вадзе па грудзі,
Далей —
баяцца косы замачыць.

Пайшлі дамоў.
На купінах, таварыш,
Мы назбіраем жоўтых верасоў.
І хлыне нам на рукі і на твары
Кіпучы лівень русых валасоў.



Галасам тужлівага адчаю
Пра свае нялёгкія правы
Сёння з самай раніцы крычалі
У сівым тумане жураўы.

Крылы, як старонкі, шалясцелі.
О, каб прачытаць мы іх маглі,
То, напэўна б, расказалі цені,
Як іх цягне да сваёй зямлі.

Я паеду.
Клясціся не стану.
Я магу шапнуць табе: «Люблю!»
А затым пайду
і зноў растану
Там,
дзе неба сходзіць на зямлю.



Зазвінеў, трывожачы, будзільнік,
І прашу цябе я: «Супакой!»
Халадзіна.
Нібы ў халадзільнік
Апусцілі мой малы пакой.

І іду я пад падковы радуг
Па траве густой і паўз кусты.
Калі ёсць на свеце радасць,
То, напэўна, ёю будзеш ты.

Так я думаў. Ды рашыў учора,
Хоць не з легкадумных і пустых:
Калі ёсць на свеце мера гора,
То такою мерай будзеш ты.

Мне зрабіцца усяведам — магам,
Па прычыне хоць бы вось па той,
Каб сваю гарачую адвагу
Зліць з тваёй суровай праматой.



Каму з нас ведаць неахвота,
Што грудзі ля вясковых хат
Нальюцца хутка, быццам соты,
У падрастаючых дзяўчат.

Дзяўчаты пойдуць карагодам,
Тады і зблізку і здаля
Здавацца будзе мне, што мёдам
Запахла ўся мая зямля!



Там пачынаецца паэзія
І там яна канчаецца,
Дзе ты ўсміхаешся гарэзліва
І цэлы свет гайдаецца.

Спяшай зрабіць са сцежкі крок,
Дзе цішыня густая,
Каб прачытаць адзін радок,
Які ніхто не знае.

* * *

Кугаканне савы.
Маўклівы бераг,
І бакенаў халодныя агні.
Відаць, ад солі хвалі пабялелі —
Выносяць, як тапельцаў, з глыбіні

Пясок іскрысты і тугую гальку,
І, як спрадвечны з дня у дзень улоў,—
Абломкі лодак і рудыя гайкі
Тайфунамі разбітых караблёў.

Дзевяты вал, увесь чарнільна-сіні,
Да берага шырокі крок зрабіў,
Застыў, як Грозны некалі над сынам,
Якога цяжкім посахам забіў.



Гэта сцежка —
Камень шэры,
І бяздонне па баках.
Камяні, як зубы, шчэрыць
Памялелая рака.

Я іду.
Саджуся часта
Ў мох кудлаты —
Горны шоўк.
За спіной цяжар —
Бы ў кайстры
Кіламетры, што прайшоў.

Угары
Усё, як пена,
І туды — за крокам крок —
Па вяршынях, як ступенях,
Я ўзыходжу да аблок!



Такое здарыцца не ў кожны
Звычайны дзень і просты год.
Я «галасую» спадарожнай.
Я «вывучаць» пачаў народ.

Глядзеў, як дзядзька ў целагрэйцы
Гармонік на калені браў.
Іграў ён нейкі вальс, здаецца,
А можа, «барыню» іграў?

Яму падцягваў хрыпла хтосьці,
І я махаў у такт рукой
І гэтай шчырай весялосці,
І гэтай радасці людской.



У вёсцы на віду усё:
Па колькі бульба на базары,
І ціхі шэпт, і тайны сон,
І шмат якія тары-бары.

Я прыязджаю смелы, лёгкі.
І калі што раблю не так,
То і ад блізкіх і далёкіх
Пад нос мне сунецца кулак.

Я чамадан складаю рана,
І зноў у вёскі на віду
Іду,
        яшчэ не разгаданы,
У радасць,
                    шчасце
                              і ў бяду.



Звіні, вясна. Няма зімы.
Звіні і тчы сабе абновы.
І, можа, можа, будзем мы
Вясновымі, як звон вясновы.

Папросім сталасць пачакаць
І разаб'ём на шчасце чарку,
І нам захочацца пачаць,
Як і вясне, усё спачатку!



Неба зорнаю кнігаю,
Дрэва шэрага клін.
Плачуць ціхія кнігаўкі.
Я не знаю — па кім.

Плач лунае, як мільгаўка,
І пакуль прамільгне,
Мне здаецца,
што кнігаўкі
Плачуць толькі па мне...

## СОНЦА

Як генерал, парад
Сонца усім наладзіла
І закацілася ў сад
Спелаю вінаградзінай.

Апошні прамень пагас.
Дрэвы і травы зачахлі.
А сонца у гэты час
Брадзіла ў вялізным чане.

І так, як вядзецца здаўна,
Пад музыку, смех і жарты
Праменьчыкамі віна
Яно асвяціла кварты.

І гэта святая быль,
І гэты прамень іскрысты,—
Каб светлым, як сонца, быў
І, як вінаградзіна, чыстым!



Заплачаш. Заломіш рукі.
Успомніш і студзень і май...
Дабрыдзень, новыя мукі!
Ласка твая, бывай!

Я знаю,
ты ў нешта верыш.
Не вер, дарагая. Не плач.
Мяне ты ўсё роўна не вернеш,
І ты мне за гэта прабач.

Не думай, што дзеля славы
Я песні свае пяю.
Паэзіі я па праву
Поўнасцю аддаю

Сябе. Не заслоняць спіны
Яе ад мяне назаўжды,
Бо я без яе, як спінінг
Без сіняй рачной вады...

І хоць ты мяне не вернеш,
Пачуўшы твой ціхі плач,
Гэтыя новыя вершы
Скажуць табе: «Прабач...»

* * *

Сонца намі даўно забыта.
Сонца недзе нясе дазор.
Тут —
Да вечнасці неба прыбіта
Залатымі цвікамі зор.

Месяц ставіць сваю пячатку
На паперу белага дня,
А кляновага лісця пальчаткі
Аплявушваюць ноч давідна.

Ты прыпомні іх стойкасць аднойчы,
Бо жадаюць яны не адны,
Каб пакінуць на старасць ночы
І забраць маладымі дні.

## ГРАНІТ

Граніт ніякай ласкаю не купіш.
Ты кажаш, не праводзячы граніц,
Як розум разбіваецца аб тупасць,
Так мора разаб'ецца аб граніт.

Цяжкі граніт.
Няўжо яго не зрушыць?
Вось вал жывы да берага ідзе.
І хто крычыць:
«Ратуйце нашы душы!»
Граніт ці хвалі?
Мне не разглядзець.

* * *

Я знаю малую дзяўчынку,
Даверлівую, якой
Ахвота спяваць безупынку,
Навечна згубіўшы спакой.

Як зайчыкі, бліскаюць вочы.
Лаві
і на рукі бяры —
І слухай, як рэха рагоча
З наіўнасці ў цёмным бары.



Я чую плач. Ён у маіх грудзях.
І час падумаць нам даюць гады.
Каханы я ці, можа, твой суддзя,
Бо я павінен быць з іх
Хоць адным!

Нас прывядуць на суд часінай той,
Калі не да жыцця без забыцця,
Судзіць
Са справядлівай праматой
І з чэснасцю маленькага дзіця.

* * *

Дабрыдзень, слава!
Вось цяпер —
Ці гэта мроіцца, ці сніцца? —
I я прыходжу да цябе,
Каб мне на вечнасць прычасціцца.

Дабрыдзень, слава!
Што ж маўчыш?
Ці у мяне не тыя песні,
Ці мне той груз не па плячы,
Які раней паэты неслі?..

Няўжо, скажы, і я не той,
Няўжо я з тых, якіх так многа?..
Ківае слава галавой
I не гаворыць мне нічога.

Я не крыўдую.
Будзь, як дым!
I хоць вянок прасіць твой — сорам,
Чаго ж нам сорамна дваім,
I ні аб чым мы не гаворым?



Незразумелыя вы, геніі.
Куды вас толькі лёс не шле?
На вас ляжаць усе ганенні,
І плёткі цягнуцца, як шлейф.

А пляткарам і не прысніцца,
Што, раскідаўшы плётак друз,
Па шлейфу тым, нібы па нітцы,
Знаходзім сэрцаў чысціню.

І быццам бы на каруселі,
Над намі ў велічнай гары
Нясуцца тыя, што лыселі
І паміралі без пары...

## РАСІЯ

Бярозы і асінкі,
Рады маўклівых хвой.
Расіечка-расійка
Стагнала за сахой.

Падобная да звера
(Ой, на шляху не стой!),
Узмахвала сякерай
У ярасці святой.

Расіечка-расійка,
Свабоднай будзеш ты...
Слязінкі, як расінкі,
Спадалі ў пыл густы.

Хвароба не скасіла,
А куля не ўзяла.
Расія — гэта сіла!
Расія — павяла!..

Расіечка-расійка,—
Здалёку прыплыве,
І ўявіцца расінкай
У спёку на траве...

* * *

«У паэтаў ёсць такое права,
І яго нам нельга забываць:
Напляваць на грошы ім і славу
І на вечнасць нават напляваць!»

Хто мудрэц той
і з якога веку,
Што пісаў так?
Я хацеў бы знаць.
Кожнаму жывому чалавеку
Я магу і сёння паўтараць:

У паэтаў ёсць такое права,
І яго нам нельга забываць:
Напляваць на грошы ім і славу
І на вечнасць нават напляваць.

Фіміям курыць цяпер не ў модзе.
Можа, можа, потым
праз гады
Хтосьці назаве нас у народзе,
Як паэтаў шчасця і бяды.



Ранняй восені белы цень.
Я на дрэвы гляджу і кажу:
Лісце ў вырай хацела ляцець,
Ды патрапіла ў сетку дажджу.

І пад елак пануры шум,
Як пялёсткі паблеклых руж,
Асыпаецца жоўты сум
У іржавыя ямы луж.



Вось пачну я гаварыць, і, можа,
Слухаючы дзіўнага мяне,
Некалі суровы і набожны
Дзед мой перавернецца ў труне.

Ну і хай!
Яно зусім не дзіўна,
Бо мінула колькі лет і зім:
Розныя стагоддзі нарадзілі
Непадобных родзічаў зусім.

* * *

Могілкі не там, дзе крыжа крылы —
Падаем мы тысячы гадоў,
І бліндаж зямлі сабой накрылі,
Як накаты,
ў некалькі радоў.

Гэта, пэўна, выдумка пустая,
Што калі з табою мы памром,
То густой травою прарастаем
І шумім пад ветрам за двяром.

Маладзей, старэючая хата!
І такую ростань ты уваж,
Бо бліндаж без добрага накату
Непадобны будзе на бліндаж.

Адплаціць за добрае я рады,
Абавязак просты прада мной:
Закрываць ад куль і ад снарадаў
Тое, што лічу сваёй зямлёй.

# САЛДАТ

*Вянок санетаў*

1

У жоўтых мыліц — раўнамерны стук.
Яны скрыпяць пад пахамі і гнуцца.
І будзе міг той эпілогам мук,
Калі яны знячэўку пахіснуцца.

Крывёй іржы сцякаюць у траву
Разбітыя і танкі і гарматы.
І чарнатвары комін галаву
Узняў над целам абгарэлай хаты.

Свет замыкае гарызонту круг,
Але у ямцы за чатыры крокі
Сабе гняздо аблюбаваў жаўрук,
Падскоквае ад шчасця пад аблокі.

І мыліцы звіняць, як па бранi,
Дзяўбуць сухі пясок і камяні.

2

Дзяўбуць сухі пясок і камяні,
Нікуды не зварочваючы ўбок,
Спяшаюць на далёкія агні,
Як па святло празрысты матылёк.

Наўзбоч дарог — узлескі і сады.
А вёска — там, за трыдзевяць зямель.
І замятае крыссямі сляды
Пасечаны асколкамі шынель.

Калі ж дадуць падножку карані,
То, русы чуб адкінуўшы з вачэй,
Салдат тужэй зацягне рамяні
І возьмецца за мыліцы ямчэй.

Над імі неба, як раскрыты люк.
Яны лапочуць дзюбамі аб брук.

3

Яны лапочуць дзюбамі аб брук,
Як быццам на узлеску на зары.
Спакойна узлятаючы з-пад рук,
Свае спрабуюць крылы глухары.

Трывожыць шум чужыя гарады,
І просціны, звісаючы з акон,
Прад шэсцем пераможнае хады
Спяшаюцца прызнаць другі закон.

Салдат крычаць ад радасці гатоў,
Праз цэлы свет імчацца напрамкі
Туды, адкуль пяць вогненных гадоў
Працягвае матуля дзве рукі.

І мыліцы званчэюць дзень пры дні.
Дадому! Паспрабуй іх дагані!

4

Дадому! Паспрабуй іх дагані.
І ўжо чуваць, ужо чуваць здалёку,
Як малака струменяць прамяні
Са звонам у трафейную даёнку.

І паярчэлі вочы у байца.
Далёкі лес зайграў ва ўсе свісцёлкі,
Хоць духата стаяла ад свінца,—
І не астылі пад нагой асколкі.

А неба напаўняла да краёў
Спакойная і звонкая сінеча.
І голас уцалелых салаўёў,
Як рукі, лёг на стомленыя плечы.

Спыніўся ля счарнелага камля,
Абтросшы пыл Еўропы з шыняля.

5

Абтросшы пыл Еўропы з шыняля,
І адпачыць было б яму не грэх.
Ён першы раз прайшоўся спакваля —
Усё жыццё сваё кудысьці бег.

Касцёр дыміўся. Ён прынёс галля.
Знайшоў вугаль маленькі, як арэх,
І смачна прыкурыў ад вугаля,
Падзьмухаўшы, як дзьмухаюць
на снег.

І, гледзячы задумліва ў касцёр,
Паставіў кацялок, вады наліў,
Затым да бляску зорачку нацёр
І зноўку на пілотку прышпіліў.

І ўспамінаў пражытыя гады,
Пусціўшы мірны тытунёвы дым.

6

Пусціўшы мірны тытунёвы дым,
Ушанаваўшы мёртвых і жывых,
Трывожыўся ён толькі аб адным:
Каму заваяваў ён жыць правы.

У перазвоне гулкіх кананад
Яго каваў цяжкі салдацкі лёс.
І атрымаўся баявы салдат.
А хто ён той, што без яго падрос?

Дым распаўзаўся.
                    Пачало святлець.
А гул яшчэ варочаўся ў вушах
І заціхаў, як стомлены мядзведзь,
І ціха абнаўлялася душа.

І ён яшчэ не знаў, што будзе з ім,
З плячэй пагоны зняўшы назусім.

7

З плячэй пагоны зняўшы назусім,
Ён па вачах далоняю правёў,
Па-новаму цікавіўся усім,
Ачнуўшыся за пяць гадоў баёў.

Далёкія паходы —
                    не турнэ.
Ён меў ад роду дваццаць два гады.
За пяць гадоў, што быў ён на вайне,
На многае забыўся назаўжды.

І раптам ён убачыў неспадзеў,
Рассунуўшы гарэлую траву,

Як з клубеня, што цудам уцалеў,
Сцяблінка уздымае галаву.

Запахла наздраватая ралля.
Салдат адзначыў: дыхае зямля.

8

Салдат адзначыў: дыхае зямля
І пад нагамі і далёка дзесьці...
Не заміналі каб — да каваля
Сабраць асколкі трэба і адвезці.

А недзе дзяцел на суку сядзіць,
Сялібу і аплаквае і свішча.
Пакуль адзін, пакуль яшчэ адзін
Цяслярыць ён пачаў на папялішчы.

Шчарбаты камень бок свой адляжаў,
Нагрэўся ад асколкаў — не астыне.
Ля кожнага магільнага крыжа
Буяюць шумна палыны густыя.

Салдату дождж і град не назаляў.
Як цягнуць плуг — убачыў ён здаля.

9

Як цягнуць плуг — убачыў ён здаля —
Не коні, а жанчыны талакою.
Ішлі баразны так, бы расшпіляў
Хтось паліто здубелаю рукою.

Марудна, не спяшаючы паўзлі —
Апора і надзея ўсёй арцелі.
Прыпынкі, быццам гузікі, былі,
Якія паддавацца не хацелі.

Упаўшы пасярод густой травы,
Салдат, што бараніў сваю Айчыну,
Прыўзняўся і падумаў: свет жывы.
Ён абапёрся на плячо жанчыны.

Для іх ён горкі, як лісцё асін,
Пяць доўгіх вёснаў і халодных зім.

## 10

Пяць доўгіх вёснаў і халодных зім
Салдата адпявала кананада.
Ён выжываў, каб думаць аб зямным,
Хоць быў акоп мішэнню для снарада.

Цяпер прад ім зямное ўсё было —
Зямлёю абраслі зямлянак дошкі.
А той агонь, які злізаў сяло,
Мак калыхаў на невысокіх ножках.

І дзе б ён ні спыніўся, ні зірнуў —
Святло вачэй, як і акон, патухла...
І ўсё, што не згарэла у вайну,
Здавалася, ад голаду распухла.

Салдат прыйшоў да ўзлескаў і палян,
Праз дзесяць царстваў даўшы кругаля.

## 11

Праз дзесяць царстваў даўшы кругаля,
Вярнуўся ён — як з полымя ў агонь.
Шурпатая была у мазалях
Ад зброі і ад мыліцаў далонь.

Ён той далоняй маці прыгарнуў
На ўскраіне маленькага сяла.

Лёс аднаго яго дамоў вярнуў,—
Мужчын-аднасяльчан вайна ўзяла.

Ім болей не араць і не касіць.
Прыходзіць ім у чэрвеньскія сны.
І каб бацькоў адсутных замяніць —
Стараліся расці хутчэй сыны.

Памогшы па дарозе не адным,
Спяшаўся ён на дапамогу ім.

12

Спяшаўся ён на дапамогу ім,
Кідаў гранаты і муры крышыў.
І з аўтамата так страчыў, бы ўсім
Неапранутым ён адзенне шыў.

Каля чужога лесу і ракі
За куляй кулю, як за ніццю ніць,
Ён клаў свае свінцовыя шыўкі,
Каб рызманы Еўропе замяніць.

Парыжу — сінь. Варшаве — зелень
дрэў.

Салдат дарэмна часу не губляў.
Відаць, таму і ў вёску не паспеў,
Што ён другія землі вызваляў.

Паволі гасла зарыва ракет.
А з яблынь асыпаўся першацвет.

13

А з яблынь асыпаўся першацвет,
І перад сонцам, што заўсёды насцеж,
Як прад вянцом, стаяў вясновы свет,
Каб заручыцца з радасцю і шчасцем.

Глыбей ішлі у глебу карані
Сівых бяроз і уцалелых клёнаў.
А яблыні зніячэўку закрані,
І адзавецца сад вясельным звонам.

І ля абломкаў чорнага крыла,
Якое і жыцця і смерці сведка,
Вады на рукі хлопцу паліла
Падросшая смуглявая суседка.

Ад босых ног застаўся лёгкі след,
І прад вачыма адкрываўся свет.

14

І прад вачыма адкрываўся свет
Шумлівым вадаспадам галасоў.
У ім зародкі будучых ракет
Яшчэ хавалі сківіцы лясоў.

Затым, пазней, для славы і жыцця
Яны нальюцца між густых лясін,
Каб з часам так, як зубы у дзіця,
Прарэзацца у векавую сінь.

Ды чалавек — таму і чалавек,
Што сонца у крыві яго цячэ,
У цішыню паверыўшы навек,
Ён валіць сосны і сукі сячэ.

Ля маці сын, а ля дзядулі — ўнук.
У жоўтых мыліц раўнамерны стук.

15

У жоўтых мыліц — раўнамерны стук.
Дзяўбуць сухі пясок і камяні.
Яны лапочуць дзюбамі аб брук
І так, што паспрабуй іх дагані.

Абтросшы пыл Еўропы з шыняля,
Пусціўшы мірны тытунёвы дым,
З плячэй пагоны зняўшы назусім,
Салдат адзначыў: дыхае зямля.

Як цягнуць плуг убачыў ён здаля.
Пяць доўгіх вёснаў і халодных зім,
Праз дзесяць царстваў даўшы кругаля,
Спяшаўся ён на дапамогу ім.

А з яблынь асыпаўся першацвет.
І прад вачыма адкрываўся свет.



Твой сын расце.
                    Цяпер дарэчы
І мне сказаць, што вось ён, дзень,
Калі прад ім на выбар рэчы
Па звычцы даўняй пакладзеш.

І кажа верная прыкмета:
У тым, што возьме — лёс мальца:
Калі паперу — лёс паэта,
Калі вінтоўку — лёс байца.

Не мне павер'е перайначыць.
І сэрца ёкнула: няўжо?
Паперу чыстую камячыць
І круціць новае ружжо...

Паўзе далей, неасцярожны,
І без усякае віны
Грабе рукамі — колькі можна! —
Прылады міру і вайны.



Помніцца,
як хлапчукамі рана
Ў нейкую далёкую вясну
Пра вайну чыталі мы раманы
І гулялі толькі у вайну.

Вані, Сашы — кожны быў, як сокал,
Сокал той, што у зямлі ў гасцях.
Галаву у «бой» няслі высока,
Так, як на флагштоку сцяг.

Камандзіраў строга выбіралі.
Бралі ў рукі палкі — па каню.
Маці хусткай вочы выціралі,
Гледзячы на гэтую гульню.

Хто з нас ран не патрывожыў змалку,
Ран, што ім пакінула вайна,
Тым, што ў час ён не стрыножыў
палку —
Вернага маленству скакуна?!

## СМЕРЦЬ МАСТАКА

Быў хлапчуком.
Гуляў з сябрамі ў жмуркі.
Падрос.
І вось —
Разбіўся карабель.
Разліўшы фарбы,
Упусцілі рукі
Жывую маладую акварэль.

Нямнога іх.
Яны крычаць, як сведкі
Яго праўдзівых радасцей і слёз.
І вось і я
Прыходжу у адведкі
І да шпакоў яго,
І да бяроз.

І колькі б вецер
чорных іх
Ні гушкаў,
Заўсёды будзе
Уяўляцца мне,
Што радасць б'ецца
Злоўленаю птушкай
На белым і маўклівым
Палатне!

# ЧЫСЦІНЯ

Гляджу задумліва на рукі
І не магу я уявіць,
Што сам нядаўна быў я грузчык,
Мог разгружаць і мог грузіць.
Што жыў і думаў жыць, як выйдзе,
І вось, як помню я, тады
Я працаваў далёка тыдзень.
А навакол былі сады.

Ніхто з нас яблыкі не кратаў.
Мы толькі бачылі здаля,
Што угіналася, як кратэр,
Пад кожнай яблыняй зямля.
А у сяле — адзін мужчына.
І той мужчына — без рукі.
І запрашалі нас жанчыны,
Вялі у хаты напрасткі.

Каго дзяўчо, каго малодка
У пастаяльцы узяла,
А да мяне сівая цётка
Ішла ад студні спакваля.
...Віселі ў чорным крэпе рамкі.
На месцы ўсё — на погляд мой —
Ад той апошняй пахаванкі
Да самай першай прызыўной.

І не па рангу, не па чыну,
Калі што-небудзь і цаню —
Цаню я простую жанчыну,
Яе любоў і чысціню!

* * *

Люблю...
Хоць асудзіце строга,
Хачу толькі так я любіць,
Калі — і не ўспомніць нічога
І — нельга нічога забыць.

* * *

Такія дні яшчэ бываюць,
Што толькі памяць закрані,
І успаміны усплываюць
Так, як падлодкі, з глыбіні.
І цяжка той душы адкрытай,
Якая зможа уявіць,
Што ля разбітага карыта
Яна, як некалі, стаіць.



Як карабель, тваё «люблю»
І поўна гэткага значэння,
Калі падобна караблю,
Яно пазнаецца з крушэннем.

І прада мной, як сум і боль,
З празрыстай яснасцю вітрыны
На берагах марская соль
Ляжыць, як даўнія ўспаміны.



Бяжыць цыганка і далдоніць
Насустрач ветру і дажджу:
— Пазалаці маю далоню,
І ўсё жыццё тваё скажу.

Не ўспамінай. Яно забыта.
І не шкада ўжо нічуць,
Што сэрца дошкамі забіта,
Як дом, дзе болей не жывуць.



Не за год, не за дзень — за імгненне
Ён замкнецца — апошні твой круг.
Травы вымерзнуць. Здохнуць алені.
І пакіне надзейнейшы друг.

Ды ўжо гэтакі род чалавечы,
Што не хочучы боль свой забыць,
Ён чамусьці усё, што не вечна,
Будзе вечнай любоўю любіць.



Пабялелі і стрэхі і скверы —
Снег на травах і на лісці,
Быццам хтосьці рулоны паперы
Аж да самых дзвярэй раскаціў.

І такая на вуліцы ціша,
Што, ступіўшы на снег за дваром,
Ты не проста ступаеш, а пішаш
І парыпваеш вечным пяром.

# З НЕАПУБЛІКАВАНАГА

(1959—1970)



## КРЫНІЦА

Яна,
Як сэрца чалавечае,
Заўжды жывая,
Вечная.
І неба прамяністае,
І сонейка іскрыстае,
Бы ў люстра,
Заглядаюцца.
Вякі жыве —
Не старыцца.



Калі б той пот сабраў,
Што з табой пралілі,—
Ручаі б пацяклі.

Калі б той груз сабраў,
Што насілі з табой,—
Дык схавалася б сонца
За тою гарой.

І калі б кіламетры
Усе разматаў,—
Пэўна б,
Сонца дастаў.



Яшчэ ніякіх слоў не сказана,
Ды зразумела нам адно,
Што тыя ніці, што нас звязвалі
Ужо разрэзаны даўно.

А ты схаваць усё стараешся,
Ды я цябе на тым лаўлю,
Што крыва мне ты усміхаешся,
Бо сам усмешку я крыўлю.

А недалёка так за хатаю,
У чорным ворыве начы
Аб тым, што любіць хтось жанатага,
Матыў нярадасны гучыць...

І хоць ніякіх слоў не сказана,
Ды зразумела нам адно,
Што тыя ніці, што нас звязвалі,
Ужо разрэзаны даўно.



Я сустрэну цябе светлым ранкам,
Прыязджай!
Прынясу табе кветак-вясняиак,
Прыязджай!
Іх, як стужкай, вясёлкай звяжу,
Прыязджай!

І каму гэта я кажу,
Прыязджай?..

## ВІНА

Хай не пытаюцца ў мяне:
дакуль
Выносіць смецце буду з роднай хаты.
Размову пачынаючы пра культ,
Я гавару,
што мы вінаваты.

Так, вінаваты.
Бо была пара,
Калі падзякі сталінскай хацелі.
І ён,
прыйшоўшы ў памяць з буквара,
Стаяў перад вачмі
бацькоўскім ценем.

Мы верылі нямала ў гэты цень,
Пад ім мы уяўлялі ўжо Айчыну:
Настаўнікі
той веры з дня у дзень
З сур'ёзнай стараннасцю вучылі.

А у суседзяў разганялі сны,
Манаткі па начах да рання трэслі...
І думаў я,
што здраднікі яны,
Іх пакараць ў імя Радзімы трэба.

І сёння многіх не убачу іх...
Мінулае,
цябе мы не забылі!
І судзіць час настаўнікаў маіх,
За тую праўду,
што не гаварылі,

За дождж несправядлівых куль
І за магілы у снягах Сібіры,
А больш бязлітасна
за чорны культ,
За тое, што яны яго зрабілі!..

## ХІРУРГІЧНАЯ СЯСТРА

*Але Савенкавай*

Плыло усё,
Кружылася ў танцы,
То узнікала,
                    то ізноў знікала.
І хірургічная сястра ў час аперацыі
Руку пад галаву мне клала.

Урачы у гіпс закоўвалі, бы ў латы.
Я дыхаў так,
                    нібы на сушы рыба.
Яна казала:
                    — Я прыйду ў палату...
І жартавала, што ляжу, як рыцар.

Пасля суседзі ў вочы і за вочы
Вяселле планавалі нам старанна,
Калі я трызніў,
                    і гарачай ноччу
Яна сядзела ля мяне да рання.

А дні ішлі...
З мяне здымалі «латы»...
Яна забыла да мяне дарогу.
Ды я чакаў...
                    Аднойчы у палату
Медсёстры ўнеслі юнака другога.

Ён цэлы тыдзень не расплюшчваў вочы.
Яна па сутках ля яго стаяла.
І я не спаў,
Калі ён трызніў ноччу
Сястрою хірургічнай Алай...

Я хутка ўстану.
Мне пара ў дарогу,
Стыць пад дажджом
і быць ад пылу шэрым.
А юнаку я не скажу нічога:
Лягчэй і жыць і
папраўляцца
З верай!

## МАНЕКЕНЫ

Ідзеш па бульвары успененым —
І летам і ў снежныя зімы
Стаяць і глядзяць манекены
У вочы з вітрын магазінных.

Ах, поза, якая поза ў іх!
Глядзіш —
і табе здаецца,
Быццам іх светлыя позіркі
Лашчаць людскія сэрцы.

І манекены хочуць
Прыйсці да цябе з дапамогай...
А зблізу угледзься ў вочы іх —
Не ўбачыш агню жывога.

Ні цеплыні,
ні строгасці,
Пра ласку казаць не варта.
Яны па сваёй аналогіі
Нагадваюць мне бюракратаў,

Тых бюракратаў ветлівых,
Чыстых і асцярожных,
Што усміхаліся светла мне
І гаварылі:
— Не можам...

Што гаварылі:
— З радасцю б...
Ласкай свяцілася поза.
Але й тады ў сапраўднасці
Быў нежывым іх позірк!

І па праспекце праходзячы,
Пэўна таму — няйначай —
Іх недалёкіх родзічаў
Я у вітрынах пабачыў.



Тут магіла...
Ні каменя, ні даты...
Лісце-вушы трыпутнік тапырыць...
Маці, мабыць, павестку ў хату
Нёс дзядок, пасівелы ад пылу.

А старая чытаць не ўмела.
Прарасла ў грудзях трывога,
І яна перайшла нясмела
Да суседскага дома дарогу.

Паўставала ў вачах павестка,
Як нядобры сусед тлумачыў:
— Раз прапаў ён на фронце без весткі,
Значыць, здаўся ў палон — няйначай.

А не ведала тая маці,
Што вясновым пявучым ранкам
Спатыкнуўся
і ўжо узняцца
Сын не змог ля варожага танка!..



У коней пабялелі вейкі,
К дарозе прыкіпелі палазы.
Скідалі лесарубы целагрэйкі
На лёгкія прамёрзлыя вазы.

Ашпарвала халоднае паветра.
І станавіліся лясіны на дубы,
Пругкім, наляцеўшым ветрам
Расчэсвалі свае чубы.

І цягачы на гусеніцах-лапках
Паўзлі цераз сумёты да сквалоў.
Зацісн уўшы камлін ахапак,
На тросах іх вялі да штабялёў.

А з-пад далоні маладога веццявя,
На дыбачкі пастаўшы, хвайнякі
Глядзелі, як пакінутыя дзеці,—
Куды гэта пайшлі бацькі?

* * *

Не сустрэну вечарам —
                    у сне
Прыйдзе на спатканне да мяне:
З касой-карункам,
З грудзямі белымі.
Бярэ за рукі,
Бярэ нясмела.
Заве усмешкай,
Дзе луг, як пена,
Дзе ніткі сцежак
І копы сена...
Толькі сарамліва ўспыхне ранне,
Я прачнуся, і балюча стане:
Гляджу, бы сведка,
Як праз дарогу
Стаіць суседка
Каля другога.
З касой-карункам,
З грудзямі белымі.
Яе за рукі
Бярэ ён смела...
А пасля мне сонца не ўзыходзіць.
Хай жа хоць у сны часцей прыходзіць
З касой-карункам,
З грудзямі белымі.
Бярэ за рукі
Мяне нясмела,
Пакліча ўсмешкай,
Дзе луг, як пена,
Дзе ніткі сцежак
І копы сена...

## ЗДАРЭННЕ

Адгрукатаў цягнік на перагонах,
А вось ужо апошні перагон.
І на прыпынку выйшаў я з вагона
На ранішні задымлены перон.

Туман клубіўся над далёкай вёскай,
Цераз раку ляжаў лінейкай мост.
Усё драмала. Толькі у кіёску
Дзяўчына прадавала эскімо.

Не думаў стрэць яе такой парою
І запытаўся неўпапад аб сне.
І ў міг той вочы, поўныя зарою,
З пяшчотай паглядзелі на мяне.

Я знаў ужо, што гэткі позірк значыць,
Я ў пераплёты ўсякія трапляў...
А тут, узяўшы ледзяністы пачак,
Я перад ёй разгублена стаяў.

І раптам:
— Ну бяжы —
яшчэ дагоніш!..
Цягнік пайшоў!
Глядзі: ужо ляціць!
І я пабег.
І толькі у вагоне
Успомніў, што забыўся заплаціць.

## ГРУЗЧЫКІ

Вось гэта хватка руская —
Бяруць па два мяшкі!
Пульсуюць толькі
мускулы —
Тугія вузлякі.
Стаяць дзяўчаты бойкія
Ля МАЗаў на двары
І палахліва войкаюць,
Калі бяруць па тры.
Ім крыўдна, што далонямі
Высокія дубы
Пад вушы шапак гоняць
Цікаўныя чубы,
Бо, стоячы на бруку,
Ахвота хоць на міг
У надзейныя іх рукі
Аддаць сябе саміх.

* * *

Галоўны ўрач убок адводзіў вочы,
А рана, нібы полымя, пякла,
Калі павязку беспрытомнай ноччу
Я рваў з сябе і кроў плыла, плыла.

Са мной суседзі гаварылі многа —
Яны даўно мае злічылі дні.
А я прыйшоў аднойчы да парога.
І пот усю кашулю пачарніў.

Мне смерць рубеж свой
уступала скупа,
А я сабе стараўся уявіць,
Што, калі сам назад ты не адступіш,
Павінен нехта іншы адступіць.

Прайсці палату не хапала сілы,
Я нібы пераходзіў з класа ў клас.
Навуку простую я там асіліў,
Што выверана практыкай сто раз.

Калі ж яшчэ якой бядзе
прытупаць,
З яе я выйду, знаю,
буду жыць,
Бо,
калі сам назад ты
не адступіш,
Павінен нехта іншы адступіць.

## КУПАЛАЎСКІЯ ТОМІКІ

На паліцах пад замком не томяцца —
Ў рукзаку, кішэні і кабіне
Цёплыя купалаўскія томікі
Ў вечным падарожжы па краіне.

Тут радком гарачым і пякучым
Сэрцы чалавечыя напоўняць.
Сцебануць папругай адстаючых,
Будучыню светлую напомняць.

Там расправяць арлянятам крылы,
А каму шчэ дапамога трэба —
Сілы уліюць у жылы,
Каб ўзляталі ад зямлі у неба.

А зімой, калі ў дарозе гора
Ў снежную марозную завею,
Маладых нявопытных шафёраў
Ноччу неспакойнаю сагрэюць.

На паліцах пад замком не пыляцца —
Ў рукзаку, кішэні і кабіне
Цёплыя купалаўскія томікі
Ў вечным падарожжы па краіне.

* * *

Знаю,
Прыйдзе к табе тэлеграма,
Недзе словы ужо бягуць:
«Грошай слаць мне не трэба, мама,
Я навечна ў цябе ў даўгу».

І вячэра твая астыне.
Волю даўшы сваім слязам,
Будзеш ціха казаць пра сына:
«Вось і стаў ты на ногі сам».

А мяне, ці сяджу ў пакоі,
Ці надоўга пакіну дом,
Кожнай ноччу і днём непакоіць
Неаплатны сыноўні доўг.

Мо трывога таму і спаткала
І таму ён мне так карціць,
Што нат веку майго замала,
Каб я змог гэты доўг аплаціць.



У інтэрнаце
ад суму кісну.
Сваёй каханай пішу я пісьмы.
Пішу я пісьмы
туды, далёка.
Пішу я ў пісьмах,
як мне нялёгка.
Імчу на пошту я кожнае ранне,
І мне ўручаюць
тваё маўчанне.
Іду у скверык.
Спяваюць птушкі.
А я сяджу і гартаю Пушкіна.
Чытаю пісьмы я,
чытаю дзённікі,
І бачу генія
я штодзённага.
Вось ён у хаце
ад суму кісне
Ў чаканні пісьмаў!
Каханай пісьмаў!
І я кусаю балюча губы.
За што іх губяць?
За што іх губяць?
Хіба за тое,
каб недзе потым
Хапаць паветра
губамі, ротам?
Ад мужа вырвацца,
законнага,
Прыйсці і ўбачыць,
што ўсё закончана?..



Я у горадзе так запарыўся
І ўсё хвілі чакаў, калі
Я паеду туды, дзе парасткі
Падзяўбалі кару зямлі;

Дзе вясною ключом жураўліным
Адмыкаюцца сінія высі,
І па сцежках табун ласіны
Сотні месяцаў высек;

Дзе у жніўні лысеюць арэхі
І дзе вышыты кветкамі пожні,
Дзе у лесе зайздросным смехам
Адгукнуцца дзяцінства можа;

Калі стоміцца дзень і сцішыцца,
То ніяк не заснуць да зары,
Дзе мелодыі самі пішуцца,
Як аркестры, грымяць бары.

Дзе у кветках лугі зялёныя,
Дзе дзяўчаты хмялеюць маем.
Заматала мяне ў вагонах,
Закідала мяне ў трамваях.

Я паеду туды, дзе парасткі,
Я у горадзе так запарыўся...

* * *

Я не зайздрошчу сёння п'яніцам,
Бо ўжо не раз я чуў адно,
Што з магазінаў неяк раніцай
Гарэлка знікне і віно.

Вітрыны чымсь другім напоўняцца,
Каўбасы, масла, сыр бяры...
А мне тады, напэўна, ўспомняцца
Мае далёкія сябры.

Не мог я піць — таму упарціўся,
Прасіў назад хоць чуць адліць.
Але за дружбу піў я квартамі,
Бо нельга мне было не піць.

Пасля я піў — і ў тым не каюся,—
Калі няўрадзіцы былі,
Калі сябры мае з'язджаліся
І хлопцы ў армію ішлі.

Ды я усё чакаю раніцы,
Даўно жадаю я адно:
Няхай хутчэй знікаюць п'яніцы,
А не гарэлка і віно.

Я сам нідзе не вып'ю ўпотаю
І не нырну у чорны вір,
Але ўздыму бакал з ахвотаю
За дружбу,
Шчасце
І за мір!

* * *

Клуб перапоўнены, скачуць цені,
Нібы адтуль, з таямнічага свету.
На саўгаснай цэнтральнай сцэне
Выступаюць факіры-студэнты.
Хлопец русы з майго пакоя —
Чуб ад сонца зрабіўся белым —
Узмахнуў над сабой рукою,
І на сцэне рака пабегла.
Бегла рэчка, наперад каціла,
І ад берага біліся хвалі.
А другую руку апусціў ён —
І на сцэне будынкі стаялі.
Я пасля гэтых самых факіраў
Сустракаў у пустыні зноўку.
Уздымалі факіры кіркі
І капалі зямлю рыдлёўкамі.
Мітусіліся тонкія цені.
Кухня пыхкала чорным дымам.
І ў пустыні, як там, на сцэне,
Уздымаліся ў неба будынкі.

* * *

Хапаюць рукі зноў і зноўку —
На дол кашулі скінуты —
Ад поту коўзкую рыдлёўку,
Зрыжэлую ад гліны.

Нібы гадзіннік, сэрца б'ецца.
Хоць ноч — не лічым зоры.
У нас спаборніцтва вядзецца
Тут сёння з транспарцёрам.

Ён не павінен нас адужаць!
(А рукі загараюцца!)
І хоць ужо у поце стужка,
А мы ўсё больш стараемся.

Пры ліхтарах, як бронза, спіны
(Мо толькі зубы белыя),
Не разбярэш, ці гэта ў гліне,
Ці, можа, загарэлыя.

А цэгла высіцца, як горы...
Матор прыстане, здарыцца,
Жартуем дружна з транспарцёра:
— Ну што, браток, запарыўся?!

## РУКАВІЦЫ

Сярод пяскоў і дрэўцаў ніцых,
Дзе дол чарнеў, як антрацыт,
Быў час, што нават рукавіцы
Былі, як рэдкі дэфіцыт.

І нас дзяўчо адно злавала.
Ну як, скажыце, не злаваць? —
Яна іх ранкам адзявала
І не здымала, покуль спаць.

Цягнік па рэечках адгрукаў,
І я ў вячэрнюю пару
Яе даверлівыя рукі
Ў свае спакойныя бяру.

Далоні чорствыя ад буту,
Рубцы, як нітачкі граніц,
Цяпер расказваюць, чаму там
Зняць не хацела рукавіц.

## ЗОЛАТА

Мой дзядзька нямнога значыў
Калісьці. Тады — даўно —
З зялёных гадоў юначых
Ён быў батраком у паноў.

Там,
меўшаму дзіўны талент
Насіць пастухоўскі кнут,
Лакеі не раз кнутамі
Лінеілі ў клетку спіну.

Не мог ён з панамі ладзіць
І кланяцца не ўмеў.
Савецкая наша улада
Знайшла майго
дзядзьку ў турме.

У дзюры і латы адзеты
Прыйшоў у сяло ён,
і там
Яго на чале камітэта
Выбрала беднага.

Калені кулацкія млелі,
Не спалася — да зары,
Калі ён людзям пра Леніна
Харошае гаварыў.

Расказваў, які ён мудры,
Што людзі к яму ідуць.
Яшчэ
гаварыў пра Камуны
І як у Камунах жывуць.

Рабілася ў хаце цесна.
Пыталіся ў дзядзькі:
— Скажы,
А што, калі б мы захацелі
Камунаю светлаю жыць?

За вокнамі лушчыўся холад.
І дзядзька ўсміхаўся ў дым:
— Збяромся усе на сходку,
Збяромся усе —
і рашым!

А там,
дзе каля сасонніку
Срабрыстай падковай рака,
Хадзіў падбародак гармонікам
У тлустага кулака.

Багатых,
нераскулачаных
Ён ляпаў рукой па плячы:
— Камуну мы іхнюю бачылі...
(Знаеце самі — на чым!)

*

...Забыўся кулак на важнасць.
Крычала на сходцы ўдава.
Здавалася,
нібы на вагах
Два светы,
бы грузы два!

Нямала тут важыў голас,
Тут важыла многа —
рука.

Але у нямногіх гонар
Купілі
        і хлеб
                і мука.

Бяду кулакі убачылі,
Тады нехта крыкнуў праз гам:
— Хаця нас і раскулачыць,
Але усё гэта —
                        не вам!

Запеў падгалосак:
                                — За мора.
(Аж ахнулі бабы:
                                — Няўжо?)
Маёмасць Камун няствораных
Прадана цяпер ужо.

І злосцю шалёнай секлі,
Білі хлуснёй з-за пляча,
Што нават у Леніна
                                сейфы
Ад золата аж трашчаць.

І дадавалі:
                        — Скора,
Даўшы ўсяму па баку,
Ён уцячэ за мора
І камісары ўцякуць.

І зноў галасы,
                        як вецер,
Бо выступіць кожны лез.
Тады майму дзядзьку верылі,
Верылі дзядзьку,
                            але

Калі пагаджаліся мірам
Заявы ў Камуну падаць,
Рашылі стварыць камісію —
Да Леніна ў Крэмль пасляць.

Пакуль жа ў Маскву яна сходзіць,
Дазнаецца — што чуваць,
То дзядзьку — рашыла сходка —
Камунаю кіраваць.

*

Прыйшлі. Сакратарка просіць —
Бяссонніца ў шэрых вачах.
Аж дзіву даліся, як проста
Зайсці ў кабінет Ільіча.

Парог. Задрыжалі калені.
Прасіўся картуз з галавы.
Знаём быў па кнігах ім Ленін,
А тут іх сустрэне жывы!

Жывы,
не партрэтны,
сапраўдны,
З працягнутай роднай рукой.
Той Ленін,
які за праўду,
А значыць,
за беднякоў!

І покуль рашалі, хто першы
Парог кабінета міне,
Пачулі, як дзіўную песню:
— Таварышы,
вы да мяне?

Хоць знала, што ходзіць многа —
З часам не трэба цягнуць —
Застылі усе ж ля парога,
Нібы набівалі цану.

Пылалі, як полымя, твары,
Здавалася,—
ўсё гэта сон!
— Праходзьце,
сядайце, таварышы! —
Ды тут зазваніў тэлефон.

І Ленін на хвілю выйшаў
(Гарачы, відаць, быў дзень).
Пакой як пакой яго. Лішняга
Было не відно нідзе.

Ў чаканні «камісія» села.
Стол.
Крэслы.
Графін вады.
Ну дзе тыя самыя сейфы —
З-за іх жа ішлі сюды!

Не,
сейфаў было нябачна...
І толькі было ім чуць,
Як поблізу недзе
басам
Даказваюць штось Ільічу.

Адзначылі асцярожна,
І радасна стала самім:
«А значыць, глядзіце, можна
У спрэчку ўступаць
і з ім!»

І зноў цішыня. І ціха
За вокнамі кап ды кап.
Зайшла у пакой жанчына —
Чайнік і хлеб у руках.

Хацелася некуды бегчы.
У сэрца закраўся адчай.
Хіба вось такія абеды
Патрэбны для Ільіча?

Што чай!
Вось бы бульбы місу —
Мільгнула у гэты міг.
Маўкліва устала «камісія».
Чайнік дыміўся між кніг.

*

Дамоў не пайшлі.
                    У гасцініцу
Вярнуцца рашылі,
                    бо так
Сказаў,
          як ішлі гасцінцам,
Камісіі член —
                    серадняк:

— Хіба ўсё заўважыш адразу...
Па-мойму,
          не варта спяшыць.
Той чай, можа, быў для паказу...
А вось
          каб тут болей пажыць,
А вось
          каб мы разам,
                    трое,

Ну, хоць невялічкі час...
Сюды б нам
                    пісалі пра тое,
Як людзі жывуць у нас...

Было ад тых слоў так горка!
Туманілі, нібы чад...
Вярталіся зноўку ў горад,
Наведвалі Ільіча,
Ды
    відна прыйшлі ці цёмна —
Адводзілі вочы убок,
Бо чайнік ранейшы
                              штодзённа
Сялянскія вочы пёк.

Яны крыўдавалі ўжо самі,
Што зноў, як нявеぐры, прыйшлі.

А з дому у пісьмах пісалі —
Камунаю лепш зажылі...

Было ім і крыўдна і радасна...
Не чуць было спрэчак і скарг.
Рашылі, што золата —
                                  ПРАЎДА.
І гэта —
            сапраўдны скарб!

Свяціла ім сонца, як сёння.
Ішлі яны сходку рабіць.
І там,
        дзе праходзілі,
                           ў сёлах
Камуны раслі і раслі.

## БЛІЗКАЕ НЕБА

З дзяцінства
Хмурын абломкі
Сплывалі, абдаўшы зямлю.
Угледаліся мы за аблокі
У расчынены неба люк.

Каметы-маланкі бліскалі,
І Млечны каціўся, ззяў.
Хацелася неба блізкае
У рукі свае узяць.

На дыбачкі уставалі,
Цягнулі драбіны на двор,
Ды толькі не даставалі
Ні неба, ні яркіх зор.

Спускаліся. Што ж, не трэба...
Ды крыўда пякла не раз,
Што блізкае сіняе неба
Далёкім было для нас.

Не раз уздыхалася лёгка,
Бо марылі ўсе, відаць,—
«Не з вільчыка, дык з самалёта,
Можна яго дастаць!..»

А нейкі нявера збоку
Смяяўся у тыя дні:
— Той зможа лятаць,
хто скокне
З высокай страхі уніз.

І лез на страху таварыш.
І бачна было здалёк,

Як з пабялеўшым тварам
Адышоў баязлівец убок.

Ў бальніцы хірургі строгія
У ноч тую воч не звялі —
Зламаныя хлопцавы ногі
Ўбінтоўвалі ў шэры гіпс.

Шаптаў ён: мне трэба, трэба...
І бачыў начамі адно,
Што блізкае зноўку неба
Глядзела ў яго акно...

Мінулі зімы і леты...
Я дыктара голас лаўлю
І ў тых, хто лятае ў ракетах,
Характар яго пазнаю.

І думаю, як за аблокі,
Гляджу ў аксамітную сінь,
Што блізкае неба далёка
Таму, што яно не для ўсіх.

## УРАЛЬСКІЯ ВУЛІЦЫ

Уздрыгваю у шэсць, нібы паранены,
І, вочы прамываючы зарою,
Пустынны сам
я па пустыннай раніцы
Іду па вуліцах з імёнамі герояў.
Сяброў пакінутых прашу не крыўдзіцца:
Хоць тут патрэбны нашы рукі, веды —
Няхай за гэта мне
адказваць прыйдзецца —
Я ад'язджаю.
Я дамоў паеду.
Я ад'язджаю.
Многія пляваліся
На неспакой мой.
Гэта так уразіла!
Спыняюся. Чаго я тут спыняюся?
Ах, плошча прада мною. Плошча Разіна.
О палкаводзец арміі сярмяжнае!
Упартасці тваёй бы мне і гневу...
Я малаверам бой даваць адважыўся,
І,
Разін,
адступаю я ганебна.
Напэўна, наступаць ужо не прыйдзецца.
Я адступаю па дарозе чорнай.
Я трушчу лужы, як малыя прызмачкі,
Спыняюся на плошчы Пугачова.
Дзе кветкі выяргае клумба кратэрам
І усміхаецца дзяўчына-весялуха,
Мяне хтось за плячо паціху кратае
І шэпча таямнічае на вуха.
Ён мне гаворыць добрае, адкрытае
І па-казацку хітра жмурыць вока.

«Нічога,
што учора быў разбітым ты.
Ты не здавайся.
І збярэцца войска...»
Я веру ў словы ціхія, настырныя,
На адступленне я сваё злуюся.
І не здаецца вуліца пустыннаю,
І я ўжо сам пустынным не здаюся.

* * *

Пра сваіх па чарзе расказалі,
З добрай радасцю апісалі
І мяне аглушылі знянацку,
Запыталі ў мяне пра бацьку.
Ноччу тою падушка мокла.
І хацеў я сказаць, што мёртвы,
Толькі — мёртвых па імені клічуць,
Многіх мёртвых — жывымі лічаць,
Многіх мёртвых — вякамі помняць,
Многім мёртвым — стаўляюць помнікі.
А ў мяне пра яго
успаміны
Разрываюцца ў сэрцы,
Як міны...
Ціха-ціха падушка мокла:
Хлопцы — злева
і хлопцы — справа...
Я жывога лічу яго мёртвым,
А назваць так — не маю права!..

## ДАНОСЫ

Сяброў маіх у трыццаць сёмым
Спаліў вінтовачны агонь...
Яны усе са мною сёння
З душою простай, як далонь...

Нікому пятак не лізалі
І не баяліся бяды,
Хоць ім знаёмыя пісалі,
Што трэба быць цішэй вады.

О як той быў знаёмы рады!
Ён рады быў, відаць, да слёз —
Адной рукой пісаў парады,
Другой рукой пісаў данос...

Даносы толькі пажаўцелі...
А хто пісаў іх —
больш не рад.
О як жа зараз ён хацеў бы
Даносы ўзяць свае назад!

Ды час не той. Даносчык з носам...
Ён, як зазубраны тапор.
І для яго
яго ж даносы,
Як справядлівы прыгавор!



Любая, не будзь са мною строгай.
Будзь заўсёды ветлівай са мной.
Захварэў я ветрам і дарогай,
Тундраю, пустыняй, цаліной.

Захварэў, нічога тут не зробіш.
Вось і сёння мушу зноў ісці.
Ад маёй харошае хваробы
Парашкоў не зможаш ты знайсці.

Ды і не шукай таго лякарства!
Лепш у вочы ціха паглядзі.
Сабяры паходную мне кайстру
І на плечы рукі пакладзі.

Пажадай мне пуцявіны добрай
І трывогу дай сваю адчуць.
Захварэў я дзіўнаю хваробай,
Ад яе лячыцца не хачу.



Не раіў я нічога і не раю,
Сам у парады верыць перастаў.
Чарговага паэта хтось звяргае,
Хоць сам раней узвёў на п'едэстал.

Згарэў ён без агню, святла і дыму,
Бо хітрасць прынімаў за дабрату.
Цікава, а каго цяпер уздыме
Той Хтосьці на сваім шчыту?

Сапраўднага паэта?
Мне здаецца,
Ён тужыўся, стараўся і крычаў
І таленты губіў таму,
што месца
Для некага другога расчышчаў.

Ды хоць бяздарнасць выведзе у людзі,
Хай зможа ў славе век яна пражыць.
Усё, што мы напішам з вамі,
будзе
Не Хтось, а заўтра светлае судзіць.

Яно ўсё наша добрае усдавіць.
І хоць бы ты хацеў ці не хацеў,—
Яно на месца правае паставіць,
Няправае рашуча адмяце!



Нямала мной гадоў пражыта,
А мне так многа не стае.
З самім сабой вяду я бітву
І выйграць хочацца яе,

Каб мне па плыні больш не плысці,
Усё жыццё сваё каб мог
Не аступацца, як калісьці,
І не збіваць слабейшых з ног,

Каб праўду ўсюды я адстойваў,
Каб ад бяды чужой не ўцёк...
Я сам змагаюся з сабою,
Мне выйгрыш трэба, як жыццё!..



Рыфмамі верш звязваю,
Атрымлівай — што каму,
І запіраю іх, вязняў,
Ў шуфляду, нібы ў турму.

Хто меней сядзіць, хто болей,
Аж покуль не будзе указ:
І не амнісціруе волю
Начальнік няўмольны — Час.

Начальнік,
                    працуй спакойна,
Табе давяраем мы.
Толькі адных дастойных
Ты выпускай з турмы.



Мы ўсе на гэтым свеце — госці.
Жыццё людзей — імклівы крос.
І пасля бурнай маладосці
Туды пацягне, дзе ты рос.

І вось я там. На той радзіме,
Дзе многа год таму назад
Па гулкіх вуліцах хадзіў я
І да сяброў, і да дзяўчат.

Той самы парк, і тыя ж горы,
І тая ж руская зямля,
І толькі розніца, што горад
Перамяніў сваё імя.

Па прозвішчы таго ў народзе
Вядом ён быў, хто на мяжы
Сівога грознага стагоддзя
Тут першы камень заляжыў.

І я гару, нібы паўстанне,
Калі з вінтоўкай на плячы
Ідзе па вуліцах як здань ён
У шэрым восеньскім плашчы.

Ён — спадарожнік вечнай ночы,
З трубой падзорнай у руках
На ўсё глядзіць, раскрыўшы вочы,
І штосьці хоча адшукаць!

## САНЕТ

Маўклівае трывожнае зацішша.
— О першы і апошні мой санет,
Скажы мне, што пра нас напіша
Сапраўдны, не такі, як мы, паэт?
— Пісалі вы пра яблыкі і вішні,
І нават кожны куст лясны апет.
Паэт — яшчэ нікольні не паэт,
Калі, як Данка, да людзей не выйшаў.
Даволі росы ў травы абтрасаць,
Дарогі трэба сэрцам асвятляць.
Нам новыя відны ўжо далячыні.
І калі будзеш ты, паэт, такім,
То лягуць верша шчырыя радкі
Айчыне на чало, нібы маршчыны.

## АПОСТАЛЫ

Купляю паліто сабе
і шапку.
І еду
да сяброў і па грыбы
У вёску,
дзе не трэба мне
спяшацца,
Няма з чаго ўздымацца на
дыбы.
Бывай, мой горад —
галасы і сцены!
Я з галавой ныраю ў ціхі
дзень.
Іду туды,
дзе верб-таўстушак цені
Гайдаюцца, як лодкі, на вадзе.
Яшчэ далей —
запушчаная грэбля.
На ёй трава такая,
як іржа.
Царква
маўкліва пагражае небу
Зламанай шпагай мёртвага
крыжа.
Шалёўкай вокны вузкія забіты.
А часам
дзынкнуць градзіны ўгары
І у яе заходзяць
і малітвы
Чытаюць багамольныя вятры.
Даўно ўжо ўсе пазабывалі,
І мала хто расказвае малым,
Што гэтую царкву пабудавалі

Паны —
грахі хацелі адмаліць.
Больш года
мужыкі над ёй пацелі,
Будынак узвялі —
не апісаць!
Паны разьбой
і фарбай захацелі
Святога храма
сцены распісаць.
І прывялі на ланцугу прынукі
Ў маёнтак
пад канвоем гайдукоў
Майстроў,
як кажуць людзі,
на ўсе рукі —
Чацвёра простых нашых
мужыкоў.
У іх вачах было такое гора!
Старэйшы,
што уперадзе ішоў,
Пакінуў у сяле сваім васьмёра
Галодных галапузых малышоў.
Сярэдні
у сябе пакінуў дома
Не жонку, а шкілет —
маўклівы цень,
Якому да магілы ўжо нядоўга,
І гэткіх жа шкілецікаў — дзяцей.
Былі б яны і ў пабірушкі рады.
Хоць голад пабірацца будзе
гнаць,
Ды кашаль маці верне ўсіх
назад іх —
Ёй трэба хоць вады сырой
падаць.

А трэці —
сын старэнькае калекі.
Ёй без яго таксама
не пражыць.
Яна прад абразамі на каленях
Паклоны богу доўга будзе біць.
Пасля ўгару лучыну рук ускіне
І крыкне, багамольная, сама:
— Калі ты ёсць,
то ты мне вернеш сына!
Калі не вернеш, то цябе — няма!
Няма! Ня-ма-а! —
І мыліцаю трэсне
Па лепшых абразах сваіх тады.
І будзе іх, нязвержаная, трэсці,
Аж покуль не заціхне.
Назаўжды!..
А самага малодшага, у чунях,
Як дужыя укормныя быкі,
Забралі ад нявесты-прыгажуні
Пад самае вяселле гайдукі.
Яна падбегла.
Заклінала бога —
Здаецца, й сёння правады
гудуць:
— Мяне няволіць стануць
за другога,
А лепш рукі,
я рукі накладу...
І вернай будзе клятве той
дзявочай.
І соннаю маўкліваю парой
Навострыць востры нож,
заплюшчыць вочы —
І ... з белае рукі
засвішча кроў...

*

У мужыкоў спыталіся
вяльможы:
— Ці можаце нам храм зрабіць
такі,
Каб быў святымі
ўсімі упрыгожан?
І адказалі:
— Зможам! — мужыкі.
— Дагодзіце,
то будзе шчодрай плата,
Даброй для вас нагрузім мы
вазы.
Не зможаце —
і ўміг з дубовай
плахі
Пакоцяцца галовы-гарбузы...
І варта тупа праціралa вочы:
— Спяшаюцца,
нібы праз дзень — патоп...
А мужыкі пацелі аж да ночы.
Не сем цякло,
а семдзесят патоў!
Яны пра сем'і ўспаміналі
часта.
У думках
кожны з іх туды ішоў...
Замест багоў
у вопытнага майстра
З-пад пэндзля выйшла
восем малышоў.
Разутыя,
ідуць вадою талай,
А сын малодшы стомлена
прысеў.

Дачка яму нібыта кажа:
— Татка
Ідзе дахаты,
Хлеба нам нясе...
А ён, малы, сваю руку
працягвае.
Па вуснах нават
можна адгадаць,
Што ён, не разумеючы,
працяжна
І хныкае
і просіць хлеба:
— Да-ай!
Ў суседа на малюнку:
клён пажоўклы.
Пустая хата. І шчарбаты стол.
Вачмі шклянымі падпірае
жонка
Прагніўшыя даўно страху
і столь.
На раздарожжы,
дзе кірункаў многа,
Шкілецікаў-дзяцей малы
атрад...
Галодныя,
далей ісці не могуць,
І ўжо няма куды ісці назад...
У трэцяга:
матуля на каленях
Ўздымае да іконы
твару бель.
Каб сын хутчэй дамоў
прыйшоў,
калека
Паклоны богу днём і ноччу
б'е.

Трымаецца рукой за
падаконнік
(Адпомсціць за усё старой
карціць!),
І вось ужо
у твар святой іконы
Маланкай гневу
мыліца ляціць!..
А ў самага малодшага,
у чунях,—
На доўгай расфарбованай
сцяне
Бярэ кулак за жонку —
прыгажуню
За пяць кароў —
дамоўленай цане.
Гарачы труп.
Натоўп аднавяскоўцаў.
І муж.
І звар'яцелыя бацькі.
І лужына крыві
гарачым сонцам
Каля дзявочай
белае рукі.
І ў гэтым сонцы
мужыкі і бабы.
І ў гэтым сонцы
багамольны дзед.
Яны глядзяць
і ўжо, напэўна, бачаць,
Што не маглі учора
разглядзець...
А кроў плыве,
як быццам так і трэба,
Нібыта просіць хто яе:
— Плыві!..

Плыве з кахання,
праўды,
лусты хлеба!
Маёнткі ўсе па стрэхі —
у крыві...
Апошні ўзмах —
і здзіўленыя сталі.
І радасць паланіла сэрцы іх:
Яны усе без змовы напісалі
Тых,
хто дастойны імені святых!..
І толькі тут успомнілі пра
плату:
«Дабром для вас нагрузім мы
вазы...»
Майстры на плаху клаліся —
і з плахі
Каціліся галовы-гарбузы...
А побач слугі панскія
стаялі
І між сабою здзіўлена гулі:
«Мы думалі:
сумленна працавалі,
А, бачыш ты, крамолу
развялі...»
Іду назад запушчанаю грэбляй.
На ёй трава такая, як іржа.
Царква маўкліва пагражае
небу
Зламанай шпагай мёртвага
крыжа.



Дагараюць травы. А лісты
На зямлю злятаюцца патроху.
І пласты кладуцца на пласты
На палі і шэрую дарогу.

І трывога болем апячэ:
Мёртвы пласт на мёртвыя кладзецца,
А праз іх да майскага святла
Ці праб'ецца моладзь, ці праб'ецца?

## ПАМЯЦІ ТАВАРЫША

Жалобныя песні сыграны.
Сыграйце яшчэ адну!
Ці вам не здаецца, што рана
Яго апускаюць ў труну?
Апошняя песня сыграна,
І трубы ужо маўчаць,
А быццам скразная рана,
Апошнія гукі гучаць.
Апошняя песня сыграна,
І болей не будзе, відаць.
І развітвацца рана,
І нечага болей іграць...



Вёска наша — ля самага бору.
Там хвароба, як ні кажы,
Палюбіла мяне, як надвор'е
Любіць восеньскія дажджы.

І, уздрыгваючы асінай,
Маці бегла па тым дажджы:
— Валя родная, дрэнна сыну,
Валя любая, памажы...

Ад хваробы не лечаць чаем.
Я ад болю сціскаў кулакі
І на шыі, як круг выручальны,
Адчуваў дзве дзявочых рукі.

І жыццё улівалася ў цела.
І палацам здаваўся дом —
Гэта Валя ка мне ляцела
Сінявокім тугім васільком.

І любому у час адчаю
Я жадаю рэцэпт такі,
Каб на шыі, як круг выручальны,
Адчуваць дзве дзявочых рукі.



Незразумела і з запалам
Як закрычалі — проста жах!
І ярка ўспыхвалі запалкі
У растрывожаных вачах.

Пляткар згінаўся, нібы вусень,
Чакаў ён лаянкі і слёз.
Ён у сваіх змяіных вуснах
Змяінай плёткі яд прынёс.

Дачка ж стаяла ціха-ціха,
Збягалі слёзы па шчацэ.
І мне здавалася, што цікаў
Гадзіннік на яе руцэ.



Адкуль такі спакой і вера,
Адкуль такая ярасць слоў?
Чаму глядзіш ты, як Венера —
Ужо даўно няма багоў!

Ужо даўно яны памерлі.
Хоць і святыя — ўсё адно,
Іх жорны веку перацерлі
І косці струшчылі даўно.

Я не скажу святым нічога,
І не пярэч ты мне сама,
Што на зямлі няма святога,
Нічога светлага няма!

Ёсць светлы дзень! Усмешка тая,
З якою, што мне ні кажы,
Сама праходзіш, як святая,
І робіш светла на душы!



Мне з былога свайго не смешна —
Нават крыўдна. Як ні кажы —
На ўсё я рашаўся паспешна.
Я паспешна на свеце жыў.

Я паспешна запісваў вершы.
Я паспешны у дружбе быў.
Я заўсёды паспешна верыў
І паспешна дзяўчат любіў.

І цяпер наступае грозна,
Лезе думка ў вочы асой,
Што было усё несур'ёзна,
Бо паспешна зроблена мной.

Мне з былога свайго не смешна...
Сябар любы мой, ты глядзі!
Ні на што не рашайся паспешна
І паспешна мой верш не судзі...



Два промні фар — два жоўтыя нажы
Рассеклі маладую канюшыну,
І заяц напалохана бяжыць
У іх святле пад коламі машыны.

Праменні ж лёгка мацаюць лясы,
І кожны — у тумане сінім тоне.
Бяжыць касы, бо уявіў касы,
Што там, дзе цемра,— гулкае бяздонне.

Хоць бегчы будзе ўсё шпарчэй, шпарчэй,
Ды лёс яго я усё роўна знаю...
І сам я у святле пустых вачэй
Насіўся, як перад машынай заяц.

Мільгалі тэлеграфныя слупы,
Лясы, і пералескі, і дарогі,
А я ў святле імчаўся, як сляпы,
І — божа мой! — не заўважаў нічога:

Ні бэзу маладога адцвітання,
Ні сіняга світальнага святла,
Ні верных губ, што прагнулі кахання,
Ні чэсных рук, што прагнулі цяпла.

Святло святлом. Ды ўжо цяпер вучыць
Мяне не трэба — многае я знаю.
І мне самому смешна, як імчыць
Асветлены святлом машыны заяц.

## ПОЛЮС МЕРЗЛАТЫ

Нібы мядзведзі белыя,— кусты
Застылі на пушыстых лапах веццяя.
І цішыня. На полюс мерзлаты
Не залятае несур'ёзны вецер.

Сыпучы снег — куды вышэй калень!
А пра дарогі нахлусілі карты.
Капыціць снег упэўнена алень,
І рэактыўна пралятаюць нарты.

Далей — знаёмай юрты чад густы,
І моцны чай, якім гасцінна пояць.
І цеплыня, хоць полюс мерзлаты.
І думаеш зусім пра іншы полюс.

Там маразы лютуюць круглы год,
І нават тут вось кожную хвіліну
Я адчуваю рукі, што як лёд,
Я адчуваю слёзы, як ільдзіны...

Дыхну сухою спёкаю пустынь,
І зацвіту духмяным церпкім маем,
І растаплю я полюс мерзлаты,
А той ці растаплю — не знаю!

Пакуль жа снег — куды вышэй калень,
І зноўку пра дарогу хлусіць карта!
Капыціць снег упэўнена алень,
І рэактыўна пралятаюць нарты.



А што там на далёкім перавале,
Дзе высіцца папахаю Эльбрус,
На ім багі ці д'яблы піравалі,
Паслаўшы на гару снягоў абрус?

Усё вышэй, вышэй іду у горы,
Усё радзей, радзей гляджу з гары,
І слухаю часцей я, як гавораць
Паміж сабою гордыя арлы.

Я пагляджу — сініца у далонях,
А пад нагамі — снег і камяні,
І я стаю маўклівы над бяздоннем,
Вучуся адчуванню вышыні.

І пераняць хачу: ў арлоў — адчайнасць,
Рашучасць прадапошніх іх кругоў...
У гор высокіх — гордае маўчанне,
І чысціню — у сонечных снягоў.



Хмары над сярпастай асакою,
І буслы плывуць ці журавы?
Кажуць, што усе ў нас з галавою,
Можа, я адзін без галавы?

І чыя магіла пад рабінай,
І чыю засыпаў сіні снег?
Можа, крыж, што некаму рабілі,
Быў наканаваны толькі мне...

Хто з іх праў, падумай, я не знаю.
Цішыня магільная палян
Мне гаворыць, што нас ураўняе
Эпілог спрадвечны наш — зямля.



Скачуць, плачуць, сумнае
іграюць.
Кроў пульсуе, як па дроце ток,
І жыццё людзей перагарае,
Быццам электрычны валасок.

Мне перад успышкаю
карцела б,
Пакуль праз мяне яна бяжыць,
Каб яна жыццё мне асвяціла,
Каб я мог у памяць адлажыць

Росныя лугі, лясы і пожні,
Вечныя сасонкі у бары,
Воблакі сяброў маіх апошніх,
Шахту неба сіняга ўгары.

Пад бярозай, можа, ці пад вязам,
Кануўшы навечна ў забыццё,
Вечарамі буду я расказваць
Мёртвым пра вясёлае жыццё.



Настаўнік гаварыў тады пра мужнасць,
Калі дзяцей да вокан кінуў крык:
Раз'юшаны, упэўнены і дужы,
Дзяўчынку падымаў на рогі бык.

Маланкай цень мільгнула праз дарогу,
І ў садзе каля тоненькай ракі
Ляглі на разгарачаныя рогі
Дзве смелыя мужчынскія рукі.

Сямён Сцяпанавіч!
На могілках, дзе светла
Ад гонкіх дрэў і восеньскай травы,
Задумаўся я над магілай гэтай:
Чаму, чаму у ёй ляжыце вы?

Вянкі, вянкі...
Я рады, колькі можна,
Што справядліва лічыць наш народ
Важней пустых стагоддзяў асцярожных
Парою дваццаць неспакойных год.



Перакаты звоняць гулка.
Пірамідамі стагі.
Б'е маленькая рачулка
У густыя берагі.

Гэта мае ўсё ж значэнне,
Бо ўжо некалькі гадоў,
Дзе маё жыццё — цячэнне,
Я не бачу берагоў.

Што за бераг там, за дымкай?
Я хацеў бы сёння знаць:
Ці каменныя абдымкі,
Ці спакойнай бухты гладзь?

Я пакуль яшчэ не знаю.
Можа, гэта не бяда,
Што вакол бурліць без краю
Неспакойная вада.



Жыццё ідзе, звініць падковамі,
Жыццё маторамі грыміць.
І сёння я невыпадкова
Хачу пісаць і гаварыць.
Хачу крычаць, што сэрца скажа,
Пра неба, сонца, пра ваду.
Паэма, як дарога ляжа,
І я дарогай той пайду.
Пайду у музыку і танцы,
Пайду у гром, у звон падкоў.
Мне як прыпыначныя станцыі
Ступенькі знойдзеных радкоў.

## РУКА СВАБОДЫ

Ціха коні ў аглоблях іржалі —
Па пясках і халоднай вадзе
Гналі частыя неўраджаі
У чужыя краі людзей.

Ды і там,
За марскою дымкай,
Дзе Свабода з узнятай рукой,
Абыходзіла шчасце міма
Сарамяжных маіх землякоў.

І ішлі яны часта на прыстань.
Углядаліся у прыліў...
Іх трывожыла, як жа, ці прымуць
На далёкай сваёй зямлі.

І ўсё болей ім з кожным годам
Уяўлялася зноў і зноў,
Што рукой з пастамента Свабода
Ім паказвае шлях дамоў...



Пасівелы ты — бронзавы помнік.
І па профілю, пэўна, грэк.
Я аблічча тваё запомню
І імя запомню навек.

Будзе, будзе праўдзівым слова
І гарачым агонь душы!
Вось папера. Бяры аловак
І паэму жыцця пішы.

## ВУЗКІ МОСТ

Шапкі два дзядзькі купілі
І пакупкі замачылі.
А калі дамоў ішлі
Цераз лес і луг наўпрост,
Шапкі ў мора паплылі —
Для дзядзькоў быў вузкі мост.



А ўсё ж ён разаб'ецца — мой аўтобус,
І галава пакоціцца далоў.
Вы падыміце гэты русы глобус
З паўшар'ямі карычневых мазгоў.

І пра мяне нікога не пытайце,
А самі ў дарагі свабодны час
Вы біяграфію зямлі чытайце
Па ямах ран і па траншэй рубцах.

Успомніце крылатых і бяскрылых,
І барабанны крык, і ціхі піск
І ўбачце, як на п'едэстал магілы
Усходзіць цень, нібыта абеліск!



Дом пад жоўтаю чарапіцай —
Ён далёка цяпер, як сонца...
А жыхарка яго — чараўніца —
Апаўдня пазяхала сонна.

Клапацілася, мусіць, аб нечым
І чакала, напэўна, вечар.
Вечар той, калі кавалерыяй
Цяжка тупалі кавалеры.

Дык чаму ж тады гэтак проста,
Калі крочым садам, лугам,
То была яна ўся, як просьба,
Каб я кінуў пробкавы круг ёй?

Дык чаму, калі дзверы хлопалі,
Раставалі і сны, і крыкі —
Гаварылі мне ціха:
— Хлопчык,
Зразумееш, як станеш вялікім.

Вырас я. Разбірацца ўмею.
Прабачаю грахі удоў.
А яе я не разумею
І у дваццаць сваіх гадоў.



А лес прапахлы сіняватай гніллю,
Відаць, не дачакаецца вясны.
Ляглі, нібыта ў брацкую магілу,
У рыжы мох тры звонкія сасны.

Ляглі...
А ўчора тут, у Прыдняпроўі,
Не знаючы ні гора, ні тугі,
Здавалася, што ўсе яны здароўю
Складалі і шумелі вечны гімн.

Сяброўкі іх яшчэ не горбяць плечы,
Хоць ім даўно навекаваны дзень:
У іх з вайны асколкамі пасечана
Карэнне, як здароўе у людзей...

І будуць падаць, нечакана падаць
У маладняк са стукам лёгкіх мачт,
І цяжка разбіваць былую радасць,
І рассыпаць па лесе дзіўны плач.



Усё, што недаверу навучыла,
Мой рассякае з тых часін тапор,—
Калі ў чырвонай хустачцы дзяўчына
Стаіць, як чырвоны семафор.

Дурніца любая!
Я ўсё табе прабачу:
Гляджу і бачу, хоць мяне зарэж! —
Ты апяклася рана на гарачым,
Таму, напэўна, і на лёс ты дзьмеш.

А я не цалаваў сваёй.
Не трэба.
У кожнай думцы,
Позірку маім
Яна была высокая, як неба,
І ўсё ж была туманная, як дым...

Дзяўчынка любая!
Давай падлюг забудзем,
Нырнуўшы у няздзейсненыя сны...
І іх ніколі ўспамінаць не будзем —
Няхай успамінаюць нас яны.

## ГРАЧАНКА

Над кармою пракрычала чайка.
За яе палётам я сачу,
Хочучы, танклявая грачанка,
Ад яе імя тваё пачуць.

А мяне, лятаючы над полем
І у трыснягах каля ракі,
Чайкі называюць Анатолем,
А-на-толь — высвістваюць шпакі.

І бяжыць танклявая па сходнях,
І са мной яна ужо на «ты»:
— Анатоль па-грэчаску —
усходні...
А на ўсходзе — рускія браты...

Анатоль...
А слоў запасу мала...
Голас сумнай просьбаю звініць,
Так, як продкі нашы ад навалы,
Ад галечы сёння засланіць.

Б'ецца ў берагі сівое мора.
Па гудку бягу на параход.
Ціхі — на сваё нямое гора,
Грозны на яе — на сотні год.



Усё прайшло, усё забыта:
І гэты двор, і гэты дом,
І чарка, што была распіта
За шумным восеньскім сталом.

І праз сяло ля сумнай хаты,
Ля амбразур акон пустых
Іду спакойны, нежанаты,
І ўсё ж, нібы не халасты.

Не вечна роўная дарожка.
І толькі з-пад старой страхі
Крычыць знаёмая мне кошка:
Ці ты сляпы? Ці ты глухі?

А ўсё прайшло. Усё забыта.
І гэты двор, і гэты дом,
І чарка, што была распіта
За шумным восеньскім сталом.

* * *

На рэях дрэў пагойдваецца вецце,
Як ветразі, шуміць і тут і там,
І судна гай нагадвае, дзе вецер —
Суровы і крыклівы капітан.

* * *

Травы іван-чай-ды-мар'я.
І глядзяць з-пад аблакоў павек
Вочы — два маленькія паўшар'і.
Там які прапісан чалавек?

Я маўчу. Нічога не пытаю,
Знаю, што і я,
як ты сама,
Чалавека добрага чакаю,
А яго няма ўсё і няма.



Купкі рэдкія чаратоў
Штосьці шамкаюць, як бабулі,
А вада між худых кустоў,
Як заношаныя кашулі.

На балота прыходзіць касец
Са сваёю касой непадкупнай
І са свістам зразае сівец
З круглых, быццам галовы, купін.

І ахвота падбегчы тады,
Закрычаць мне яму ахвота:
— Паважай сівізну, малады! —
Пасівела ад гора балота!..

Купкі рэдкія чаратоў
Штосьці шамкаюць, як бабулі,
А вада між худых кустоў,
Як заношаныя кашулі.



Галасісты певень ранак будзіць.
Лёд — туманам сінім на зямлі.
Угары нябачныя вярблюды
Бурдзюкі хмурынак павязлі.

Ды адзін бурдзюк, відаць, працёрлі,
І ў марозна-сінюю сухмень
Заіскрыўся беласнежна цёплы
І пушысты тонянькі струмень.

Паяснела шэрань далячыняў,
І відаць, як поле за ракой
Ротам зелянеючай лашчыны
П'е густога снегу малако.

* * *

Відаць, прырода многа не забыла...
І цемры шмат, і шмат разоў яшчэ
Дзень малады
на пласе небасхілу
Сякерай промня
голаў адсячэ.

* * *

Алешына старэчая, крывая
Стройную дачушку прыкрывала.
Вырасла дачка, пра ўсё забыла,
Клёна маладога палюбіла.
І стаіць алешына, сумуе,
А дачка пра гэты сум не чуе...



А ўсё ж і ў нас бывае часта,
Як было і ў даўнія гады —
Бачу: плача тоненькае шчасце
У суровых лапішчах бяды.

І пытае позірк запытальны
У вялікіх і гарачых дзён:
«Дзе ён, дзе ён, круг выратавальны,
Можа, намі выдуманы ён?»

Працягнула тоненькія рукі,
Просіць кожнай кропляю крыві:
«Ну вазьміце, людзі, на парукі
Чэснай і сапраўднейшай любві...»

## ТАВАРЫШ НУЛЬ

Вось Нуль. Ніхто не пераіначыць —
Вядома гэтым і другім,
Што Нуль у нас нямнога значыць,
А гэта так, ды не зусім.

Ён сам пусты. Таму не дзіўна,
Што хітра Нуль бярэ разгон.
Вось падкаціўся да адзінкі
І ўжо не Нуль — а дзесяць ён.

Цяпер ён многа, многа значыць.
Ды гэта ўжо яму нішто,
Бо ён здаля дзесятку бачыць.
Глядзіш — не дзесяць ён, а сто...

Вось Нуль. Ніхто не перайначыць —
Вядома гэтым і другім,
Што Нуль у нас нямнога значыць,
А гэта так, ды не зусім.



Лютуюць ашалела камары,
А варухнуць рукою неахвота.
Дзве зоркі, як більярдныя шары,
Скаціліся у лузу гарызонта.

Напэўна, гэтак скоцяцца усе,
Успыхнуўшы на нейкую хвіліну,
Падобна чыстай ранішняй расе,
Што коціцца з хіснуўшайся травіны...

Скаціліся...
Не бачна іх нідзе...
Ды толькі да зямлі, відаць, і сёння
Святло іх непагаснае ідзе
Праз вакуум маўклівага бяздоння.

Яно прарвецца ў горад і сяло,
І вы слязу з вачэй змахніце ціха,
Адчуўшы на сваёй шчацэ святло
Даўно перагарэўшага свяціла.

## ГУСЛІ

Загагакалі радасна гусі
Там, дзе сінія паплавы.
Жураўліныя трубы і гуслі
Адгукнуліся з-пад сінявы.

Як выгнаннік, які вярнуўся
Пасля ростані доўгай дамоў,
Пелі трубы і пелі гуслі
Аб усім, аб усім без слоў.

Не, такога б не чуць ніколі,
Не, такога б нідзе не стрэць! —
Прагрымеў над лугам і полем,
Быццам нечая помста, стрэл.

І ляціць — не трымаюць крылы...
І здзіўляецца: «Я ў крыві?..»
Мне здаецца, зямлю накрылі
Два чырвоных птушыных
крылы...

Загагакалі спуджана гусі
І схаваліся за паплавы,
І журбой зазвінелі гуслі,
І нырнулі у вір сінявы.



Па звонкіх струнах капяжоў
Правёў смычком маланкі
Аркестр дрыготкіх міражоў
Перада мною ранкам.

І засінелася вада
Уяўная...
Дарэчы
Усё ж галоўная бяда,
Што ты — міраж мой вечны.

І ні маланак, ні дажджоў,
Ні радасці, ні плачу,
І невядомасць міражоў
Уперадзе маячыць.



Утапталі травы і мох,
Нават вуліцы вёсак топчуць.
Камяні, як каменны нарог...
Губы — трэшчыны іх — рагочуць.

Кажуць: прыйдзецца нас
палюбіць —
Ніякою не возьмеце сілай,
Аб каменныя нашы ілбы
Пашчапаюцца вашы зубілы...

Пахвалу іх падслухаў гром,
Сплёў з маланак доўгую пугу
І пачаў выганяць тым кнутом
Камяні і з палёў, і з лугу.



Гарады ў час войнаў узрываюць,
Толькі кажуць людзі:
праз гады
Там з руін упарта вырастаюць
Новыя
жывыя гарады.

Варварам яшчэ цяпер ківаюць
Пальцамі даўгімі капяжы.
Нехта з нас руіны адчувае
У грудзях замест былой душы.

І Сцяпаны розныя, і Галі,
Што ўздымалі вернай дружбы сцяг,
Спапялялі хітра і ўзрывалі
Горад маладога пачуцця.

Узрываюць, а ці забываюць?
А ў грудзях, скажыце, праз гады
Вырастаюць ці не вырастаюць
Новыя святыя гарады?



Табе званілі капяжы
З цямна і давідна,
Што мне не жыць,
Што мне не жыць!
Што ты ў мяне адна.

А мне сцвярджалі міражы
Паўтысячы гадзін:
«Табе не жыць,
Табе не жыць!»
Што я ў цябе адзін!

Што да чаго? — Не знаю я.
Хаджу, як сам не свой.
І — калі ты усё ж зямля,
Я — неба над зямлёй!



На зямлі вялікае зацішша
І не бачна атамных грыбоў.
І паэты зноў пра шчасце пішуць
І, канешне, пішуць пра любоў.

Я чытаў, чытаў іх і падумаў:
А чаму і сёння дзе-нідзе
Пазіраюць з-за фіранак суму
Вочы мной убачаных людзей?

Я падумаў: а якая тайна,
Што, ужо не лічачы удоў,
Ты адна спяшаешся на танцы
І адна вяртаешся дамоў?

З косамі, і выйшла ростам...
Калі б быў я самы важны бог,
То не палюбіць такую проста
Я усё ж, напэўна бы, не змог!

І калі дамоў прыходжу з клуба,
Я не сплю да самае зары —
Думаю пра смешнага Калумба,
Што любоў дагэтуль не адкрыў!



З лесу, з бору,
Між палян-прараталін,
Паміж лысых адпацелых пнёў
Зноў вясна паспешна разматала
Серабрысты кабель ручаёў.

Набрыняюць рыжыя лагчыны,
Аж сумёт спалохана прысеў.
К сонцу пацягнуліся ляшчыны,
Мускулы напружыўшы усе.

А на ўзлессі цэлы дзень заўзята
З верхавіны гонкае сасны
Грак зіме дыктуе ультыматум,
Як парламенцёр вясны...



А хвоі ўсе у задуменні нейкім —
Мароз ідзе ў святочным кажуху.
Яны ігліцаў апусцілі вейкі —
Ахвота спадабацца жаніху.
Глядзіць мароз і ледзьве не знямее:
Якія тут прыгожыя усе!

Але спадзе з нявест фаты завея,
І вецер пудру снегу абтрасе,
І прыгажосці як і не бывала,
І сарамлівасць як зняло рукой!
А тая хвойка, што ўбаку стаяла,
Ўявілася прыгожаю такой,

Што ён, няўпэўнены і смешны,
Каб любая не мерзла да вясны,
Накінуў на яе кажух свой снежны
І запрасіў у дом свой ледзяны.



Што пад гэтым замком маўчання —
Я магу па вачах прачытаць
Як трывогу твайго адчаю:
«Толькі змоўчаць. Не закрычаць!»

Не люляла яшчэ, не насіла,
А калі да сябе прыгарнеш,
Што ты скажаш пра бацьку сыну,
Можа, тое, што паў на вайне?

Гэта мроіцца, як збавенне,
Урываецца ў многія сны...
І не хочацца год ваенных,
І ахвота вайны, вайны...

## ДЗВЕ БЯРОЗЫ

Ты бываеш ласкавай і грознай —
Рознай.
Пастаянства не хочаш
Ніяк прызнаваць.
Ты дазволь мне
Любіць цябе так, як Бярозу,
І маленькай Бярозай
Дазволь называць.

Разбіваеш ля рэчкі ты
Сена пракосы,
Паплывеш —
І паклясціся кожны гатоў,
Што Бяроза ўплятае
Маленькія косы
У Вялікія Косы
Далёкіх плытоў.

## КАЛЯРОВЫЯ СНЫ

Прыязджаю у край наш лясны
І ў бабулі старой начую.
І не толькі звычайныя сны —
Каляровыя сны гляджу я.

Чорны колер — бацькаў пагон,
Кроў людская — гарачая чырвань,
Маладая зара — агонь,
Спапяліўшы маю Айчыну.

Пакідаю свой край лясны.
Заначую у чыстым полі.
Ды ад вас, каляровыя сны,
Не магу уцячы ніколі.



Прывітанне студзеню і маю,
Салаўю і хмураму сычу.
Што хачу я сам? — яшчэ не знаю,
Ды і знаць, напэўна, не хачу.

Каб я знаў, то не хадзіла б кругам
Галава, і на вяку сваім
Недруг не здаваўся б лепшым другам,
А таварыш — недругам маім.

І з акна — адзінае байніцы —
Не глядзеў бы і не моршчыў лоб,
Як стаіць дзяўчынка ля бальніцы,
І былое ўсё не ажыло б.

Ажыло яно з магутнай сілай,
Ажыло яно на многа год,
Летнім сонцам спеюць апельсіны,
Апельсіны — залацісты мёд.

Сам я апельсінавым раблюся,
І, здаецца мне, да той, адной,
Я на губы юныя качуся
Апельсінам спелым праз вакно.



На кантрабасах дрэў, на флейтах завірухі
Такі канцэрт наладзілі вятры,
Што нават снег, каб рэквіем паслухаць,
Як белы слуп, насіўся угары.

Па чым той рэквіем — вядома ветру.
Снег потым падаў лёгка, як імжа.
Здалося: непадпісаным канвертам
Ляжала поле. Цэлы свет ляжаў!

Каб бачыць, часам непатрэбны вочы.
Я адчуваю цені — галасы
Людзей, што падпісаць упарта хочуць
На ім зусім два розных адрасы.



Хоць яблык падае ля яблынь
У шоўк травы, у рыжы мох,
Упаў, напэўна, ён у яму,
Я адшукаць яго не змог.

Яго, відаць, засыпе лісце,
Пясок сыпучы замяце,
А ён, як брат яго калісьці,
На гэты свет не прарасце.

А тут з трывогаю маўклівай
І з болем, што не загаіць,
Стаіць, апёршыся на слівы,
Сівая яблыня стаіць...

Вам, як і ёй, о, нашы мамы,
Не знаць, куды мы упадзём,
На пух зямлі ці ў горла ямы,
Загінем мы ці прарасцём.

* * *

Я варажбу ў дзяцінстве прыгадаю,
Калі гляджу ў задумлівы Сусвет.
Здаецца мне: па небе раскідалі
Замест зорак — тысячу манет.

А вось ляціць, ляціць адна... Упала...
А мне здалося — я глядзеў здалёк,—
Што хтосьці невядомы іх ссыпае
У чорны велізарнейшы мяшок.

А вось другая...
У заклад я б'юся,
Што іх бы не ссыпаў я пакрысе.
Ужо калі на неба узбяруся,
То сабяру і прынясу усе.

Я так зраблю затым. Цяпер не трэба:
Як добра галаву ў Сусвет узняць
І слухаць, як звініць начное неба
І зоркі залацістыя звіняць.

* * *

Ні жаўранка у небе не відаць.
Дарогу перамалваюць вазы.
Трымціць, трымціць азёрная вада,
Як крылы сінявокай стракозы.

* * *

Грымі, грымі, зялёна-сіні вал!
Каб у каханні не было кур'ёзу,
Любоў я з бурным морам параўнаў,
Дзе хвалі сутыкаюцца сур'ёзна.

Тут радасць стрэч і развітанняў боль
І крык душы, якую ты пакінуў...
На берагах ляжыць марская соль,
Як сівізна трывожных успамінаў.



Спачатку грымнула нясмела.
Спачатку рокат плыў здаля.
Затым уладна загрымела —
Аж скаланулася зямля.

І вось праз гром, і шум, і грукат
Напятым слыхам я лаўлю,
Як падымаюць кроплі стукат —
Упарта просяцца ў зямлю.

І пасля гэтакага госця
Заўсёды ў летнюю сухмень
Шуміць пшаніца весялосцю,
Пяшчотай дыхае ячмень.



Кожнай раніцай на світанні
Не паспееш падняць галаву,
Як прачнуцца твае пытанні
І сумненні твае ажывуць.

Выйдзеш з імі. Стаіш на ганку.
Першы промень — іскрыстая цень.
Свет, абманлівы, як цыганка,
Пра далёкае шчасце пляце.



Ізноў маўклівыя пакуты,
Што я усё не так раблю.
Што я жыву не па статуту,
Не па параграфах люблю.

А вы, уяўныя чысцюлі,
З усмешкай мяккаю, як шоўк,
Вы за любоў пайшлі б пад кулі,
Як Пушкін некалі пайшоў?

І вы ўсе пуста дарагія
Ізноўку будзеце правы,
Сказаўшы, што часы другія?..
О не! Другія проста вы!



Алька, забывай пра сон і жарты,
Па палаце нашай не кружы.
Скажам мы табе любую дату,
А ты дзень дакладна адкажы.

Скажа Алька дзень любога года,
Будучы прыпомніць і стары.
Галавою ёй ківаем згодна,
Зверыўшыся па календары.

Эх ты, электронная машына,
Веку электроннага дзіця!
Радавала ўсіх ты і смяшыла,
А самой было не да жыцця.

Можа, нарадзілася ты рана,
І таму табе, хоць будзеш жыць,
У халаце век наканавана
Па палаце здзіўлена кружыць.



Шчаслівым — шчасце кожны дзень.
Шчаслівыя не каюцца.
А тут пісьмо ідзе, ідзе —
Ніяк не дачакаешся.

Такая скруха, хоць збяжы.
Ці пошту цягнуць воламі?
Хоць сам сабе пісьмо пішы,
Чытай бадзёрым голасам!



Таварыш мой!
Парою дзіўна,
Што, перакрэсліўшы спакой,
Тут праўда строгая вадзіла
Маёю вольнаю рукой.

І ты прабач мне і за тое,
Што, хоць спяшаючы пісаў,
Я ўсё ж не змог паспець за ёю
І шмат чаго прыдумаў сам.



Чаго няма на лаўках новых!
І плача ранак і пяе.
У жоўтым кошыку лазовым
Бабулька пеўня прадае.

І вось сюды, дзе п'юць і курацъ
І адплываюць без вясла,
Бялявых і крыклівых курыц
Пад пахай цётка прынясла.

Патаргаваў іх дзядзька нейкі,
А вочы птушак — божа мой! —
Былі, як медныя капейкі,
Што недадалі цётцы той.

* * *

Крохкі снег да гарызонту мёртвы.
Лес такі, што здасца вам на міг,
Быццам ведзьмы утыркнулі мётлы
І зусім забыліся на іх.

* * *

Пабляклі вочы.
                    Анямелі плечы,
А ўнуку далі новыя відны...
І думаеш міжволі,
                    што у вечнасць
Усе мы з вамі — мост перакідны.

## МАНАЛОГ КАЛІТЫ

— Я — уваскрэслы!
Я — Каліта!
Я мілую і суджу!
Не хочаце слухаць?
Ах, калі так,
То пра сваё я
Жыццё раскажу.

Пра што я хацеў?
Ага, у той час,
Калі быў жывым я,
На край, што люблю,
Напала татарская саранча,
Гатовая згрызці зямлю.

Адны з нас паскідвалі шапкі далоў,
Галовы ўцягнулі у плечы.
Другія сваіх не знасілі галоў
У жорсткай упартай сечы.

Прабач мне, дзядуля сівы як лунь,—
Далёка я ўперад бачыў,
Калі са свінчаткай цяжкі бізун
Апошнюю медзь выкалачваў.
Яшчэ нам далёка было да сеч,
А ўжо пад Масквою і Шкловам
На тыя капейкі кавалі меч
Пад назваю «Кулікова».

Далёка ўсё гэта...
Ды я вас прашу —
Давайце заключым згоду:
Не адпявайце маю душу,
Яшчэ я патрэбен народу.



Марозы грукнуць на узлеску.
Завеі вуліцай бягуць,
А сінявокія пралескі
Стаяць і стынуць у снягу.
Затым ізноў ручай запеніць,
І снег страсе на дол сасна.
Арганізуе наступленне
Усімі сіламі вясна.
І хмара да зямлі прыляжа,
Для страху грукне раз-другі,
Пасля вясёлкаю, як сажнем,
Наўсцяж замерае снягі...



Паляны пустыя — тайга без зубоў:
Смерць прыўзнімала забрала —
На целагрэйках святая любоў
Сінім кастром дагарала.

Покуль заціх самы ціхі гук,—
Як дарагі падарунак,
Каханы сарваў з астываючых губ
Смерць для сябе — пацалунак.

Хто ён — не ведаеш ты і сама.
Знаю легенду і я гэту, толькі
Белым пясцом распластана зіма
І ні пісьма, ні паштоўкі.

Чуб растрывожаны я цераблю,
Пылаю, як спелая сліва:
Можа, цябе занадта люблю,
Можа, занадта раўнівы?

Можа, я тых, неспакойных, унук,
Якому наканавана
Так хвалявацца за кожны твой гук,
Як за адкрытую рану?..



Падлодка не ўсплыла:
Ёй гэта не пад сілу.
А бесказыркі белыя ўсплылі.
Здалося мне:
На вадзяной магіле
Рамонкі зацвілі.



«Іспанія ў крыві палае сцягам,
Яе трасе гарачка злых гармат.
Хай помніць толькі: дзе не ўзяць адвагай,
Там хітрасцю заўсёды можна браць».

Відаць, запомніў ён. Калі туман кашлаты
Спаўзаў, нібыта коўдра, з сініх гор,
Напэўна, праглядзела штосьці варта —
У горадзе з'явіўся матадор.

З'явіўся, і ў народзе скора —
Уголас дома, шэптам у гасцях
Казалі, што хусцінка ў матадора
Нагадвае усім чырвоны сцяг...



Сорак дзён —
На усход.
То ішак, то машына.
Сорак дзён —
На усход.
То у стэп, то ў тайгу.
Як сабака,
З якога сарвалі ашыйнік,
Ад цябе
І ад роднага дома бягу...

І калі ўсё ж вярнуся,
Ад ветру гарачы,
З той верай вялікай,
Якой не стае,
А калі ўсё ж прыеду,
Цябе толькі ўбачу —
Як падкошаны
Рухну у ногі твае...

* * *

Героі, як усе мы, нараджаюцца,
Не думаюць наседжваць гемароі.
Бывае, што яны не вызначаюцца,
Героі ад калыскі — не героі.

...Я веру ўсім вам,
славы не хапаючым,
Дапытлівым,
разумным,
строгім.
Вы не за тытулы
зямлю капаеце
І ходзіце ў далёкія дарогі.

Няхай няма ў вас звання ганаровага,
Няхай яшчэ медаляў не ўручалі —
Не параўнаю з тымі вас героямі,
Што робяць дзеля славы і медаляў.



Дзень такі, што ад спякоты
Можа выкіпець вада.
Вентылятар верталёта
Прахалодаю абдаў.

Проста крыўдна! Што за жарты:
Лезу ў цень пад куст густы,
Хоць зямля спрадвек распята
Тут на пласе мерзлаты.

Дзіўна, дзіўна!
Нават смешна,
Што усё — наадварот.
Што на дне сустрэчы першай
Недзе будзе вечны лёд.

Будзем ехаць. Будзем крочыць.
Будуць цемры і агні.
Будуць сонечныя ночы
І чарней, як сажа, дні!

## ХАЛОДНАЕ І ЦЁПЛАЕ ЦЯЧЭННЕ

Калі выходзіў «Крэчат» на вучэнне
За бераг, за далёкі, за другі —
Халоднае і цёплае цячэнне,
Як і раней, званіла ў берагі.

Як і раней, з бяроз худых і ніцых
Паціху ападала завязь рос.
Як і раней, на валуне-граніцы
Мох мудрай барадою трос.

Як і раней, свінцовае, цяжкое
Ляжала неба на тугой вадзе.
Вада ж была свінцоваю такою —
Дзе неба, дзе вада — не разглядзець.

А ў цябе ўсяму сваё значэнне
І тлумачэнне усяму сваё.
Халоднае палярнае цячэнне
Абмыла сэрца добрае тваё.

Пульс акіяна — незвычайным сніўся.
Упалі з веек завушніцы слёз,
На мху, што рос на валуне-граніцы,
Марошкай узышлі сузор'і рос.

І ўсё? І ўсё. Вучэнне ёсць вучэнне.
Сустрэча недзе ўперадзе яшчэ.
І вось у сэрцы цёплае цячэнне
Гарачымі пасатамі цячэ.

А я запомню і зімой і летам,
Куды б мяне мой ні закінуў лёс,
Навечна тое, што цячэнне гэта
Сагрэта цеплынёй жаночых слёз.



Дуйка — ветраная Дунька —
Узнімае тарарам.
І пяе і скача дуйка
Сёння тут, а заўтра там.

Не дае спакою рэкам,
Растрапала косы хвой,
Лезе ў вочы чалавеку
Неадступнаю асой.

Толькі позна. Позна, Дунька!
І абмяклая, як снег,
Плача ветраная дуйка
Капяжамі звонкіх стрэх.



Кожны дзень я зусім другі,
Кожны дзень не такі, як учора,
Пазбаўляюся ад тугі
І трапляю у нерат гора.

У мяне ўсё туды-сюды,
Толькі я на сябе забываю,
Бо да кожнай чужой бяды
І да крыўды я справу маю.

Нечы страх давядзецца сустрэць,
Гэта пэўна і не здаецца,
Што трывога любая, як стрэл,
Мне у сэрцы заўжды аддаецца.

Кожны дзень я зусім другі,
Кожны дзень не такі, як учора,
Каб не ведалі людзі тугі,
Каб не зналі бяды і гора.



Уладанняў вятры не падзеляць —
Хапаюць дубы за макушкі.
Чубы у гаёў парадзелі —
Лісты на шляхах, як вяснушкі.

Не ўзважаюць хваль азярыны —
Мароз сваю працу любіць.
Бялеюцца, як за вітрынай,
Сярэбраных плотак люстры.

А глянеш у сіняе неба:
Апошнія птушкі бясконца
На поўдзень зацягваюць невад,
Каб вылавіць знікшае сонца...

## ТЫ

Трывожыць ноч вясёлы пошум лесу
І першы гук бадзягі-авадня.
І пад густой туманнаю завесай
Яна ўцякае ад рэнтгену дня.

І хоць даўно не быў я каля лесу,
Яго прыпомніў і туман густы.
Сягоння за падобнаю завесай
Мне робішся нябачнаю і ты.

Ды верыцца, што прыйдзе дзень гарачы
І спапяліць уяўную сцяну,
І не адзін, а многія убачаць
Прыгнутую няшчырасці спіну.

## ПРА ЗАЙЗДРАСЦЬ

О што мне ні кажыце,
знаеце —
Ад гэтага пазбавіцца не проста:
Ці добрай, ці нядобрай зайздрасцю
Мы нечаму і некаму зайздросцім.
Адны таму,
хто па службовай лесвіцы
Узняўся высака
і вышай меціцца.
Другія радасці,
якая вернецца,
І нават тым,
хто жонку мае верную.
Усё міне.
Не будзе чорнай зайздрасці.
Змагайцеся.
З самім сабой змагайцеся!
Зайздросцьце сіняку і юнаку,
Які за праўду з сілы выбіваецца,
Яго збіваюць з ног —
ён падымаецца,
Трымаючы ўгары па кулаку.



Відаць, карміліся мякінаю
(Жылі другія, як багі!)
Дзяды, што ў спадчыну пакінулі
Свае няўдачы і даўгі.

Яны ў жыцці былі, як вывіхі.
Былі, як пляма на жыцці.
Нашчадку ў твар апошнім выдыхам
Хрыпела просьба:
— Заплаці...

І, як ліянамі спавітыя
Вось гэтым словам «заплаці»,
Плацілі і за казкі хітрыя,
І за няпраўду у жыцці...

А хто за нас затым расплаціцца,
Аддасць усё, усё як ёсць:
За ўсе грахі, што сёння водзяцца,
За дабрату і нашу злосць?

І як жа хітра ўсё здараецца,
І зразумець я не магу:
Унук яшчэ не нараджаецца,
А за мяне ужо ў даўгу.



Сястра мая!
Ляжаць снягі, як мора.
Ні ехаць, ні ісці...
Давай з табой
Хоць у пісьме спакойна пагаворым
Пра сум,
Пра радасць,
Пра любоў.

Я не чытаю лекцый і натацый.
У іх я, прызнаюся, слабават.
Але мне сёння ўжо не дзевятнаццаць,
І я не друг і не жаніх, а брат.

Любуючыся дзікай прыгажосцю,
Хоць я табе пішу, усё ж, аднак,
Я думаю цяпер з наіўнай злосцю
Аб той прыгожай, што цяпер адна.

Чаму адна? Чаму яна без друга?
Як ні спрачайся тут, ні гавары —
Спачатку нейкі вецер любіць флюгер,
А потым любіць многія вятры.

Яна, як флюгер. Хоць ужо не тая.
Яна жыве, як быццам не жыве...
А ты яшчэ такая маладая,
І столькі маладога ў галаве,

Што хочацца прызнацца, што нялёгка
Развітвацца з табою мне цяпер,
Але табе — садзіцца за урокі,
А мне — пісаць патрыятычны верш.

## ВЯСЁЛАЯ БАЛАДА

Усе,
Каму пакінуў розум
У галаве хоць нейкі знак,
Павінны знаць,
Што я — Марозаў,
Марозаў Сава з касты —
Знаць!
Я не згушчу нікольні фарбы,
Што
з грозным воклічам — рабуй! —
Пушчу у трубы ўласных фабрык
Расію-матухну ў трубу!
Я не шкадую на літроўку.
За сотню —
Врубеля куплю.
Дам песімісту
на вяроўку
І на паўгода
сам зап'ю.
Дракон,
Які у сэрцы дрэмле,
Хапае часта за руку.
Здаецца,
Я сяджу на дрэве,
Якое сам жа і сяку.
А мне была б не трэба слава,
Заводы,
грошы
і любоў,
Калі б не быў заняты я, Сава,
З самім сабою барацьбой.
І нехта белы свет пакіне.
Шырэй Пуцілаўскіх варот,

За сэрца ўзяўшыся,
                                        разіне
Шырокі свой
                              і прагны рот,
Калі —
Без хітрых рэзалюцый —
Рукой цяжкою, як абух,
Аддаўшы ўсё для рэвалюцый,
Сам
     вылятае
                              у трубу!

## СТРАХ

Урач не верыў:
Дзіва для навукі,
Яшчэ пытанне гэта не ўсплыло —
Чаму расказваў хворы пра малюнкі,
Хоць перад ім малюнкаў не было.
Чаму у цішыні ён
Апаўночы —
Аж уставалі дыбам валасы —
Казаў,
Што нехта ля яго рагоча...
Тут цішыня,
А ён — пра галасы.
Каму ён пасылаў
Свае праклёны?
Каму жадаў нябачанага зла?
Нічога не расказвалі імёны,
Якія у гарачцы ён назваў.
Сцяпаны, Галі...
Іх было нямала...
Губляўся у здагадках я,
Хмурнеў...
Ды ты пісьмо
Аднойчы мне прыслала,
І зразумеў
І рэўнасць я, і гнеў...
Здаецца,
Дыхалі адным паветрам,
Здаецца,
Цалаваў твае сляды.
...У полі снег,
Як чыстыя канверты.
І вечна —
Халады і халады.

Іду у бель
Бальнічнае палаты,
І, можа,
Нават па маёй віне
Я для сябе
І днём і ноччу ўпарта
Малюнкі праяўляю на сцяне.
Так,
Мне сцяна цяпер,
Як фотаплёнка,
Дзе ў цішыні
Аднекуль з глыбіні
Твае абрысы
Вырастаюць тонка,
Што разаб'юцца —
Толькі закрані.
Я не чапаю.
Гэта ўсё дарэмна.
Я не ганю.
Хай свецяцца,
Няхай!
Не знаю,
Што у сэрцы дрэмле:
Ці белы студзень,
Ці кіпучы май.
І я маўчу.
І ўбок адводжу вочы.
Малюнак, заўважаю, пацямнеў.
І ты на ім.
І ты пайсці не хочаш —
Ты на другой з'яўляешся сцяне.
О божа мой!
За што такія мукі?
Сыдзі з вачэй!
На міг хоць адпусці!
Чаму мяне не возьмуць на парукі?

Бяруць жа на парукі у жыцці...
Дзе той мудрэц —
Я стану на калені —
І словы перайначыць папрашу...
Ах, на парукі не бяруць сумленне...
І нельга адбяліць сваю душу...
І я крычу.
І я не маю сілы.
Хаджу глухі —
Ці лета, ці вясна...
Але сцяна са мной загаварыла,
І ласкава сказала мне сцяна:
«Ты памаўчы.
Ты век увесь калючы.
Ты сам Яе
Малюеш на сцяне...
Мне за цябе, ты ведаеш,
Балюча.
Бяры кірку
І разбуры мяне...»
Яшчэ такія мне
Сказала словы,
Што,
Каб стрымацца,
Не хапіла сіл,
І я убок
Адкінуў свой аловак,
Снатворнага лякарства папрасіў.

## НОВЫ СВЕТ

Закіпае на плошчах,
Як кацёл, Петраград.
Засядае апошні
Нерабочы урад.

Высылае дазоры
Перакулены трон,
Як вінтоўка затворам
Дасылае патрон.

Ды не ведае вораг,
Што ўжо сіл не збярэ,
Што спрасованы порах
Ад крыві адсырэў.

А куды ні зірні ты —
З паркаў,
Вуліц,
Прысад,
Нібы шнур дынамітны,—
За атрадам атрад.

Гнілаватым арэхам
Трэсне ён —
цёмны свет —
І пакоціцца рэха
Да нязнаных планет.

## ПАРТРЭТЫ

Ах,
Як купляюць
Леніна партрэты!
А я іду,
І ўсё ў мяне кіпіць,
Што могуць
І рвачы і прайдзісветы
Так, як і мы,
Яго партрэт купіць.

Павесяць.
І працерці не забудуць,
Каб з-за іх спін
Убачыць мы змаглі
Таго,
Куды ківаць штодзённа будуць,
Хоць ім самім — як небу
Да зямлі.

І я іду да Леніна
У хату
Так, як дзіця
Да бацькі да свайго
З малою праўдай той,
Што вінавата
Перад Вялікай Праўдаю
Яго.



І каяўся, і біў у грудзі,
І сам сабе даваў зарок,
Але ў таварышах і ў людзях
Я памыляўся, як знарок.

І толькі я сыходзіў з ганка,
Каб бегчы мне ад іх бягом,
Як да мяне ішла аўчарка —
Сабака ворага майго.

Яна, якую звалі Клава,
Недатыкальная чмура
На плаху рук мне морду клала,
Як галаву гаспадара...

І ноч сплывала. Пахла дымам,
Далёкім ветрам і крывёй.
І прачыналася Радзіма
З тугой і радасцю сваёй.



Свой закон. Свае старыя звычкі.
Галава пасаджана грубей,
Чым у іншых птушак. Невялічкі
Рыжы шэрахвосты верабей

Раніцай зірне з галінкі ў вочы,
У акно пастукае: тук-тук...
І, здаецца, што праверыць хоча
Чалавека ён на дабрату.

Што ж, праверка лішняя не шкодзіць.
Я яму зярнят сыпну на брук.
Дзіўна ўсё ж, чаму не падыходзіць,
Не бярэ, як голуб, зерне з рук?

Хітры і малы камочак пер'я,
І, напэўна, прага жыць і жыць
Умясцілі столькі недавер'я,
Колькі ў цэлым свеце не ўмясціць!



Распадаецца век на імгненні,
Як маланка згараюць яны.
Дажываюць свой час пакаленні
Ад мінулай да новай вайны.

Ты прыгорбіш маўклівыя плечы,
Не захочаш нічога забыць,
І чамусьці усё, што не вечна,
Будзеш вечнай любоўю любіць.



Ёсць камень. Надпіс не забудзеш.
І сведчыць ён з далёкіх дзён:
«Налева пойдзеш — смерць здабудзеш,
Направа — трапіш у палон».

І я, падумаўшы свядома,
І між магіл, і між крыжоў
Рашыў пайсці у невядомасць
І у Паэзію пайшоў.

## ЯБЛЫНЯ

І я прыгледзіўся знянацку
Сярод вясковых розных дрэў,
Калі з нявестай сына бацька
Ля хаты яблыньку садзіў.

Паехаў сын. Павёз нявесту.
І ўжо, здаецца, ўсё прасцей,
І сэрца бацькава на месцы:
Спакойна яблынька расце.

І раптам, быццам на прычасці,
Ці проста так — усё адно —
Прыйшло пісьмо з разбітым шчасцем,
Што, моў, разведзены даўно.

І, навастрыўшы гнеў балючы
І крыўду, што нутро пячэ,
Стары у сад ідзе рашуча,
Рашуча яблыню сячэ.

* * *

Спынісь: ў позірку суровым
Адкрый пры грэшнай прастаце
Усё, што цвёрда, што часова,
Што ты хацеў, што не хацеў.

І тонкім слыхам сябелюбца,
Як боль і радасць, разгадай
Той мёртвы смех, якім смяюцца,
Калі ахвота зарыдаць.

* * *

І у ракі свае законы:
Бяжыць, спяшаецца удаль,
То затупоча, быццам коні,
То разгайдае шалі хваль.

На невядомасць мае права,
І як яно тут ні кажы,
Каб знаў усё, то нецікава
Было б тады на свеце жыць.

* * *

Злева — возера, а справа —
Лес і ў лесе край бярлог.
Я хачу такую з'яву —
Сетку вуліц і дарог.

А калі ўсё стане явай,
Захачу, каб бачыць мог:
Злева — возера, а справа —
Лес і ў лесе край бярлог.

* * *

Той чалавек, відаць, не дурань,
Калі, забыўшы запавет,
Ён свет такім для нас прыдумаў,
Каб ён падобным быў на свет.

І там, ля пліт мемарыяльных,
Пацвердзіць другава рука,
Што мы нагамі у рэальным,
А галавой у аблаках.



Чым жылі — нікому не вядома.
На расправу гаспадар круты.
І крычалі ярасна ля дома
Дзікія бяздомныя каты.

Можа, я прымаў бы з лёгкім жартам
Стук разлютаванага кнута,
Каб у той кампаніі калматай
Не было суседскага ката.

Колеру падвала — цёмна-шэры —
Да акна, дзе жыў раней і спаў,
Падыходзіў ён і па кватэры
Сонечныя іскры рассыпаў.

І у цішыні, святлом размытай,
Пра сябе падумаў чалавек:
«Колькі многа добрага набыта,
Колькі намі страчана навек!»

## МАЯ ЗЯМЛЯ

Каля Кішчыц і Ордаці
Сінім дымам рака.
Каля Кішчыц і Ордаці
Луг, як крылы шпака.

І не толькі пад травамі —
Там, дзе лес і жыты,
Раптам выблісне траўрам
Колер чорны, густы.

За зямлю столькі падала
Мне і ўсім дарагіх,
Што яна ў знак іх памяці
Носіць колер тугі.



Даўно на станцыі Барысаў
Тваёй дарогаю, перон,
Плылі: святочны чэрап лысы
І капялюш з чужым пяром.

І мне цяпер яшчэ здаецца,
Што там, між паркаў і дамоў,
Яно, як ангел, адарвецца
І знікне ў небе, як дымок.



Дзяды, бабулі паміраюць.
Вязуць іх ціха... Я ж, аднак,
Крычу, свішчу і заганяю
Да белай пены скакуна.

Наш век другі — другі парадак.
Бабуля, шлях свой не забудзь.
Усё жыццё была ты ззаду,
Хоць раз уперадзе пабудзь!

## ВЕРАБ'І

Вераб'і аднолькавыя ўсюды —
Многа прастаты і пустаты.
І нярэдка судзяць самасудам
Іх за гэта грэшныя каты.

* * *

І мы закідваць будзем вуды,
Закідваць вуды — хто куды.
Я не закідваю нікуды —
І ў тым няма маёй бяды.

І для сябе прашу я мала,
Хачу, каб мог, пакуль стаю,
Закрыць ад блізкай смерці маму
І ад бяды — любоў сваю.

* * *

А тут нямнога трэба думаць:
Вакзал — і дробныя агні.
Бяжыш, ратуешся ад тлуму
Да цішыні, да чысціні.

Але не ўсё, напэўна, проста,
Калі цяпер відзён з акна
Спакой маўклівага пагоста
І — вёска ціхая відна.

* * *

Дзяды і прадзеды — якія вы?
І дзе, скажыце, тая ніць,
Якую ў спадчыну пакінулі,
Каб ёй вякі навечна зліць?

І што цяпер вам можа сніцца,
Калі я тут, пад шум травы,
Звіню танюсенькаю ніццю
Між мёртвым светам і жывым.



Ёсць рака.
І лодка ёсць.
І вуда.
Што змагу —
Аб тым яшчэ маўчок.
З таямнічай важнасцю, як Буда,
Адзяю прынаду на кручок.

Думаю,
Што рыба звар'яцела.
Міг адзін —
І будзе у руках.
Эй,
Каму жыццё падзешавела,
Налятай хутчэй
На чарвяка!

Толькі хітрасць гэта,
Як аскома.
І ніякі сон мой
Не ў руку.
Нават печкуру,
Як нам нікому,
Неахвота біцца на кручку.



Скруціла, як хвароба, гора,
І вось нахмураны, як таць,
Усё, чым жыў яшчэ учора,
Ты хочаш сам жа растаптаць.

А стрэлкі, як на каруселі,
Ляцяць за часам напралом.
І кожны дзень, як наваселле,
У новы век — у новы дом.



І за якія грэшныя грахі
Навекі разыходзяцца шляхі?
Мы, як дзяржавы рознай пасланцы:
Ідуць дарогі нашы ў два канцы.
І мы выходзім моўчкі за сяло.
Маўчым таму,
Што сорамна прызнацца,
Што нас маленства,
Як сяброў, звяло
І, як знаёмых,
Развяло юнацтва.

## У СПЁКУ

Асфальт здаецца чорным воскам.
Пачырванелі правады.
І ты спяшаеш да кіёска,
Як самавар хрыпіш: «Вады!»

Ды у адказ разводзіць рукі
Лісьлівы тоўсценькі гандляр:
«Вады няма. Ёсць скрынка «Рускай».
І пі, хоць ля кіёска ляж!»

Ля магазіна «Піва. Воды» —
Яны ўжо выпіты даўно —
Бяруць усе з маўклівай згоды
І хлешчуць белае віно.

І спёка так усіх даводзіць —
Не па глытку п'юць, а да дна.
І бачна, як убок адводзіць
Кагосьці шустры старшына.

Ну што ж! Ты піць зусім не ўмееш,
І валіць з ног смяротны сон.
А ўсё ж, а ўсё ж ты разумнееш,
Бо забываешся на ўсё.

Студэнт — на летняе заданне,
Садоўнік — на свае сады,
А той, хто піць хацеў нядаўна,
Забыўся, што няма вады.



Можа, гэта не пярун
Бліскавіцай блісне,
Можа, пранікі пяруць
Сэрцы, як бялізну?

Дажджавая вада —
Вугальнае масла.
Выплаўляецца руда
З душ і масак...

Падстаўляю руку —
На далоні пуста.
Па твары цякуць
Сонечныя пуцікі...



Як існавала,
існаваць працягвае
Няпраўда —
спадарожніца людзей.
Недабрадзей руку, нібы працяжнік,
Мне падае, як лепшы дабрадзей!

Стаю.
Маўчу.
І нават крышку сумна:
Пра гордасць гэткі, пэўна, і не чуў.
А калі я вазьму
і першы суну,
Але яму я сунуць не хачу.

Я не баюся тых,
што пра сябе ужо даволі знаюць,
Баюся тых,
што прытаіліся,
Баюся тых,
якіх не распазнаць.

* * *

Перакаты. Перагулы.
Цішыня пустых лясоў.
І палі, дзе вецер хмуры
Вяжа петлі з каласоў.

А павяжа — заспявае,
Пыл абтросшы на зямлю:
«Будзе бегчы шэры заяц —
Трапіць заяц у пятлю».

І чуваць далёка недзе
Аж да першых блікаў дня
Потым песня пра мядзведзя
І малое птушаня!

* * *

Хочацца спакойнай прастаты,
Хочацца смяяцца і любіць.
Хочацца, прызнаюся, на «ты»
Хоць хвіліну з вечнасцю пабыць.

Хочацца... Хацелася... Карціць.
Толькі у туманнае бязмежжа
Мара сінявокая ляціць,
Як забойца з Эйфелевай вежы.



Хмурымся, трывожымся і плачам.
Я гляджу і думаю яшчэ:
Радасць — нераспелы адуванчык,
Дзьмухні — і рассыпецца ушчэнт.

## ДЭМАН

Прыйшоў у хату — раўнапраўны —
З цвікамі вогненных вачэй,
І галава, як герб дзяржаўны,
Была прыбіта да плячэй.

Хоць я і сёння не паверу,
У чым я праў, у чым не праў,
Але узяў ён з рук паперу
І ручку вечную зламаў.



Я раю ўсім нам не забыць,
Што можа хітры вораг злы
Не толькі крытыкай забіць,
А нават куляй пахвалы.

О, колькі ўслаўлена й забіта
Ў зеніт узнятых да пары!
Ужо даўно мае забыты
Таленавітыя сябры...

— Так чыста ўсё,
усё так слаўна —
Смяецца хітры вораг злы...
Я не хачу мінутнай славы
І хітрай чорнай пахвалы!

Калі хто хваліць, значыць — валіць,
І бачу я — я не аслеп,—
Што ён мяне таму і хваліць,
Каб я не змог нічога лепш!..



Я всегда иду на красный свет.
*М. Святлоў*

Усё ў парадку. Ёсць сваё жытло.
І дакучаць цяпер пачнуць, канешне.
Я для нягоднікаў чырвонае святло —
Ліхтар чырвоны на дзвярах павешу.

Хто добры — прыйдзе праз чырвоны дым.
Люблю усіх упартых і цаню.
І дзверы расхінуцца прад адным
У чысціню — святую цішыню.

## МОЙ ПАКОЙ

Знаёма і гэта і тое.
Ахвота глядзець і глядзець
На крэсла сваё пустое
І нават на ўласны цень.

Фіранкі мае [illegible] бумазеі!
Калі я на ўсё пагляджу,
То думаю, што па музеі —
Па ўласным музеі хаджу.

Куды мне з яго падзецца?
Вачэй не магу узняць,
Каб з тым, маладым, не сустрэцца,
Якому ўсяго дваццаць пяць.

* * *

Упэўненасці, веры не стае.
І мы, свае, як быццам не свае.

Я над табой ужо нямала год
Кружуся, як падбіты самалёт.

А пазыўны і сёння невядомы
Да губ тваіх — жывых аэрадромаў.

* * *

І пілікалі, і цілікалі
З языком і без языка.
Музыканта знячэўку аклікнулі,
І разгублена змоўк музыкант.

Цішыня маладая, вялікая,
Як сініца, зляцела ў руку,
І чуваць, як гадзіннікам цікае
За спіной першабытны цвыркун.



Выплываюць тры новых труны,
Дзве вялікіх, адна малая.
Адплываюць у рэдкія сны,
З нашай памяці адплываюць.

Ці зусім я ужо акалеў,
Адкажыце: у вас пытаю.
На адной я труне «Аляксей»,
На другой я «Сцяпан» чытаю.

Проста кружыцца галава,
Разбягаюцца літары тыя...
Хто жывымі нас пахаваў?
Мы, здаецца, яшчэ жывыя...

Адплываюць тры новых труны,
Дзве вялікіх, адна малая...
Гэта сны, гэта толькі сны,
З нашай памяці адплываюць.



Усё злілося ў музыцы і танцы —
У новы год працягваюць палёт...
Гарацъ, гараць мае пратуберанцы,
Мінулае прабіўшы навылёт.

Ну што ж, ну што ж,
звоны мае прабілі,
І вось цяпер усё-усё аддаць.
Пра што б ні думаў,
Што ні гаварылі.
Мне хочацца на шчасце пажадаць!

Не дай вам бог з нялюбай цалавацца,
Сваю сям'ю чужому пакідаць.
І ад зямлі — не дай вам! — адарвацца,
А галавою — неба не дастаць!

## ПРОДКІ

Як продкі жылі —
Здагадацца няцяжка:
На вечных палотнах
працягваюць жыць,
Калі ён казах,
то мадонна — казашка,
Калі беларус,
то Хрыстосам — мужык.



І капяжы расплешчуцца ў далонях,
І затрапеча зайчыкам далонь.
Запарыла зіма бялёсых коней,
Падковай б'е вясны зялёны конь.

Даўно пара!
І па прычыне гэтай
Прачапаюць на поўнач халады,
І павадамі, ўпушчанымі следам,
Пацягнуцца
струменьчыкі
вады.



Ёсць нешта дзікае ў прыродзе,
У рыжай глiнiстай вадзе,
Калі ідзеш і не выходзіш
Па ёй да берага за дзень.

Стаіць сасоннік рэдкаваты,
Як лесу даўняга шкілет.
Балота гаўкае заўзята,
Нібы смакуе ужо абед!

І пень, што свеціцца начамі,
Разінуў свой бяззубы рот.
І бачна — горнымі вачамі
Глядзіць...
і ўсё наадварот,

Калі пазней, мінуўшы беды,
Зямлю убачыш ты здаля,
То ўжо і бераг, як не бераг,
І ўжо зямля, як не зямля!



Якія таямнічыя сабакі!
Бывала, ў самых лютых на віду,
Мінаючы іх позірк абыякавы,
Праходжуся. Ля самых лап іду.

А гэты — і нямыты, і калматы —
Рвануўся ні з таго і ні з сяго.
І хоць паспеў у час падмазаць пяты —
Адчуў клыкі жалезныя яго.

## ЗЯЗЮЛЯ

Яна — матуля з вечным горам.
І хто падкажа, як ёй жыць —
Прырода падарыла голас,
Не навучыла гнёзды віць.



Выходзяць з поезда мiране,
На кожным — асаблiвы знак.
Калгаснiкi цi хутаране —
Адразу можна распазнаць.

На тварах iх — раскрытай картай
I у жанчын, i у мужчын
Ляжыць той позiрк ваўкаваты,
Якi не вывесцi нiчым.

Кiрмаш, дзе мераюць на фунты,
Касцёл, дзе б'юць паклоны нiц,
I горад сам — вялiкi хутар —
Стаiць наводшыбе сталiц.



Хто — за пяро,
Хто — за палітру.
Садзяцца важныя за стол.
Адзін — гандляр,
Другі — палітык,
А я пакуль яшчэ ніхто.

І з галавой, спавітай крэпам,
Жалобным крэпам цяжкіх дум,
Мне тут дано глядзець на крэпасць,
Што апускаецца ў ваду.

Разбіты вал — вярблюд гарбаты.
Яму ужо не першы год
Вада з накатам і адкатам,
Як ствол гарматы, б'е у горб.

А над вадой жалобным крэпам
Галіны шэрыя вісяць,
І хлапчанё штурмуе крэпасць,
І ў гэтым будучыня ўся!



Срабрысты круглатвары
купал — строгі
Пярун перахрысціў
і не скрышыў.
Ідуць дарогі
цераз два парогі —
Парог царкоўны
і — парог душы.
Ад жоўтых рыз і
ад аплыўшых свечак,
Ад чаду,
што, здаецца, з ног саб'е,
Дыхне спакойным
і далёкім нечым
І так,
што будзе век не па сабе.
І выплывуць,
нібы з трагічнай сцэны,
На пачарнелых
залатых лістах
Угоднікі,
якіх распялі сцены,
Як некалі
міфічнага Хрыста.
Спакойныя.
Ніколі ім не цесна
І за сябе не боязна нічуць,
Як бюракратам,
што занялі крэслы,
З пасад іх
і жардзінай не сапхнуць.
Бязмозглыя,
а кожны корчыць бога.

Пярун перахрысціў
і не скрышыў.
Ляжаць дарогі
цераз два парогі —
Парог дубовы
і парог душы.
Парог дубовы нізкі —
недалёка.
Каменны ганак
распластаўся ніц.
Адзін парог
пераступаю лёгка.
Другі —
я не магу пераступіць!



Спяшайся, восень!
                    Не спяшаецца.
І нават ёсць яшчэ настрой.
Як толькі можа, адгукаецца
Лістотай, травамі, вадой.

Напэўна, мала, мала выкупу!
Хоць і лісты ужо радзей,
Але не можа ў лужы выкупаць
І дзюбы нават верабей.

А над скрываўленай рабінаю
Тут, на ускраіне сяла,
Сукі вісяць, нібы рубільнікі
Да электрычнага стула!

* * *

Ёсць слаўны горад Магілёў,
Куды прыносіць поезд плаўны
І дзе, здаецца, не магло
Нічога скончыцца бясслаўна.

Навошта ж дробнай крыўды завязь,
Што у душы на самым дне,
Перарастае у нянавісць
І цяжка мучае мяне?..

Ты ў гэтым горадзе жывеш
І для мяне — не існуеш!

* * *

Маланкі — не падняць вачэй,
Каб паглядзець і ўцяміць,
Што высах гром, нібы Кашчэй
Ідзе,
Грыміць касцямі.



Я рос і смаку перніка не ведаў,
Я у вайну нідзе не бачыў пернік,
А апынуўся у далоні пеўнік,
Які дастала недзе мудрасць дзеда.

Зубамі я ўсяму рабіў праверку.
Пакаштаваў і ледзьве не заплакаў,
Я толькі бульбу пазнаваў па смаку
І на падлогу выплюнуў цукерку.

Смяяліся усе: «Ну што ты, хлопец!
Не хочаш есці, то аддай камусьці».
І толькі дзед нахмурыўся чамусьці,
Адрэзаўшы сыноў уладным: «Хопіць!»

Паслухаўшы, вы мусіце згадзіцца,
Якое у мяне было дзяцінства.

## БАБУЛЯ

Ніхто больш абрус не засцеліць.
Не веру жалобнай мане!
Абмылі яе і адзелі,
Адпелі яе без мяне.

Казалі, пайшла яна ноччу
Спакойна і часам такім,
Што раніцай клалі на вочы
Два медныя пятакі.

І ўбачыў я, плачучы горка,
Прагнаўшы і гора, і страх,
Што ясна гарэлі, як зоркі,
Манеты ў яе на вачах!



На месцы інвалідаў і дзяцей
Стараюцца калекі не садзіцца,
Бо інвалідам быць ім не гадзіцца
І на пратэзах пастаяць прасцей.

Не трэба ім, не трэба да зарэзу,
Не толькі чалавечае спагады,
А нават рэчаіснасці і праўды,
Што ў іх з вайны парыпваюць пратэзы.

Ты просьбу іх апошнюю уваж,
Калі хто з іх знячэўку пахіснецца,
Канешне, уступі старому месца,
Але яго пратэзаў не заўваж.

Жыццё яго — бясконцая карыда.
Не крыўдзіце старога інваліда.



Бацькі з дзяцінства самага, здаецца,
Наперад не закідвалі салому,
Хоць ветліва старому і малому
Яны заўсёды уступалі месца.

Калі ж яны кідаліся пад танкі,
Акопчыкі маленькія капалі
І месца ў ланцугу не уступалі,
Хадзілі разам з іншымі ў атаку.

Пажоўклыя святыя фотаздымкі...
Жывых я не запомніў і не знаю
І месца у трамваі уступаю
Падобнаму на тых, хто ўжо за дымкай.

Але любоў да краю, што люблю,
Нікому і нідзе не уступлю.

## МЕДАЛІ

Як толькі паяснеюць ад праталін
Узгоркі над узбухшаю ракой,
І на грудзях бацькоўскія медалі
Пазвоньваюць у босых хлапчукоў.

За Вену, за Варшаву...
І знянацку
Я мог любую цацку упусціць,
Успомніўшы, што я расту без бацькі,
Што мне яго медалі не насіць.

І сумяты, маўклівыя, як сфінксы,
Ды часам ветру сакавіты свіст,
Напаміналі мне, што ён на фінскай,
Падрэзаны, упаў, як з дрэва ліст.

Я праклінаў тады вайну і кулі
І дзень, калі у дом прыйшла бяда,
І не у бацькі,
а ў сваёй бабулі
Я з куфра ўзяў адноечы медаль.

Я з ім ішоў па вёсцы ганарыста
І на сустрэчных я наводзіў жах:
Бабулін той медаль за мацярынства
Гарэў і пераззвоньваў на грудзях!



Жыць вечна — не даю сабе зарок.
Мазоль жыцця — парэпаны грудок —
Акамянее.
Старасць — не праб'е
Картуз пліты,—
Каменны казырок,
На бровы траў насунуты знарок,—
Надзейны шчыт ад самаго сябе.



Дождж і дождж бесперапынку,
Затапіла, заліло.
Аднакрылыя прыпынкі.
Азалелае крыло.

Не паветра — сшытак нотны,
І сцвярджае дальні гул,
Што яшчэ за гарызонтам
Хмары строяцца ў чаргу.

Дроў маланкі накрышылі,
Сіняй радугай рака,
На збянтэжанай крушыне
Гарызонт, нібы аркан.



Траву на беразе — скасілі.
Дарогу грэйдэр укатаў,
На правым беразе — Расія,
На левым беразе — Кітай.

І параўнаць заўжды карцела,
Зірнуўшы ў сінь праз трыснягі,
Мне Усуры з вялікім целам,
Дзе быццам рукі — берагі.

І раўназначна месцу, сіле
Я параўнаў спакойна там
З рукою праваю — Расію,
З рукою леваю — Кітай.

Траву на беразе скасілі.
Дарогу грэйдэр укатаў.
Адна дарога у Расію,
Другая — сцежка у Кітай!



Мароз ударыў нечакана,
І так, што вочы не падняць.
Як серабрыстыя фантаны,
Таполі з ліпамі стаяць.

І гэтак дзіўна і нязвычна
Глядзець на мёртвы сіні снег,
Як быццам хто знячэўку выцяў
Цябе балюча па спіне.

І крыўда, што сціскае грудзі,
І спёрты дых, што заняло.
Яшчэ жывуць не тым, што будзе,
А тым, што некалі было.

Калі ж, калі ж мароз пякучы,
У сэрца стукнуўшы, міне,
То неяк страшна і балюча
І горка думаць аб вясне.

## РОЗДУМ ПЕСІМІСТА

Жывеш,
І дзіўна так выходзіць:
Ступенькі год
Ля ног ляглі,
І колькі ты
Ні узыходзіш,
А апынаешся
Ў зямлі.

* * *

Адны бягуць да фінішу.
Другія — на Парнас,
Дзе вінаград і фінікі,
І абганяюць нас.

Але, як ні спяшаюцца —
А Байрана узяць —
Кульгае, аддаляецца,
І так, што не дагнаць...



Маленькі горад — безгалосы,
Сагнуты вуліцы ў кручок.
І дапатопныя калёсы
Стаяць упоруч з «Масквічом».

І я гляджу з далёкім сумам,
Калі, паказваючы прыць,
Не хоча конік легкадумны
Дарогу веку уступіць.

## СКАРГА ПЕРШАКУРСНІКА

Калі б ён знаў — стары Гамер,
Якое гора прынясе нам,
То не пісаў бы ён цяпер
Такою доўгай «Адысею».

І я не знаю, як мне быць:
У тоўстай кнізе столькі сілы,
Што можна лёгка з ног ёй збіць
І больш — давесці да магілы.



Калі з'яўляецца бяда,
Ад крыўды згубіш розум,
Тады нічога не шкада
Рукам, рукам цвярозым.

І можна цэлы свет скрышыць,
Бо патрабуеш смела,
Калі ў цябе душа баліць,
Каб і ў другіх балела.

Калі ж на вогненнай зары
Развесяць форткі вушы,
То мёртвым светам ліхтары
Гараць, як нашы душы!

## КЛЁН

Узмах упэўненай рукі —
І вось ужо з-пад апантанай
Маёй размашыстай кіркі
Угору пырснулі фантаны.

І будзе клён!
Яго нутро
Зазвоніць весела і звонка.
У круглай яме, як вядро,
Пачне расці наперагонкі.

І хоць я парастак садзіў,
А ён любога перагоніць.
І ўбачу: неба праламіў
І ў сіні звон вяршыняй звоніць.

І будзе радасна да слёз,
І я падумаю знянацку
Пра клён,
сябе, і бацькаў лёс,
І сына,
што вышэй за бацьку!

## МАЙСТАР

Усё з тапорыкам, тапорыкам
І вось ужо — нарэшце! — дзед.
Застыне майстар і апомніцца,
І паглядзець захоча свет.

Зазвоняць хаты меддзю, бронзаю,
Перад якімі гнуў спіну.
Сабе ж зрабіў ён крыж бярозавы
І збіў сасновую труну.

І будуць домікі і домікі
У жоўтых крапістых суках
Каля дарог стаяць, як помнікі
Яго мазолістым рукам!

## ЛЕСУ

Мы пілавалі тут
                    і палявалі,
Душой чысцелі ў чысціні расы.
Мы не заўсёды лес наш ратавалі,
Ды вечна ратавалі нас лясы.

## МІР

Глянь:
Сярод ракет, сярод радараў,
Босы — на аголеным мячы —
Мір стаіць маленькім санітарам
З ношаю вялікай на плячы.

## ГАЛУБЯТНІК

Шапку рыжую — вобзем, долу — выцвілы
ватнік.
Услаўляючы сонца, зямлю і любоў,
Ён стаіць на страсе — малады галубятнік —
І пускае у неба сваіх галубоў.

Ён махае жардзінкай, як дзідаю ратнік.
Стуманелыя стрэхі угнулі гарбы.
І пусцеюць суседскія галубятні,
І да сонца лунаюць яго галубы.



У стэпе кавыльным і пыльным
У поўдзень хвіліну прыстой:
І — неба гудзе лесапільняй,
І — круціцца сонца пілой.

Здаецца, прыгледзішся трошкі —
І ўбачыш, стары і малы,
Як падаюць сінія дошкі
Уніз з-пад гарачай пілы.



І радасна, і сонечна,
Калі плячо ў плячо
Ідзе са мною Сонечка —
Харошае дзяўчо.

Няроўна сэрца цікае.
Трывога у вачах.
Не любіць Соня ціхае
Жыццё тупых мяшчан.

Не трэба зор і месяца,
Што муж ёй дастае,
Калі ў гурбах мяцеліцы
Даўно душа яе.

Ідзе і усміхаецца,
Не знаючы чаму,
І сонца разбіваецца,
Як хваля аб карму!

## МНЕ ТРЭБА

Жылі калісьці дзівакі,
Што не сядзелі дома,
А выглядалі з-пад рукі
Той свет, што невядомы.

Багаты ехаў на кані,
Бяднейшы — пехатою.
Скрыпелі лямак рамяні
Дарогаю крутою.

І не замальваць нейкі грэх,
Не вочы новым цешыць:
Адзін — ад злоснай жонкі бег,
Другі — ад хітрай цешчы.

Жартуюць з даўняе пары,
Што па прычыне гэтай
Змаглі Амерыку адкрыць
І вынайсці ракету...

І каб змагчы што у жыцці,
Патрэбна мне, канешне,
І жонку злосную знайсці,
І пасварыцца з цешчай!



Далёкі лес —
Разбуджаны:
З зары і да зары
Даўно сапуць
Прастуджана
Ў малінніку вятры.

Пастуквае,
Патупвае
Зіма, як чараўнік,
Пакуль сама
Захлюпае
Нагамі чаравік.

# ЗМЕСТ



## МІННАЕ ПОЛЕ (1964—1969)

## ПЯРСЦЁНАК (1963—1970)

З НЕАПУБЛІКАВАНАГА (1959—1970)

**Сербантовіч А.**

С 32 Жаваранак у зеніце: Вершы/Укладанне і прадм. С. Кавалёва.— Мн.: Маст. літ., 1989.— 478 с., [1] л. партр.

ISBN 5-340-00116-4.

Сербантович А. Жаворонок в зените: Стихи.

Анатоль Сербантовіч (1941—1970) не пражыў і трыццаці гадоў, але пакінуў прыкметны след у беларускай літаратуры. Яго паэзія — па-юнацку дзёрзкая, страсна-палемічная, з гадамі станавілася ўсё мудрэйшай і глыбейшай, імкнулася да лірыка-філасофскага асмыслення жыцця, да шырокага погляду на свет.

У кнігу ўвайшло ўсё лепшае з яго вядомых кніг («Азбука», «Міннае поле», «Пярсцёнак») і творы, якія раней не друкаваліся.

С $\frac{4702120202—018}{М 302(03) — 89}$ 113—89 **ББК 84Бел7**

Литературно-художественное издание

**СЕРБАНТОВИЧ**
**Анатолий Станиславович**

**Жаворонок в зените**

Стихи

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке



Літаратурна-мастацкае выданне

**СЕРБАНТОВІЧ**
**Анатоль Станіслававіч**

**Жаваранак у зеніце**

Вершы

Загадчык рэдакцыі *Г. С. Шупенька.* Рэдактар *М. М. Мятліцкі.* Мастак *Н. У. Сустава.* Мастацкі рэдактар *Л. Я. Прагін.* Тэхнічныя рэдактары *А. Б. Барадзіна, М. Ц. Папкова.* Малодшы рэдактар *С. І. Расянчук.* Карэктар *Н. У. Доваль.*

ІБ № 2387

Здадзена ў набор 24.03.88. Падп. да друку 21.11.88. АТ 08776. Фармат 70×90 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 17,55+0,07 укл. Ум. фарб.-адб. 17,62. Ул.-выд. арк. 14,50. Тыраж 4000 экз. Зак. 1242. Цана 1 р. 70 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.